*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 16 чэрвеня 1989 г. № 24 (3486) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



Дэпутат вярнуўся са З'езда. (Станіслаў ШУШКЕВІЧ пад час сустрэчы з супрацоўнікамі НДІ прыкладных фізічных праблем імя А. Н. Сеўчанкі).

Фота А. КАЛЯДЫ.

## З ПРАВАМ РАШАЮЧАГА ГОЛАСУ

**Два тыдні мы былі падключаны да З'езда. Хваляваліся, радаваліся, абураліся... Далучанасць да надзвычайнай падзеі бадзёрыла, павышала тонус нашага абуджанага і ўзбуджанага грамадства.**

Тым часам эмацыянальная вастрыня паступова аціхае, што зусім натуральна. З'езд народных дэпутатаў СССР як палітычны і сацыяльна-псіхалагічны феномен усё больш і больш настойліва прымушае думаць, разважаць, аналізаваць. І для папярэдніх высноў важная, магчыма, не так ацэнка самой падзеі, як спроба зразумець: што ж з намі адбылося (і працягвае адбывацца). З тымі, хто непасрэдна ўдзельнічаў у гарачых парламенцкіх дэбатах. З тымі, хто імкнуўся да драбніц занатаваць у памяці з'ездаўскія калізіі.

Усе разам мы здабывалі і асвойвалі вопыт паўнакроўнага палітычнага жыцця. «Нашы дэмакратычныя спадзяванні, — казаў, выступаючы на З'ездзе, Чынгіз Айтматаў,— пасля дзесяцігоддзяў народнага маўчання, пасля дзесяцігоддзяў абстрактных абяцанняў трыумфу абстрактнага камунізму, пасля цяжкага духоўнага заняволення, пасля ідэалагічнага і эканамічнага таталітарызму, самападману і хлусні нарэшце знаходзяць цывілізаванае ўвасабленне».

Цывілізаванасць немагчыма імпартаваць ці ўкараніць метадам «стрыжкі барадаў». Але немагчыма ўжо і іншае — не быць цывілізаванымі, калі ў краіне, здараецца, выбухаюць ядзерныя катлы і газаводы, лятуць пад адхон цягнікі, калі эпіцэнтрам успышкі страшнай хваробы робіцца радзільны дом, калі танкі на гарадскіх плошчах з'яўляюцца не дзеля дэманстрацыі адзінства арміі і народа, калі толькі прыродны гумар дазваляе гасіць стрэсы ад сюрпрызаў эканомікі... (Адзін з дэпутатаў нагадаў, што суседства дагледжанага дамка і вышэзнай будыніны, якая вось-вось можа заваліцца,—небяспечнае).

Так, наш шлях да цывілізаванасці ідзе праз вызваленне ад многіх і многіх ілюзій, а гэта далёка не самы камфортны стан чалавека. За ўсё, аднак, даводзіцца плаціць, і мы плацім—нестабільнасцю, няўпэўненасцю. Прагнем жа пэўнасці, ладу, таго, што завецца нармальным жыццём і сёння ўжо не лічыцца чымсьці заганным. І ці ж не гучыць у шматгалоссі грамадскай актыўнасці адзін, па сутнасці, рэфрэн — «ну колькі ж можна»? «Людзі ідуць на мітынгі не таму, што ім хочацца мітынгаваць, — адказваў на неаднойчы чутае «працаваць трэба!» Гаўрыіл Папоў. — Яны не бачаць гарантый для сваёй будучыні, не бачаць выйсця ў працы».

Ці даў такія гарантыі З'езд, з трыбуны якога ў прамы эфір выплеснуліся, здаецца, усе нашы трывогі, спадзяванні, супярэчлівасці? Днямі ў друку з'явіліся вынікі сацыялагічнага апытання, якія засведчылі больш чым цвярозы погляд на сітуацыю. Так, напружанай, але малапрадукцыйнай работу З'езда палічылі ў Маскве—65 працэнтаў апытаных, у Ленінградзе—69, у Таліне—72, Алма-Аце—48, Кіеве—55, Тбілісі—81. У той жа час большасць пагадзілася з тым, што З'езд абмеркаваў найбольш важныя для краіны праблемы. Працэс важней за вынік? Атрымліваецца, што так. І ў гэтым, думаецца, сутнасць. Нехта ўжо заўважыў, што мы знаходзімся ў становішчы, падобным на тое, калі людзі будуюць карабель і спрабуюць адначасова плыць на ім.

Сюжэт З'езда—яркі, насычаны, часам непрадказальны — асаблівасцю сваёй меў незавершанасць. Сказанае — не крытычны закід, а простая канстатацыя. Дэпутаты працавалі паводле часовага рэгламенту, фарміравалі Вярхоўны Савет з умовай будучай ратацыі, стваралі па спрэчных пытаннях камісіі для вывучэння...

(Працяг на стар. 2).

Валянцін АКУЛАЎ,
доктар філасофскіх навук, прафесар

# ШТО ПАКАЗАЎ З'ЕЗД?

ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ ЭСКІЗ

Дык вось, падзея, якую мы з такім нецярпеннем чакалі і з якой звязвалі такія вялікія спадзяванні, здзейснілася. Першы З'езд народных дэпутатаў СССР адбыўся.

Што ж паказаў З'езд? Перш за ўсё расстаноўку грамадскіх сіл на цяперашнім этапе перабудовы, рознасць падыходаў да рашэння кардынальных пытанняў эканамічнага, палітычнага і духоўнага развіцця краіны. Тое «маналітнае адзінства», якое,. здавалася б, стала для нас ужо дрэннай традыцыяй, цяпер праявілася, бадай, толькі ў адным: ва ўсведамленні таго, што так жыць далей нельга. Зрэшты, карысці ў такім адзінстве, як відавочна, няшмат: З'езд проста канстатаваў даўно ясны для кожнага факт. Істотна іншае: у чым бачыліся прычыны таго, што перабудова ідзе з такім натужлівым скрыпам, рыўкамі, то паскараючыся, то замаруджваючы ход, то наогул робячы такія неверагодныя рухі, у якіх не змог бы разабрацца і сам Броўн. Менавіта тут, у гэтым пункце і выявіліся прынцыповыя адрозненні, што спарадзілі вострыя, багатыя на драматычныя моманты дыскусіі і ў ходзе абмеркавання рэгламенту З'езда, і пры абмеркаванні дакладаў М. С. Гарбачова і М. І. Рыжкова.

Не трэба суцяшаць сябе ілюзіяй, што карані гэтых калізій ляжаць у недахопе палітычнай культуры, адсутнасці дэмакратычных традыцый, у тым, што мы ўсяго толькі «вучымся дэмакратыі». Вядома, палітычнай культуры, як, зрэшты, і культуры элементарнай, штодзённай, нам сапраўды не хапае. А ўзровень выступленняў паасобных дэпутатаў здольны быў развесяліць нават самага панурага чалавека. Але хіба справа ў гэтым, а тым больш — хіба толькі ў гэтым? Хіба трэба валодаць вялікай мудрасцю, каб зразумець: акруговыя выбарчыя сходы — гэта чысцілішча, у якім апаратчыкі будуць аддзяляць грэшных ад праведнікаў? Ці што наша эластычнае «як правіла» стане правілам для тых, чые месцы на З'ездзе і ў Вярхоўным Савеце СССР былі ўжо загадзя зарэзерваваны? Праўда, сям-там сістэма не спрацавала і атрымаўся канфуз. Але выключэнне, як вядома, толькі пацвярджае правіла. І склад З'езда лішні раз засведчыў гэтую старую ісціну. А вазьміце праславутыя квоты ад рэгіёнаў пры выбарах у Савет Саюза? Хіба не было відавочна кожнаму, што яны пазбавяць дэпутатаў магчымасці альтэрнатывы і тым самым ператвораць выбары ў фарс? Хіба ў кагосьці заставаўся хоць бы цень сумнення ў тым, як будзе фарміравацца персанальны склад гэтых квот?

Каго, напрыклад, можа пераканаць, што наша безразмернае «як правіла» пры выбарах у Вярхоўны Савет СССР дыктавалася адзінай мэтаю: не пазбаўляць магчымасці ўдзельнічаць у яго рабоце тых, чый вопыт і веды могуць прынесці адчувальную карысць? Хіба гэтыя вопыт і веды яны не маглі праявіць проста ў якасці народных дэпутатаў, уваходзячы ў камітэты і камісіі Вярхоўнага Савета з правам дарадчага голасу? Нарэшце, чаму ў Вярхоўным Савеце не знайшлося месца некаторым з тых людзей, якія зарэкамендавалі сябе сапраўднымі і паслядоўнымі прыхільнікамі перабудовы, людзей, якія мысляць нетрывіяльна, кампетэнтна, якія не толькі маюць што прапанаваць, але і могуць адстойваць свае погляды? Няўжо вопыт і веды эканаміста Папова, сацыёлага Заслаўскага, гісторыка Афанасьева менш важкія, чым вопыт і веды якога-небудзь функцыянера, усе палітычныя дабрачыннасці якога заключаюцца толькі ў здольнасці праводзіць «лінію»? І не трэба гаварыць аб ратацыі: важнейшыя дакументы, якія прадвызначаць лёс перабудовы, будзе прымаць сённяшні Вярхоўны Савет. Ці не акажуцца народныя дэпутаты ў становішчы, калі іх магчымасці будуць блакіраваны пракруставым ложам тых прававых актаў, якія прыме Вярхоўны Савет?

З гэтай праблемай дэпутаты сутыкнуліся ўжо пры абмеркаванні часовага рэгламенту З'езда: як новае віно ўліць у старыя мяхі? Як выказаць той новы, рэвалюцыйны змест, які прынёс З'езд, у састарэлых формах сёння дзеючай Канстытуцыі СССР? Чытачы, пэўна, звярнулі ўвагу на тое, што ў ходзе абмеркавання парадку дня і парадку работы З'езда былі вылучаны дзве прапановы: прапанова сходу прадстаўнікоў і прапанова так званай маскоўскай групы. Многімі дэпутатамі пытанне аб парадку работы З'езда было ўспрынята як чыста працэдурнае, чыста фармальнае, што не мае прамога дачынення да тых праблем, якія З'езд заклікаы вырашыць. Адсюль — і недаўменне, і нават раздражненне: маўляў, адводзяць людзей ад асноўных задач З'езда. А разам з тым гэта было пытанне не толькі працэдуры. Гэта было пытанне, тое ці іншае рашэнне якога прадвызначала (і прадвызначыла) вынікі выбараў калі не Старшыні Вярхоўнага Савета СССР (95,6 працэнта галасоў, пададзеных дэпутатамі за кандыдатуру М. С. Гарбачова, гавораць самі за сябе), дык, прынамсі, членаў Вярхоўнага Савета. Мне б не хацелася бачыць у прапанаваным сходам прадстаўнікоў парадку работы З'езда чыюсьці злую волю. Аднак факт застаецца фактам: адступленне ад дэмакратычнай працэдуры выбараў, заснаванай на альтэрнатыве і супастаўленні праграм дэпутатаў, істотна адбілася на якасным складзе Вярхоўнага Савета. А, можа, усё ж мае рацыю Чарнічэнка: «Не сама машына ходзіць, трактарыст машыну водзіць»? Паўтараю: не хацелася б так думаць. Але ж вельмі многае з таго, што адбывалася на З'ездзе, наводзіць на такія сумныя развагі. Прыгадаем хоць бы спісачнае галасаванне (аб тым, як рыхтаваліся гэтыя спісы, расказалі многія дэпутаты ў сваіх выступленнях) ў важнейшы камітэт —Канстытуцыйнага нагляду. Звяртае на сябе ўвагу і персанальны яго склад, сфарміраваны ў выніку гэтай, мякка кажучы, не надта дэмакратычнай працэдуры. З'езд, праўда, праявіў мудрасць і адклаў канчатковае вырашэнне пытання.

Вярнуся, аднак, да расстаноўкі сіл на З'ездзе. У гэтай сувязі хацелася б зрабіць адну папярэднюю заўвагу. У мяне не выклікае сумненняў, што шматстайнасць, а часам і палярнасць пазіцый, падыходаў, меркаванняў, якое праявілася ў працэсе работы З'езда, адлюстроўвае рэальную палітычную сітуацыю ў краіне. Але ў мяне ёсць вельмі сур'ёзныя падставы сумнявацца, што раскладка сіл на З'ездзе, сведкамі якой мы былі, адпавядае рэальным суадносінам сіл у самім грамадстве, і што тая «агрэсіўна-паслухмяная большасць», як назваў яе Афанасьеў, сапраўды выказвае пазіцыю і настрой большасці маіх суграмадзян. Можа быць, я памыляюся, але мне здаецца, што мы маем тут справу са з'яваю камеры-абскуры, у якой, як вядома, усё паўстае наадварот. Чаму так атрымалася, мяркую, сакрэту ні для кога няма: спрацавалі міны, якія былі закладзены ў дзеючы цяпер Закон аб выбарах і якія мы не здолелі своечасова абясшкодзіць. І хіба не сімптаматычная тая радасная гатоўнасць, з якой «большасць» згадзілася з прапановай праводзіць паіменнае галасаванне не па патрабаванні 100 дэпутатаў, а па рашэнні З'езда? Выснова адна: такога роду заканадаўчыя акты павінны выносіцца не на ўсенароднае абмеркаванне, пры якім добра рэалізуецца прынцып галоснасці, але, як правіла, не спрацоўваецца прынцып чутнасці, а на ўсенародны рэферэндум. Так і толькі так можа быць праведзена ў жыццё праграмнае патрабаванне партыі: перайсці ад кіравання ад імя народа да народнага самакіравання.

На З'ездзе фактычна супрацьстаялі дзве асноўныя плыні. Прычым гэтае размежаванне праходзіла не па тэрытарыяльнай, сацыяльнай альбо нацыянальнай прыкмеце, не па прыналежнасці ці непрыналежнасці да КПСС, у чым нас спрабаваў сёй-той пераканаць. І так званая маскоўская група, як паказаў ход дыскусіі, на паверку аказалася зусім не маскоўскай. Па-першае, яна не выказвала пазіцыі ўсіх маскоўскіх дэпутатаў. Па-другое, па ходу работы З'езда з ёй так ці інакш салідарызаваліся многія дэпутаты ад самых розных рэспублік і рэгіёнаў краіны. Яшчэ больш памылковым было б звязваць іх, гэтыя плыні, з тымі ці іншымі сацыяльнымі пластамі насельніцтва. Выступленні некаторых дэпутатаў-аграрнікаў, прадстаўнікоў рабочага класа, партыйных і савецкіх работнікаў па сваёй скіраванасці былі куды бліжэй да платформы, распрацаванай групай маскоўскіх вучоных, чым, скажам, выступленнем акадэміка з Новасібірска з досыць сімвалічным прозвішчам Мяшалкін. Лічу гэта прынцыпова важным падкрэсліць, бо не перавялася яшчэ папуляцыя людзей, якія жадаюць выступаць не ад свайго ўласнага імя і нават не ад імя сваіх выбаршчыкаў, а «ад імя і па даручэнні». То — усяго рабочага класа, то — усёй нацыі, то — усёй партыі, а то і наогул ад імя сацыялізму і Савецкай улады. А калі ж мы, нарэшце, скончым з гэтай рэпрэзентатыўнай псіхалогіяй?!

Іншая справа, што маскоўская група прыйшла на З'езд з прафесійна распрацаванай

(Працяг на стар. 13).

Г ЭТАЯ інфармацыя БЕЛТА некалькі тыдняў назад абышла ледзь не ўсе рэспубліканскія газеты: у калгасе «Нёман» Стаўбцоўскага раёна з'явілася новая пасада—гіда. Маўляў, гаспадарка знаходзіцца ля шашы Масква—Варшава, міма штодня праязджаюць сотні турыстаў, у тым ліку замежных. Чаму б іх не запрашаць у калгас? Паказаць у «Нёмане» ёсць што, поспехамі хлебаробаў можна пахваліцца. Таму і вырашылі тут увесці пасаду гіда, а заадно папрасілі турысцкае бюро, каб наведванне калгаса ўключалі ў турысцкі маршрут...

Наведванне «Нёмана» было ўключана і ў маршрут чарговага выязнога семінара творчай інтэлігенцыі, арганізаванага Мінскім абкомам партыі. Папярэдні семінар, наколькі памятае чытач, праходзіў напярэдадні майскіх свят у Слуцкім раёне. Цяпер партыйнае кіраўніцтва выбрала Стаўбцоўскі раён. Таксама не з горшых і ў вобласці, і ў рэспубліцы. Можа з'явіцца пытанне: чаму зноў паказваюць, так сказаць, лепшае? Чаму б не паехаць туды, дзе праблемы гаспадарання на зямлі спляліся ў такі тугі вузел, які нават і сёння, ва ўмовах перабудовы, няпроста развязаць?

Адказ на такое пытанне ўдзельнікі семінара атрымалі. Аказваецца, семінар задуманы як пастаяннадзеючы, разлічаны ён на працяглы час. будуць паездкі і ў горшыя гаспадаркі, ніхто нічога ўтойваць не збіраецца. Але напачатку лепш пабываць у перадавікоў, убачыць іх вопыт, каб пасля можна было даваць парады і адстаючым.

Слушна? Бадай што. Тым больш, што і арганізатары семінара—на гэты раз у ім прымалі ўдзел сакратары Мінскага абкома партыі У. Д. Атрошчанка і К. К. Дзягілеў, загадчык сектара культуры ідэалагічнага аддзела А. М. Рабіцава—далёкія ад думкі, што на той жа Стаўбцоўшчыне няма спрэчных момантаў у вядзенні сучаснай гаспадаркі. Здараецца і так, што поспех дасягаецца любой цаной. Улічваюцца першаступенныя, няхай і важныя задачы, а не заўсёды бачыцца перспектыва.

Такі аспект гаворка набыла на тэрыторыі калгаса «Чырвоная зорка». Правільней, на тэрыторыі калгаса і ПМК-74, бо на гэтай зямлі яны абодва ці не паўнапраўныя гаспадары. ПМК нават усё больш уладна бярэ ўладу ў свае рукі, бо гэта не простая перасоўная механізаваная калона, а арганізацыя меліяратараў!

Меліяратары? Тыя самыя, што гробяць мільярды? Супакоім эмоцыі. Меліяратарамі на Стаўбцоўшчыне, асабліва ў гэтым рэгіёне, зроблена і робіцца вельмі шмат. Не будзем называць сотні гектараў зямлі, адведзеных пад ворыва, іншыя сельскагаспадарчыя ўгоддзі. Пагаворым лепш аб тым, як непазнавальна змянілася сама вёска Дзераўная. Дзякуючы ПМК у ёй адбываецца комплекснае вырашэнне сацыяльна-культурных праблем вёскі. Удзельнікі семінара пабывалі ў дзіцячым садзіку-яслях «Зярнятка», бібліятэцы, музычнай школе, на стадыёне з гумавым пакрыццём, у спартыўнай школе. Усё зроблена дыхтоўна, з размахам і... з перспектывай. Дбаюць у ПМК аб тым, як замацаваць моладзь на вёсцы, таму не шкадуюць грошай і на спартыўныя збудаванні і на дарогі, і на асяродкі культуры...

Семінар адбыўся ў мінулую сераду, калі, як вядома, кульмінацыйнай вастрыні дасягнула гаворка на З'ездзе народных дэпутатаў. Удзельнікі семінара слухалі асобныя рэпартажы са З'езда. І ці не пад уплывам маскоўскай гаворкі задавалі яны

# З правам рашаючага голасу

(Пачатак на стар. 1).

З'езд адбыўся—З'езд працягваецца. Дыскусія, у якой выказваліся самыя процілеглыя думкі, дакладна вызначыла баланс паміж нашымі памкненнямі і нашымі магчымасцямі, паміж тым, што мы хочам, і тым, што можам сабе дазволіць. Але баланс гэты менавіта сённяшні, заўтра з'явяцца новыя рэаліі і, адпаведна, новае іх асэнсаванне. Працэс, — жывы працэс, стымуляваны З'ездам.

На магістральных кірунках дэмакратызацыі—рэформа палітычнай сістэмы, эканамічныя пераўтварэнні, духоўнае адраджэнне грамадства—З'езд не толькі не ўзвёў новых бар'ераў, але і тыя, што яшчэ па тых ці іншых прычынах яшчэ застаюцца, перанёс уперад на дыстанцыю, якую не перамахнеш адным разам.

Можна па-рознаму ацэньваць дасягнутае за гэтыя два тыдні. Больш таго, ніводная з вызначальных для лёсу нашай перабудовы падзей дагэтуль не ацэньвалася настолькі патрабавальна. Крытыкавалася нераспрацаванасць працэдуры З'езда, псіхалагічная і інтэлектуальная няздатнасць часткі дэпутацкага корпуса да палітычнай дзейнасці, спробы чыста па-апаратнаму «вырашаць пытанні», груба падганяючы іх пад вызначаны дзесьці за кулісамі адказ. Крытыкаваліся асобы, якія прэтэндавалі на высокія дзяржаўныя пасады. Крытыкавалася сама аджыўшая Сістэма, якая шмат у чым усё яшчэ вызначае наша жыццё і ў кожным зручным выпадку імкнецца выраўняць фронт. Крытыкаваліся «левыя», «правыя», «памяркоўныя»...

Але вось што цікава: на нашых вачах у зале, дзе сабралася столькі розных і ў большасці незнаёмых паміж сабой людзей, пачынаў дзейнічаць гнуткі механізм самарэгуляцыі. Найбольш яскрава гэта праявілася ў так званым «канстытуцыйным крызісе», калі літоўская дэпутацыя ўжыла надзвычай эфектны і эфектыўны сродак—пакінула залу ў знак пратэсту супраць няўзважанага рашэння, якое наспявала. У выніку, як вядома, быў знойдзены, сумесна выпрацаваны кампраміс, які адначасова зрабіўся і перамогай сапраўднага парламентарызму над «вечавай» псіхалогіяй.

«Народаўладдзе не сцвердзіцца, пакуль не выявіць эфектыўнасць больш высокую, чым любая іншая форма ўлады,—рэзюмаваў работу З'езда М. С. Гарбачоў.—Адсюль вынікае, што ў палітыцы нам давядзецца многае яшчэ засвойваць і да многага прывычайвацца». З'езд, які меў адзнакі грамадзянскага сходу, партыйнай канферэнцыі і палітычнага мітынгу, пакрысе набліжаўся да самавызначэння ў якасці форуму новага, вышэйшага тыпу. І ўсе мы набліжаемся да таго, каб і сапраўды мець тое, што заслугоўваем. З правам рашаючага голасу.

Андрэй ГАНЧАРОЎ.

## Адрас чарговага семінара творчай інтэлігенцыі — Стаўбцоўшчына

# Калі красуе жыта

нямала пытанняў, якіх раней у час падобных паездак не ўзнікала. І гучалі пытанні не проста як жаданне больш даведацца, а з трывогай, болем— за зямлю нашу, за лёс людзей на ёй.

Убачанае ў «Чырвонай зорцы» і ПМК уражвала, радавала, але ж узнікала і трывога. Пры пад'ездзе да Дзераўной кінуўся ў вочы «водны прамень» сярод зялёнага палетка —ці то меліярацыйны канал, ці то выпрамленая меліяратарамі рэчка? Гледзячы на гэта, А. Сульянаў заўважыў, што меліярацыя—паляпшэнне зямлі—у нас часам паварочваецца яе пагаршэннем. І У. Гніламёдаў напомніў, што, працуючы на зямлі, ставячы на першы план гаспадарчыя мэты, нельга забываць і аб маральна-філасофскім аспекце праблемы. Людзі ж прывыклі жыць на такой зямлі, якую яны бачаць з маленства. Невыпадкова ў Злучаных Штатах Амерыкі, скажам, свядома пакідаюць некранутымі некаторыя балоты.

Начальнік ПМК-74 М. Сахар вымушаны быў прызнаць, што сапраўды ёсць віна за меліяратарамі. Ды толькі цяпер, навучаныя горкім вопытам, яны сталі больш разумна ставіцца да зямлі, не захапляцца толькі гектарамі асушэння, пераважная частка выдзеленых сродкаў накіроўваецца на будаўніцтва дарог, культурна-тэхнічныя мэты, добраўпарадкаванне вёскі. Адышло ў нябыт і спрамленне малых рэчак. Дбаюць у ПМК і аб тым, каб на асушаных землях сеяліся травы, а не здабываўся торф для ўгнаенняў.

Праграма семінара была насычаная і разнастайная. Гэта і наведванне Залужскай сярэдняй школы, у якой цудоўны пладовы гадавальнік (школа базавая ў раёне па садоўніцтве), і проста выдатны музей, экспанаты якога ўзнаўляюць найбольш значныя моманты з жыцця вёскі і раёна. Маршруты семінара—і наведанне коласаўскіх мясцін — Альбуці, Смольні, Мікалаеўшчыны, і знаёмства з новымі формамі гаспадарання ў калгасах «Нёман» і «Радзіма Якуба Коласа».

Паўсюдна ўзнікалі не проста гаворкі, а зацікаўленыя дыялогі. Сапраўды, сёння мы пачынаем паварочвацца тварам да вёскі, задумваемся над яе праблемамі, шукаем шляхі выйсця з тупіка, у якім апынулася сельская гаспадарка краіны, думаем над тым, як выканаць харчовую праграму, накарміць горад, даць неабходную сельскагаспадарчую сыравіну прадпрыемствам.

Здавалася б, зроблены важны крок у сувязі з пераходам на арэндны падрад, ды толькі ці панацэя ён ад усіх бед? Ці аднолькава прымальна арэнда ва ўмовах, скажам, Расійскага Нечарназем'я, дзе пустуюць цэлыя вёскі, і ў Беларусі, у тым жа Стаўбцоўскім раёне?



Гаворка пра надзённае: пытанні і адказы.

Гэтыя пытанні былі ледзь не галоўнымі ў час сустрэч з сельскімі працаўнікамі. Адказы на іх давалі і кіраўнікі гаспадарак Ю. Цвірка, К. Каробка, і кіраўнікі раёна — першы сакратар Стаўбцоўскага райкома партыі М. І. Русы, сакратар райкома А. М. Пяцюшык, старшыня РАПА І. І. Магер.

Вострая дыскусія ўзнікла вакол таго, патрэбны ці не патрэбны сёння РАПА. Тут у гаворку ўключыўся і сакратар Мінскага абкома партыі К. К. Дзягілеў. Яго падтрымалі старшыні калгасаў: без РАПА на сучасным этапе гаспадарання не абысціся, але трэба, каб яны не станавіліся яшчэ адным прыдаткам бюракратычна-кіруючага механізма.

Заможна жывуць людзі ў калгасе «Радзіма Якуба Коласа». Дамы газіфікаваны, падведзена вада. Створаны ўсе ўмовы і для адпачынку, і для вядзення ўласнай гаспадаркі.

На Стаўбцоўшчыне, як бачым, ёсць чаму павучыцца. Нават таму, што тут падтрымліваюць цесныя сувязі з хлебаробамі Івана-Франкоўскай вобласці Украіны. Абменьваюцца не святочнымі дэлегацыямі, а дзелавым вопытам. Ва ўкраінцаў, напрыклад, навучыліся вырошчваць рапс, а гэта важная алейная культура. Ёсць што пераняць і ў будаўніцтве жылля на вёсцы. Ды і самі стаўбцоўцы перад імі не выглядаюць бяссрэбранікамі.

...Сёлетняя вясна, як вядома, была ранняя. Яна ўзрадавала хлебаробаў, акрыліла, але хутка радасць гэтая змянілася расчараваннем. У Стаўбцоўскім раёне, як і іншых раёнах рэспублікі, вымерзла шмат буракоў, бульбы, кукурузы. Ды і дажджу доўгі час не было. «Яшчэ два-тры дні такія, і страты непазбежныя», — угалас бедавалі кіраўнікі раёна і вобласці. Іх трывога, непакой перадаваліся і ўдзельнікам семінара...

З акон аўтобуса відаць, як красуе жыта. Пад лёгкімі павевамі ветрыка яго хвалі бягуць за далягляд. Ад пылку стаіць лёгкая смуга. Малюнак ці не самы вабны ў сённяшні вёсцы. Вёсцы, якая глядзіць у заўтрашні дзень.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**



Сакратар Мінскага абкома партыі У. Д. АТРОШЧАНКА і Анатоль СУЛЬЯНАЎ



Удзельнікі семінара ў Мікалаеўшчыне.

Фота А. КАЛЯДЫ.

ЁСЦЬ дзве вёскі: адна — з дзіцячай памяці, амаль прывідная, непадуладная зменам, і другая — рэальная, рухомая, сённяшняя, розная.

Ці часта мы бываем у гэтай, сённяшняй? Што найбольш прыкмячаем — абшаляваныя, вясёлых расфарбовак хаты ці паваленыя платы, суровыя помнікі загінуўшым ці закінутыя, засмечаныя могілкі?

На Стаўбцоўшчыне, куды выехала група пісьменнікаў па ініцыятыве абкома партыі, мы не заўважылі прыкмет заняпаду — адно гаспадарскую, дбайную руку. Толькі малалюдна ўсё ж, і ніводнае дзіця не гуляла на панадворку пад наглядам бабулі.

Раней у аналагічных паездках найчасцей дэманстравалі жывёлагадоўчыя комплексы ды фермы, зараз адчуваецца паварот да сацкультбыту, культуры, а значыць да чалавека. Вось, напрыклад, дом жывёлавода пры малочнатаварнай ферме «Шахноўшчына». Там зала для сходаў і палітасветы, каляровы тэлевізар, па

# ДА ЛЮДЗЕЙ, ШТО СЕЮЦЬ ХЛЕБ...

якім якраз глядзелі рэпартаж са З'езда народных дэпутатаў, сауна, і — што істотна — двухзменная работа. Нездарма ў калгасе «Радзіма Якуба Коласа» з 500 працаўнікоў — 127 камсамольскага ўзросту.

На сустрэчы са спецыялістамі калгаса нехта з нас пацікавіўся, колькі гараджан корміць адзін сельскі жыхар раёна. А. Сульянаў, які прыемна здзівіў нас не толькі армейскай дысцыплінай, але і дасведчанасцю ў аграрных справах, прывёў такую лічбу: у ЗША прапорцыя складае 1:25. Калгасны эканаміст ажывіўся і пачаў прыкідваць. Як высветлілася, Стаўбцоўскі раён ці не набліжаецца да сусветных стандартаў: калгаснік тут корміць прыкладна 12—14 гараджан. Параўнайце, у сярэднім па краіне суадносіна 1:8.

Старшыня калгаса К. Каробка (ён сам мясцовы, з Залужжа родам) расказаў, як аднойчы да іх наведаліся амерыканскія фермеры. Асабліва іх зацікавілі ладныя кумпякі, вывешаныя вяскоўцамі на прасушку. Адзін нават падышоў і пакратаў: ці не муляжы? Госці прызналіся, што запасліся ў дарогу бутэрбродамі; у СССР, палохалі іх, галадуха...

Загаварылі пра арэнду — наколькі актуальная яна ва ўмовах раёна.

— Ніхто ў нас зямлю ў арэнду не возьме, — гаворыць старшыня. — Людзі няблага жывуць, няблага зарабляюць, прывыклі да тэхнікі. Так што заклікаць да ліквідацыі калгасаў, як гэта робіцца падчас з трыбуны, я не стаў бы.

Так, ад дабра дабра не шукаюць... Ды ці не азначае сказанае, з другога боку, што сучасны селянін па сутнасці «рассяляніўся», што прыцяжэння зямлі ён ужо не адчувае?

Былі пытанні, звязаныя з рэарганізацыяй аграпрома. Хоць у рэспубліцы па-ранейшаму захаваны ўсе яго звенні, на Стаўбцоўшчыне ўводзіцца новая форма агракіравання — грамадская. І ўзначальвае савет РАПА старшыня калгаса «Радзіма Якуба Коласа» К. Каробка.

Калгаса з гожай назвай «Нёман» (старшыня Ю. Цвірка) мы таксама не прамінулі. У прасторным старшынёўскім кабінеце ў нас была магчымасць і задаць пытанні, і выказацца. Найбольш актыўна рабілі гэта У. Гніламёдаў, Л. Левановіч, А. Рыбак, згаданы ўжо А. Сульянаў. Не ўнікалі праблемнай гаворкі і сакратары Мінскага абкома У. Д. Атрошчанка і К. К. Дзягілеў. Было відно, што часы «дыпламатычнага» маўчання прайшлі, што перастала лічыцца доблесцю думаць адно, а гаварыць другое. Адзначана, у прыватнасці, што нядаўні пленум ЦК КПСС, на жаль, не вырашыў многіх балючых пытанняў сельскай гаспадаркі.

Ці ўсё так добра ў раёне, як падаецца старонняму воку? Вядома, не. Ды недахопамі не хваляцца — іх выпраўляюць. Мо таму з Домам культуры ў Старым Свержані нас азнаёмілі, а пра Новы Свержань ніхто і не азваўся. Мне давялося там летась пабываць. І касцёл XVI ст., і уніяцкая царква XVII ст. — помнікі архітэктуры рэспубліканскага значэння — знаходзяцца, як цяпер кажуць, у аварыйным стане.

— Напэўна, сродкаў не хапае на рэстаўрацыю? — спыталася я.

— Справа не ў грашах, — адказаў Ю. Цвірка. — Гаспадара няма.

Міністэрства культуры, па ўсёй бачнасці, ён за гаспадара не лічыць. А былой царквы на свой баланс, мабыць, яшчэ не брала ніводная гаспадарка, нават і з мільённым прыбыткам...

У згаданым ужо, рэдкім па прыгажосці Старасвержанскім Доме культуры перад намі, па звыклым сцэнарыі, адну за адной падымалі раскошныя, шытыя золатам заслоны. Што і казаць, эфектнае відовішча! Але яшчэ больш уразіла нас, як на радзіме Коласа (а песняра там любяць і шануюць) у такім жа асяродку культуры ў глыбіні сцэны радком сядзелі дзве жанчыны з баяністам — і лілася меладычная народная песня...

Тут, у Любкаўшчыне, і завяршалася наша паездка-семінар. Уражанні перапаўнялі кожнага з нас. Акрамя ўсяго іншага, мы пабачылі новы тып партыйнага кіраўніка, які дасканала, у дэталях ведае ўсё, што тычыцца падначаленай яму галіны. Трохі нязвыкла было назіраць, як малады першы сакратар райкома ў спартыўным комплексе паспеў перакінуцца з хлапчукамі ў настольны тэніс. Пытанню падбору кадраў, як мы даведаліся, у вобласці надаецца вялікае значэнне. Без кампетэнтных, энергічных, «незашораных» кіраўнікоў наша сельская гаспадарка, відавочна, не стане трывала на ногі.

У заключэнне з нашага боку было выказана пажаданне, каб падобныя семінары заканчваліся хаця б невялікімі літаратурнымі вечарамі. Бо пісьменнікі ўсё ж маюць што сказаць людзям—тым людзям, што сеюць хлеб.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

## З пошты «ЛіМа»

# Стварыць нацыянальны алімпійскі

**Пра ўдзел Беларусі ў міжнародным спартыўным руху**

Імклівае развіццё спорту ў сучасную эпоху прыцягвае ўвагу мільёнаў людзей. Спорт, як сацыякультурны феномен, усё больш становіцца своеасаблівым паказчыкам грамадска-палітычнага ўзроўню той ці іншай краіны. Несумненна, удзел у міжнародных спаборніцтвах, а тым больш перамогі ў іх, падымае аўтарытэт дзяржавы на новую вышыню, замацоўвае яе нацыянальны прэстыж.

Аднак у Беларусі, на жаль, гэтае пытанне на сённяшні дзень не ставіцца.

Між тым, рост нацыянальнай свядомасці народа не можа адбывацца без паскарэння развіцця яго нацыянальнай культуры. Калі разглядаць спорт паводле структуры, то ён уваходзіць як элемент у фізічную культуру, якая, у сваю чаргу, з'яўляецца неад'емнай часткай культуры наогул. Але ж мы адрозніваем нацыянальную культуру ад культуры наогул, і вось гэтага чамусьці якраз не ўлічваем, калі гаворка заходзіць пра спорт. Можна было б назваць і іншыя прычыны, але яны свае ў кожнай рэспубліцы. Што ж да Беларусі, то права на самастойны ўдзел у міжнародным руху грунтуецца тут перш за ўсё на тым, што яна з'яўляецца паўнапраўным членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Гэта значыць, што яна павінна таксама самастойна ўваходзіць і ў Міжнародны алімпійскі камітэт, у іншыя спартыўныя арганізацыі, і мець, натуральна, свой нацыянальны алімпійскі камітэт, сваіх прадстаўнікоў у міжнародных федэрацыях, а не прысутнічаць у гэтых структурных адзінках апасродкавана.

Права незалежнага ўдзелу ў міжнародным спартыўным руху дасць магчымасць узняць на новую ступень беларускі спорт, паспрыяе аўтарытэту рэспублікі за мяжой, дазволіць хутчэй развівацца нацыянальнай свядомасці, узмоцніць тэмпы адраджэння роднай мовы і нацыянальнай атрыбутыкі. Беларускія атлеты змогуць больш актыўна ўдзельнічаць у папулярных еўрапейскіх і сусветных турнірах, прычым развіццё спорту будзе датычыцца не толькі аднаго горада—сталіцы рэспублікі, — да яго далучацца і іншыя гарады, іх асобныя каманды і спартсмены, што зробіць распаўсюджанне гэтай грамадскай з'явы больш рэгламентаваным і шырокім. Што гэта можа азначаць на практыцы? Калі ўзяць, напрыклад, футбол, то Беларусь як член ФІФА і УЕФА будзе ўдзельнічаць як суверэнная дзяржава разам, скажам, з Балгарыяй, Францыяй, Кіпрам і інш. у першынствах свету і Еўропы. Акрамя таго, ёй будзе дазволена ўключаць свае каманды ў папулярныя кантынентальныя кубкавыя турніры. І гэты ўдзел не будзе залежыць ад удач ці няўдач футбалістаў мінскага «Дынама» ў чэмпіянаце СССР. Тое самае можна сказаць і аб прадстаўніках іншых відаў спорту. А найвышэйшым праяўленнем стабілізацыі працэсу нацыянальнага самавызначэння з'явіцца ўдзел Беларусі сваёй уласнай камандай у Алімпійскіх гульнях.

Але гэта толькі адзін бок праблемы. Другі заключаецца ў тым, што ў выпадку самастойнасці беларускага спорту яго ўдзел у міжнародным руху павінен даць імпульс для развіцця ўсіх тых відаў спорту, якія ў нас развіты слаба. Далей: неабходна будзе стварыць сучасную спартыўную базу, таму што спаборніцтвы арганізаваны так, што ўключаюць выступленні спартсменаў не толькі за мяжой, але і ў сваёй краіне, а са спартыўных збудаванняў, якія адпавядаюць сусветным стандартам, у нас лічаныя адзінкі, і амаль усе знаходзяцца ў Мінску (можа быць толькі за выключэннем комплексу для хакея на траве ў Брэсце ды матабольнага стадыёна ў Пінску). І новае будаўніцтва такога накірунку пакуль не прадбачыцца. І яшчэ адзін важны момант, што можа даць незалежнасць спартыўнага руху: гэта поўная змена старога апарату Дзяржкамспорту, ці, можа, адказ ад гэтай інстанцыі наогул, і стварэнне новага структурнага аб'яднання на выбарнай дэмакратычнай аснове і на іншых прынцыпах дзейнасці.

Такім чынам, праблема ўдзелу Беларусі ў сістэме міжнароднага спартыўнага руху выспела ўжо настолькі, што неабходна нарэшце сур'ёзна разабрацца з тым становішчам, якое склалася на сённяшні дзень, і адказаць на такія пытанні:

1) Чаму Беларусь, як паўнапраўны член ААН, не з'яўляецца ў той жа час членам МАК, ФІФА, УЕФА і іншых уплывовых міжнародных спартыўных арганізацый?

2) Чаму суверэнная рэспубліка, якая мае свой нацыянальны ўрад, Канстытуцыю, не мае права ўдзельнічаць нацыянальнай камандай у Алімпійскіх гульнях, выстаўляць сваіх спартсменаў і каманды для ўдзелу ў міжнародных спартыўных спаборніцтвах?

Абгрунтаваныя адказы на гэтыя галоўныя два пытанні з'яўляюцца неад'емнай часткай рэалізацыі практычнай праграмы стабілізацыі і аптымізацыі праблемы нацыянальных адносін у СССР. У святле ленінскіх ідэй аб праве нацый на самавызначэнне і развіццё, у духу палітыкі новага мыслення ўдзел беларускага спорту ў міжнародным спартыўным руху на аснове незалежнасці з'яўляецца законным патрабаваннем і дае поўныя спосабы і сродкі яго ажыццяўлення.

**У. ЛЮКЕВІЧ,**
**асістэнт Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна.**

P. S. Калі гэтыя разважанні ўжо былі пакладзены на паперу, да мяне прыйшло запрашэнне на Усесаюзны навуковы сімпозіум, які адбыўся ў сярэдзіне мая ў Рызе. Ягоная назва гучала так: «Міжнародны алімпійскі рух: праблемы і тэндэнцыі развіцця на сучасным этапе». Там зноў узнікла пытанне наконт самастойнасці ўдзелу спартсменаў нацыянальных рэспублік у міжнародных спаборніцтвах сваімі ўласнымі камандамі. Дыскусіі, якія там разгарнуліся, яшчэ раз пацвердзілі мае суб'ектыўныя меркаванні пра становішча нашага беларускага спорту. Ужо ўзніклі часовыя нацыянальныя алімпійскія камітэты, напрыклад, у Латвіі, якія маюць сваю праграму дзеянняў, свой статут. Акрамя таго, у Латвіі (а таксама ў Казахстане і Кіргізіі) створаны Алімпійскія акадэміі. На жаль, у Беларусі няма нічога такога. А ўжо, напэўна, наспелі пытанні і аб стварэнні нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі, і аб адкрыцці Беларускай алімпійскай акадэміі...

**У. Л.**

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР



**БАРШЧЭУСКІ Лявон (Леанід Пятровіч). Перакладчык, крытык. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Полацку. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут (1980) і аспірантуру пры ім. Старшы выкладчык кафедры замежных моў Наваполацкага політэхнічнага інстытута.**

**Літаратурную дзейнасць пачаў у 1973 годзе.**

**У перакладзе Л. Баршчэўскага выйшла кніга Б. Брэхта «На шалях праўды». Аўтар шэрагу перакладаў, змешчаных у калектыўных зборніках і перыядычным друку.**



**ЖАМОЙЦІН Алесь (Аляксандр Пятровіч). Паэт, літаратуразнавец. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Малахоўцы Баранавіцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1982). Загадчык Літаратурнага музея Францішка Багушэвіча ў Кушлянах.**

**Літаратурную дзейнасць пачаў у 1979 годзе.**

**Аўтар кнігі паэзіі «Азірнуўшыся — не скамянею» (1989).**



**ЗАЙЦАУ Сяргей Міхайлавіч. Празаік. Піша па-руску. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў Свярдлоўску. Скончыў Карагандзінскі медыцынскі інстытут (1977). Працуе ўрачом у Мінску.**

**Літаратурную дзейнасць пачаў у 1977 годзе.**

**Аўтар рамана «Побеждая — оглянись».**



**ТКАЧОУ Васіль Юр'евіч. Празаік, драматург, публіцыст. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Гута Рагачоўскага раёна. Скончыў Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча (1973).**

**Літаратурную дзейнасць пачаў у 1973 годзе.**

**Аўтар кніг прозы «Хітры Данік» (1975), «Партрэт салдата» (1984), «Дзень у горадзе» (1985), «Пахвалі пражыты дзень» (1988), шэрагу п'ес, пастаўленых у тэатрах Беларусі і Расіі.**

## Чытач прыйшоў у рэдакцыю

# Справа №...

**З вызначэння Алма-Ацінскага гарадскога суда:**

**«...25 верасня 1981 года (суд) разгледзеў у закрытым судовым пасяджэнні... справу па абвінавачанні Наскаўца Міхаіла Данілавіча, ... беларус, грамадзянін СССР, беспартыйны, раней не судзімы, нежанаты... выконваў абавязкі старшага навуковага супрацоўніка Казахскага навукова-даследчага інстытута эканомікі і арганізацыі сельскай гаспадаркі**

**Устанавіў:**

**Наскавец у перыяд з мая 1977 года па красавік 1981 г., як у вуснай, так і ў пісьмовай форме сістэматычна распаўсюджваў *паклёпніцкія выдумкі* на савецкую рэчаіснасць...**

**Як відаць з акта №... судова-псіхіятрычнай экспертызы, Наскавец М. Д. мае хранічнае псіхічнае захворванне ў форме вялабягучай шызафрэніі і... мае патрэбу ў прымусовым лячэнні ў псіхіятрычнай бальніцы сістэмы МУС...**

**Старшыня Н. Сатарыядзі**
**Нарзасядацелі Карабейнікава В., Сінкіна С.»**

І яшчэ адно судовае вызначэнне, якое было вынесена праз доўгіх сем гадоў.

***«Судовая калегія* па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Казахскай ССР... разгледзела ў пасяджэнні 11 ліпеня 1988 г. у г. Алма-Аце крымінальную справу Наскаўца Міхаіла Данілавіча, якая паступіла па наглядным пратэсце старшыні Вярхоўнага суда Казахскай ССР...**

***Заслухаўшы даклад* члена суда Тагумбетавай Т. С., заключэнне пракурора Дасекенава А. А., які меркаваў, што пратэст падлягае задавальненню, праверыўшы матэрыялы справы, судовая калегія**

**Устанавіла:**

**Са зместу ўсіх рукапісаў і пісьмаў Наскаўца, далучаных у справу ў якасці рэчавых доказаў, не ўгледжваецца выказванняў, якія ганяць грамадскі лад СССР, яго палітычную і эканамічную сістэму. Наадварот, у іх змяшчаецца заклапочанасць з *прычыны* нездавальняючага эканамічнага становішча краіны, прапануюцца меры ўздыму эканомікі.**

**Выказванні ў адрас кіраўнікоў партыі і Савецкага ўрада аб недахопах у кіраўніцтве краіны таксама няма падстаў расцэньваць як выдумкі, якія ганяць грамадскі лад.**

**...кіруючыся арт. 375 КПК Казахскай ССР, судовая калегія**

**Вызначыла:**

**Вызначэнне Алма-Ацінскага гарадскога суда ад 25 верасня 1981 г. аб *прымяненні* да Наскаўца Міхаіла Данілавіча прымусовых мер медыцынскага характару скасаваць.**

**Крымінальную справу па абвінавачанні Наскаўца Міхаіла Данілавіча па арт. 170[1] КазССР спыніць за адсутнасцю ў яго дзеяннях складу злачынства».**

Абодва гэтыя дакументы (дакладней — завераныя копіі) прынёс да нас у рэдакцыю Міхаіл Данілавіч Наскавец. Той самы, былы «дзяржаўны злачынца».

Гісторыя «прыгод» Міхаіла Данілавіча, запісаная паводле ягоных слоў, коратка выглядае так. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Наваселле на Міншчыне. Тут *і* дагэтуль жывуць яго крэўныя. У 61-м Наскавец скончыў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі, паводле размеркавання трапіў у Казахстан. У 76-м вярнуўся ў родныя мясціны, працаваў галоўным эканамістам у калгасе «Перамога» Бярэзінскага раёна. Лічыўся адукаваным спецыялістам, карыстаўся павагай у таварышаў па рабоце. У 1977 годзе, калі адбывалася ўсенароднае абмеркаванне праекта новай Канстытуцыі СССР, Міхаіл Данілавіч вырашыў прыняць у *ім удзел і* даслаў свае заўвагі з крытыкай брэжнеўскай палітыкі ў цэнтральную газету. Пасля гэтага адносіны да Наскаўца з боку мясцовага начальства рэзка пагоршыліся. Неўзабаве ён быў вызвалены са сваёй пасады і выключаны з членаў калгаса.

Міхаіл Данілавіч вымушаны быў вярнуцца на сваю ранейшую работу — у Казахскі навукова-даследчы інстытут эканомікі і арганізацыі сельскай гаспадаркі. 9 ліпеня 1981 года Наскавец быў арыштаваны ў сябе на рабоце.

Цяпер Міхаіл Данілавіч зноў працуе ў тым жа інстытуце. Яго працоўны стаж адноўлены за ўсе сем гадоў вымушанай адсутнасці.

У свой апошні прыезд на радзіму Наскавец атрымаў нарэшце рашэнне Бярэзінскага райвыканкома: скасаваць рашэнне агульнага сходу членаў калгаса «Перамога» ад 8. 04. 78 г. *аб пазбаўленні Наскаўца пасады* галоўнага эканаміста і выключэнні з калгаса як незаконнае.

Гэта гісторыя, прыведзеная вышэй, прызнаемся шчыра, — зусім не выключная. Колькі людзей былі пакараны імем закона за самастойнасць думкі, за незалежнасць поглядаў і паводзін. Можна ўспомніць, не раўнаючы, імёны Івана Худэнкі, эканаміста-наватара з Казахстана, які памёр у зняволенні, акадэміка Андрэя Сахарава, святара Глеба Якуніна. А колькі імён так званых «дысідэнтаў» мы нават і не ведаем?

Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб крымінальнай адказнасці за дзяржаўныя злачынствы» і некаторыя іншыя заканадаўчыя акты СССР адмяняе фармуліроўкі накшталт «антысавецкая агітацыя і прапаганда», «распаўсюджванне паклёпніцкіх выдумак». Фармуліроўкі, з-за якіх пацярпеў, у прыватнасці, Міхаіл Данілавіч Наскавец. Але ці дае новы Указ гарантыі, што нічога падобнага больш не здарыцца?

**Дзяжурны па грамадскай прыёмнай «ЛіМа»**
**Віталь ТАРАС.**

Алег ЛОЙКА

# Тут адчуваецца подых гісторыі...

ТЫЯ сем дзён, якія правялі мы ў Кракаве як удзельнікі канферэнцыі па беларуска-польскіх літаратурных сувязях, арганізаванай факультэтам літаратуры Ягелонскага універсітэта, застануцца ў памяці кожнага з нас, напэўна, на ўсё жыццё. Спрадвечны Кракаў сам па сабе настройвае чалавека на лад эпічны, філасафічны. Тут на кожным кроку адчуваецца подых гісторыі, водгулле няблізкіх у часе падзей, веліч гісторыі, яе руху, як і драматызм гэтага руху, трагізм. Будзённае быццё як бы засланяецца тут быццём гістарычным. Сам сябе адчуваеш і прыналежным да апошняга, і ўзвышаным ім, і як бы прасветленым. І адчуваеш яшчэ, што Кракаў у чымсьці і твой горад, бо ён — частка гісторыі і твайго народа.

На старонках польскай прэсы здавён прыжылася папулярная, блізкая сэрцу любога паляка рубрыка «Polonika» — паланістыка ў СССР, паланістыка ў шырокім свеце. Гаворачы пра гістарычныя і літаратурныя сувязі Польшчы і Беларусі, ні гаспадары канферэнцыі, ні мы, госці, з самага пачатку не маглі не згадзіцца з тым, што нашы літаратурна-гістарычныя сувязі ляжаць толькі ў вузкай сферы ці паланістыкі на землях Беларусі, ці звычайных адзінкавых фактараў, якія пасведчылі прысутнасць беларускасці на Вавелі, у Ягелонскім універсітэце, у Кракаве. Даклады на канферэнцыі былі тэматычна разнастайныя: у гаспадароў пад назвамі «Чаго чакае гісторык польскай літаратуры ад гісторыка літаратуры беларускай?» (дацэнт Мар'ян Татара), «Польскі літаратурны асяродак у Савецкай Беларусі ў 1919—1989 гадах (Гісторыя — здабыткі —перспектывы)» (Крыштаф Вазьнякоўскі), «Польскае адраджэнне ў Беларусі пасля 1905 года» (Анджэй Раманоўскі). Нашымі тэмамі былі: «Беларуская літаратура ў кантэксце сталінскіх рэпрэсій» (Д. Бугаёў), «Янка Купала — народны паэт Беларусі» (Л. Тарасюк), «Рэлігійна-палемічная літаратура ў Беларусі XVII стагоддзя» (У. Каротькі), «Сучасная беларуская філасофская паэма» (В. Каратай), «Пан Тадэвуш», «Новая зямля» Якуба Коласа» (Л. Ламека). У выніку абмеркавання ўсіх гэтых дакладаў менавіта і прагучалі думкі, што ў цэлым польска-беларускія літаратурна-гістарычныя блізкасць і еднасць— гэта не звычайныя якія-небудзь паралелі, кантакты, тыпалагічныя сыходжанні, рэмінісцэнцыі, а нешта большае, фундаментальнейшае. Большае нават за гістарычнае сужыццё. Бо калі, напрыклад, А. Раманоўскі гаварыў пра польскі Мінск, пра «айчыстую Беларусь», польскасць у Беларусі, беларускую пальшчызну, даючы гэтым узор дакладнага называння гістарычных з'яў мінулага, выяву рэальнага, незабыўнага і блізкага сэрцу кожнага паляка, то з той жа мерай разумення мінулага пра Польшчу беларусаў, пра беларускі Кракаў гаварылі і мы. Бо сапраўды паланістыка ў Беларусі — гэта не тое ж самае, што паланістыка дзе-небудзь у Італіі, Англіі ці ЗША, як беларусістыка ў Польшчы — не тое, што беларусістыка ў Канадзе, Аргенціне ці Аўстраліі. Агульнае беларуска-польскае на землях Польшчы, польска-беларускае на землях Беларусі было ў нас настолькі блізкім, што яно гістарычна часта стала і ўласна польскім і ўласна беларускім. І гэта нягледзячы на тое, што вынікала з крыніц асобных. Так, беларускасць Адама Міцкевіча, яго «крэсовая» пальшчызна шмат у чым прадвызначылі мастацкае аблічча польскага рамантызму XIX стагоддзя ўвогуле, а першыя вершы Янкі Купалы, напісаныя на польскай мове пад відавочным уплывам Марыі Канапніцкай, ці ж яны не прадвызначалі сабой мастакоўскую індывідуальнасць Янкі Купалы як вялікага арыгінальнага беларускага паэта? Тое ж самае з так званай беларускай школай у польскім рамантызме XIX стагоддзя. Ці ж яна не роўны фактар развіцця як польскай, так і новай беларускай літаратуры? Але найбольш успаміналіся намі найперш многія славутыя дзеячы гісторыі і літаратуры Польшчы, якія былі ўраджэнцамі Беларусі ці жылі і працавалі ў Беларусі: Адам Міцкевіч, Тадэвуш Касцюшка, Эліза Ажэшка, Станіслаў Манюшка. У Мінску нарадзіўся Ежы Путрамент, на Дзісненшчыне — Ян Гушча, радзімым краем Мацея Юзафа Канановіча была Дубраўка над Шчарай на Слонімшчыне. Вядомы даследчык А. Міцкевіча Ю. Аколуў-Падгорскі таксама родам з Беларусі, і зборнік вершаў пра Белую Русь выдаў, і быў сярод продкаў-родзічаў сённяшняй маладой беларускай паэтэсы Валянціны Аколавай. Эўгеніюш Кабац — родам з Ваўкавыска. Аднак жа першымі героямі дня на канферэнцыі былі не людзі, быў сам Кракаў — спаконвечны для многіх братніх, суседніх народаў культурны, а як для беларусаў, украінцаў, літоўцаў, то і доўгі час — пасля Крэўскай уніі, пасля Люблінскай уніі аж да канца XVIII стагоддзя яшчэ і цэнтр палітычны. Розныя мовы гучалі на Вавелі. З прыездам на Вавель караля Польшчы Ягайлы гучала і старабеларуская, блізкая мове Скарыны. Таму свой даклад пра Скарыну я і пачынаў з трох эпіграфаў — на лацінскай, польскай і старабеларускай мовах. «Plus ratio ovam vis» — «Болей розумам, чым сілай». Першым эпіграфам гэтыя словы не маглі не стаць для мяне, бо гэта іх тут, у Ягелонскім універсітэце, як мы сёння, не мог кожны дзень не чытаць, будучы студэнтам, Скарына. уваходзячы праз нізкаватыя дзверы ў прасторны зал бібліятэкі універсітэта. Якраз над гэтымі нізкаватымі дзвярмі і дасюль значыцца ў высокім сэнсе лацінскі сказ-апафеоз розуму, адна з кракаўскіх універсітэцкіх запаведзяў, з якіх як вялікі асветнік пачынаўся Скарына, з якіх наноў сёння пачынаемся і мы ў сваім звароце да гуманістычных традыцый як прыярытэтных над сілай мяча, ідэалагічных, палітычных рознагалоссяў. У тым жа духу падключаўся мною да скарынаўскай тэмы і другі эпіграф — з Марціна Бельскага, аўтара «Хронікі ўсяго свету» «Няма розуму супраць праўды». З увяльбенням праўды, якая заўсёды пераможная, бо справядлівая, — і з гэтага пачынаўся ў Кракаве Скарына, як пачыналася тут і ўсё векапомнае. для беларусаў і палякаў. Але Скарына перш за ўсё пачынаўся на роднай яму зямлі, гімн якой пасля сябе ён пакінуў у славутых прадмоўных радках: «...люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають...» Ласка тая не выключала з сябе і любові-ласкі да роднай мовы, з якое ў свет і сюды ў Кракаў пайшоў з Полацка Францішак Скарына. Ласку гэтую да мовы Белай Русі меў не толькі Ягайла. але яшчэ і яго ўнук Жыгімонт І, які, як вядома, вельмі любіў свайго вайдэлоту-песельніка з Беларусі Чурылку. любіў слухаць тут, на Вавелі, яго беларускія рапсоды. Захаваліся б да нашага часу тыя рапсоды, не адно б вершамі Скарыны адкрывалі мы сёння свае паэтычныя анталогіі. Тым не менш, ведаючы пра Чурылку, мы ўжо і на Вавель паглядалі як на адзін з першых асяродкаў песні беларускай, як на адзін з самых аддаленых у часе першапачаткаў непарыўных духоўных, паэтычных сувязей Польшчы і Белай Русі.

Не адкрываем мы сёння нашых анталогій песнямі Чурылкі, ды ўсё адно пачынаем іх зноў жа з таго, што належыць культуры і польскай, і літоўскай, і беларускай, як і ў цэлым літаратурнай традыцыі еўрапейска-лацінскай. І тут як польскія, так і беларускія даследчыкі, мы называлі і «Песню пра зубра» Міколы Гусоўскага, надрукаваную ў 1523 годзе ў Кракаве, і паэму Яна Вісліцкага «Пруская вайна», якая таксама ўбачыла свет у Кракаве яшчэ ў 1516 годзе. Пры гэтым разам з тым даводзілася пэўным чынам і аспрэчваць Яна Казіміра Пашкевіча — нашага паэта пачатку XVII стагоддзя, які ў сваім вершы 1621 года пісаў:

Полска квитнет лациною,
Литва квитнет русчизною.

Аспрэчваць, бо ў XVI—XVII стагоддзях не толькі «русчизной» квітнела Вялікае Княства Літоўскае, Беларуска-Украінскае і Жамойцкае, але і лацінкай. Аб'ядноўвала нас лаціна і як мова сярэдневяковай навукі, і як мова сярэдневяковай паэзіі, і як культавая мова для беларусаў-католікаў. Беларусы, як вядома, з Кіеўскай Русі выйшлі праваслаўнымі, пасля Берасцейскай духоўнай уніі частка нас стала уніятамі. Рэлігіі сталі беларусаў раз'ядноўваць, весці да рэлігійнай палемікі, да канфрантацыі. Рэлігійна - палемічная, літаратурная барацьба пераходзіла ў палітычную, станавілася формай палітычных кірункаў, рухаў, канфліктаў. Культурнае, літаратурнае ўзаемаўзбагачэнне абярталася этапамі паланізацыі, звязанай з акаталічваннем. Братняму яднанню культур, культурнаму іх развіццю папярок станавілася палітыка, якая раз'ядноўвала. І на канферэнцыі з двух бакоў ішлі аднадумныя сцвярджэнні ў сувязі з тым, што сёння мы з культурай, нам агульнай, узносімся над тым, што нас раз'ядноўвала. І была наша гаворка пра айчыстую для паляка Беларусь і беларускі Кракаў — ніякай не падводкай да вяртання былой палітыкі, не доказваннем нейкіх асобных правоў на былыя землі і сферы. Бачыць праўду яднання, увесь яго аб'ём, спецыфіку, бачыць у гістарычнай перспектыве, вымушаных пярэрвах, перападах — гэтыя задачы ставіліся, задачы складаныя, не аднаго дня, не адной канферэнцыі. Галоўнае — падкрэслівалася — не павінна быць замоўчвання чагосьці, згладжвання вуглоў. І яшчэ — павінна быць вяртанне лепшых традыцый, ва ўмовах публічнасці — іх адраджэнне, стымуляцыя.

Так, на канферэнцыі, на афіцыйных сустрэчах з кіраўніцтвам факультэта літаратуры і універсітэта прагучалі і былі станоўча ўспрыняты нашы пажаданні аб адкрыцці ў Ягелонскім універсітэце мемарыяльнай дошкі Францішка Скарыны. Удзячнасць Кракаву мы дэклярaвалі не толькі за лаціну, у якой тут удасканальваўся Ф. Скарына, але і за лацінку, — шрыфт, якім тут у друкарні Анчыца сваю «Дудку беларускую» ў 1891 годзе друкаваў другі Францішак — Багушэвіч. Яшчэ ў 1857 годзе тут сваю першую манаграфію пра беларускую літаратуру выдрукаваў Адам Кіркор. У Ягелонскім універсітэце вучыўся не толькі Ф. Скарына, але і першая беларуская паэтэса XX стагоддзя — Цётка (Алаіза Пашкевіч). У Кракаве беларусы не толькі жылі і вучыліся — тут яны і паміралі, як Алесь Гарун, пахаваны на Ракавіцкіх могілках. Перад новым помнікам на яго магіле мы ў журбе схілялі свае галовы. Думалі, што пэўнага ўвекавечання памяці ў Кракаве заслугоўвае і Цётка, хоць і не тут пахаваная. На магіле Алеся Гаруна мы былі з Алегам Латышонкам — беларусам-кракавянінам, ініцыятарам узвядзення надмагільнага помніка вялікаму нашаму паэту-рэвалюцыянеру. Уразілі на помніку шасціканечныя крыжы — накшталт тых, пад якімі, маючы іх на сцягах, перамагалі пад Грунвальдам нашы продкі. Пра Грунвальд — свята гераізму польскага, беларускага, літоўскага, чэшскага народаў — напаміналі і дата смерці Алеся Гаруна — ліпень, 28-га. Калі па старому стылю, — то гэта ж 15 ліпеня! Дзень Грунвальда. Смерць Алеся Гаруна была як на полі Грунвальда — смерцю пераможцы.

Гераічнае і паэтычнае, яны роўна яднялі нас, беларусаў і палякаў, пачынаючы з Грунвальда. І тут зноў успаміналіся намі Тадэвуш Касцюшка, што ўзначальваў не толькі польскіх касінераў, але і беларускіх хлопаў з-пад Косава і Пінска — з іх паўстанцкімі песнямі на беларускай мове. Успаміналася і легендарная гісторыя рэвалюцыйнага яднання лёсаў Маладой Польшчы — Шымана Канарскага з беларускім паэтам-рэвалюцыянерам з-пад Пінска Францам Савічам, для якіх паролем была адна і тая ж галінка беларускай сасны. Успаміналіся ўсе выдатныя сябры-паплечнікі Кастуся Каліноўскага — ад Зыгмунта Серакоўскага да Браніслава Шварцэ...

У дзень, калі адкрывалася канферэнцыя, у Гродне выходзіла ў эфір першая з праграм на польскай мове. І гэта было шматзначна, красамоўна — як фактар перабудовы, працягу лепшых традыцый нашага гістарычнага сужыцця, як выява рэальнай увагі да існага, справядлівага ў адносінах да кожнага насельніка нашай Савецкай Беларусі іншай, чым беларусы, нацыянальнасці. Бо сапраўды ў пасляваенныя гады па розных прычынах ці не былі страчаны, забыты ў нас многія моманты ў нашых суседзкіх узаемаадносінах, вартыя вяртання, новага працягу, а таксама пэўнай карэкціроўкі, удакладнення. У гэтай сувязі не без ніякаватага пачуцця і ўласнай вінаватасці слухаліся намі выкладкі нашага калегі К. Вазьнякоўскага, прысвечаныя аналізу польскага літаратурнага руху ў Беларусі 1919—1989 гадоў. Як розняцца, аднак, паказчыкі гадоў 20—30-х ад таго, што мелася ў пасляваенныя гады, што маем мы зараз! Тое, што мелася ў 20-х гадах, сведчыла пра вельмі ажыўлены працэс (дзейнасць Польскай секцыі БелАПП, творчасць у Беларусі польскіх пісьменнікаў Уладзіміра Кавальскага, Гелены Раманоўскай, выданне ў Беларусі на польскай мове альманахаў паэзіі і прозы «Ідзем», «З нашых прац», «Няхай паспрабуюць», «Кастрычнік»). З даклада К. Вазьнякоўскага мы даведаліся таксама аб малазнаным у нас факце існавання да вайны ў Савецкай Беларусі Койданаўскага аўтаномнага польскага рэгіёна імя Фелікса Дзяржынскага, у якім у шчыльнай паласе жыло 44 тысячы палякаў. К. Вазьнякоўскі не абмінаў цяжкіх фактаў. У годзе 1959 у Беларусі налічвалася 539 тысяч палякаў, у 1970—383, у 1979—403 тысячы палякаў. Ды, згодна з апошнім перапісам, толькі 8 працэнтаў палякаў, якія жывуць сёння ў Беларусі, за родную мову ўважаюць польскую. Нармальна гэта? Думаецца, не. Да такога становішча вяла, зразумела, адсутнасць у доўгім часе ў Беларусі школ польскай меншасці, адсутнасць іншых якіх-небудзь польскіх культурных асяродкаў. Дакладчык гаварыў аб пэўных зменах, што адбыліся за апошнія тры гады — ва ўмовах перабудовы. Пра Клуб аматараў польскай культуры ў Лідзе, пра Культурнае таварыства палякаў імя А. Міцкевіча ў Гродне, пра адкрыццё на Гродзеншчыне двух дзесяткаў школ з навучаннем на польскай мове. Агульны вывад тым не менш вынікаў адзін: палякі ў Беларусі дэнацыяналізуюцца. У гэтай сувязі мала ўсцешнымі для польскіх калег маглі быць нашы разважанні аб паралельным працэсе дэнацыяналізацыі пры сталіншчыне, Хрушчове і Брэжневе і самога карэннага насельніцтва Беларусі, увогуле аб бяздумнай няўвазе ў нас да культурных запатрабаванняў усіх нацыянальных меншасцей, якія спрадвеку насялялі Беларусь—да татар, караімаў, яўрэяў, літоўцаў і іншых. Усіх гэтых нацыянальнасцей як бы не стала ў пасляваеннай Беларусі! Думалася: былі б у пасляваеннай Беларусі, як у 20-я гады, пакуль нацыянальнае пытанне вырашалася па-ленінску, школы нацменшасцей, не так лёгка ўдалося б, напэўна, і чыноўніцтву ў шматразмоўным горадзе абясшыльдзіць і школу беларускую, уніфіцыраваць яе да цяперашняга стану.

Увогуле гісторыкам нельга забываць, што наша беларуская мова і ў сярэднія вякі, і аж да Вялікай Айчыннай вайны ў XX стагоддзі была не толькі мовай беларускага народа, але і ўсёй сукупнасці народаў, што, пачынаючы з сярэднявечча, Беларусь засялілі. Інакш кажучы, беларуская мова была доўгі час і мовай рэгіянальных зносін беларусаў, палякаў, рускіх, яўрэяў, татараў як насельнікаў Беларусі. Будучы гістарычна мовай рэгіянальнага яднання многіх народаў-суседзяў, беларуская мова тым больш не заслужыла тых нігілістычных адносін, якія ў пасляваенныя гады напаткала.

На жаль, мы не маем лічбавых дадзеных аб становішчы беларусаў у Польшчы, у прыватнасці, на Беласточчыне. Але, калі да канца быць шчырымі, то праблема такая там існуе.

Зазначым, што ў ПНР адносіны да беластоцкіх беларусаў даўно ўжо пачалі змяняцца—ва ўсякім разе, з заснавання Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, з пачаткам выхаду беластоцкай газеты «Ніва». Гэта ў нас, у БССР, адносіны да дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства доўгі час былі адназначна адмоўнымі. Газета «Ніва», якая толькі ў самы апошні час з'явілася ў нас у кіёсках, з самага пачатку ў самым прыязным тоне пісала пра ўсе справы БССР, а бюракратыя ў нас сустракала ўсё гэта, як вады ў рот набраўшы. Нібыта не аднакроўныя беларусы жылі і жывуць так блізка за Бугам, дзе быў і адзін з найслыннейшых у сярэдневяковай Беларусі сваёй літаратурнай традыцыяй Супрасльскі манастыр, дзе ў вёсцы Козлікі нарадзіўся Маршал Савецкага Саюза В. Д. Сакалоўскі, дзе нарадзіліся сённяшнія слынныя беларускія празаікі, паэты, крытыкі— Аляксей Карпюк, Пятрусь Макаль, Уладзімір Казбярук, Серафім Андраюк.

Той беларуска-культурны асяродак, што ўзнік на Беласточчыне і ўжо мае сваю больш чым 30-гадовую гісторыю—гэта ўжо ўвогуле вельмі значная, багатая старонка ў развіцці беларускай літаратуры і культуры цэлага XX стагоддзя. І зноў жа нельга не памятаць, што беластоцка-беларускі мастацкі феномен—зноў жа таксама здабытак з фактару польска-беларускага яднання, паразумення. Як ужо гаварылася, гістарычна-культурныя сувязі Беларусі і Польшчы,—гэта ніяк не палоніка ў Аргенціне ці ў Брытаніі. Менавіта сама унікальная шчыльнасць гістарычна-культурнага развіцця нашых суседніх краін у час нашых усёадкрытых перабудовачных адносін да з'яў і рэчаў патрабуе і новай, вышэйшай, зноў жа унікальнай формы далейшага культурнага яднання—патрабуе стварэння асобнага Польскага культурнага таварыства з цэнтрам у Мінску.

23 лютага г. г. у артыкуле «Ад Скарыны да сучаснасці» «Кракаўская газета» не прамінула аднатаваць і сам пафас, пачуццёвую атмасферу, у якой пачалася і праходзіла ў Ягелонскім універсітэце наша канферэнцыя. «Адкрыў яе,—пісалася ў «Кракаўскай газеце»—вітаючы сардэчна прадстаўнікоў Мінскага універсітэта, прарэктар Кракаўскай акадэміі праф. Ежы Выразумскі. Гаварыў аб радасці, з якою навуковае асяроддзе Кракава прымае гэтую канферэнцыю, якая выразна адбудоўвае добрыя кантакты...» «Сардэчна...» «Гаварыў аб радасці...» То былі сапраўды тыя словы, якія рэальна выяўлялі высокую паставу прамоўцаў, дакладчыкаў, дыскутантаў — нашых калег па канферэнцыі. Мы цяпер у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна рыхтуемся да сустрэчнай канферэнцыі з сябрамі з Ягелонскага універсітэта, спадзяёмся, што і яна пройдзе не без поспеху. Але, відаць, абмен думкамі на ўзроўні канферэнцый—гэта далёка не ўсё тое, што ва ўмовах перабудовы павінна ў нас вяртацца на кругі свае, адраджаючы маштабы і інтэнсіўнасць вялікага станоўчага вопыту пабрацімскага развіцця суседніх нашых культур, літаратур, моў.

*Крытыка, бібліяграфія*

# Асваенне прасторы паэзіі

САМА па сабе назва зборніка вершаў — «Неведомая планета» — можа справакаваць гаворку пра паэтычныя планеты, каметы, сусветы, пра законы іх з'яўлення і знікнення... Ды трэба адзначыць адразу: выданне гэтае прыцягвае нас не як магчымасць папрактыкавацца ў асацыятыўнасці. У сувязі з ім узнікае шэраг пытанняў, дачынных як да аўтара зборніка, так і да літаратурнай сітуацыі ўвогуле.

Найперш звернем увагу на творчы шлях аўтара «Неведомой планеты», па нашых акалічнасцях, не зусім тыповы. З юнацкім максімалізмам Валерый Ліпневіч некалі махнуў рукою на студэнцкую лаву, пакаштаваў хлеба рабочага, вайскоўца, журналіста. Друкавацца пачаў недзе на мяжы 60—70-х гадоў, ці за доўгім часам падрыхтаваўшы кнігі «Трава и дождь», «Тишина», выдадзеныя ў Мінску «Мастацкай літаратурай» адпаведна ў 1977 і 1979 гг. На працягу ўсяго пазнейшага часу ў рэспубліканскім і саюзным друку з'яўляліся ягоныя рэцэнзіі, артыкулы, пераклады. І вось праз дзесяць год амаль адначасова зноў выдаюцца дзве кнігі паэзіі — «Неведомая планета» ў Мінску і «Дерево и река» ў Маскве.

Зноў-такі, не абысці тое, што першая кніга В. Ліпневіча была сустрэта абсалютна супрацьлеглымі ацэнкамі. Кампліменты, якія маглі б надаць гонару любому сталаму пісьменніку: «Поэт... одаренный», «с большим творческим потенциалом» (А. Аўруцін), катэгарычна перабіваліся такімі высновамі: «Зборнік... слабы», «паэт ставіць... задачу... і не спраўляецца з ёю» (М. Мішчанчук). Рэцэнзенты не сыходзіліся ні ў стаўленні да накірунку пошукаў маладога аўтара, ні ў адносінах да больш-менш акрэсленых праяў ягонай манеры пісьма, ні нават ва ўспрыманні аднаго і таго ж тэксту.

Ці выпадкова гэта? Мабыць, не. І многае ўплывала на ацэнкі. Скажам, тое, што В. Ліпневіч з самага пачатку неяк задзірыста, дэманстратыўна імкнуўся паказаць сваю нетрадыцыйнасць — прынамсі, у форме. Гэта кідалася ў вочы і так ці інакш уплывала на далейшае асэнсаванне творчасці мала якому вядомага паэта: у полі зроку на першым плане апынулася знешняе, антуражнае. Прычым, так на Ліпневіча глядзелі тады нават тыя, хто хваліў. Як было прайсці міма «расслабленных» верлібраў, падкрэслена квяцістай метафорыкі, мудрагелістых канструкцый, апасродкаванай — пераважна кніжнай — асацыятыўнасці?

Між тым, угледзеўшы дрэвы, не лішне было б згадаць і пра лес. Акрамя свабодства ў галіне формы, вершы В. Ліпневіча адметныя ўвасабленнем нейкага інакшага кантакту з навакольным светам, інакшага адчування і бачання яго. На тагачасныя меркі гэта было непрымальна. Ды, як бачым цяпер, такое светаадчуванне і светаадлюстраванне стала нават пераважным у апошняй паэтычнай генерацыі. І тут ужо не абысціся густамі, не ўратавацца папрокамі: маўляў, страчваецца гармонія, і мы дажывёмся да таго, што нават марыць пра яе перастанем. Што ж, мне таксама больш даспадобы гарманічная карціна свету. Але чаго наракаць на люстэрка? Яно толькі дае адбітак дысгарманічнага жыцця. У аскялепках — прымаем мы гэта ці не — мусова адлюстроўваюцца не цэлыя з'явы і рэчы, а іхнія кавалкі, уцінкі, утвараючы выявы, якія могуць ужо і не тое, што чакаем, паказваць, а паўтараць адна адну. У выніку — нешта зусім неразборлівае, цьмянае, а нешта перакрыта сляпучымі «зайчыкамі»...

Істотны яшчэ і такі момант: творчыя спробы гэтага аўтара даводзілася разглядаць калі не чыста ў кантэксце рускай паэзіі, дык з абавязковым улікам яго. Усё напісанае Ліпневічам па-руску (пакінем убаку далікатнае пытанне: рускі ён паэт ці беларускі) суадносілася і параўноўвалася з традыцыямі, набыткамі і, адпаведна, усімі навацыямі расійскай паэзіі.

Няўдзячная справа — дэманстраваць «задні розум». Тым не меней хачу адзначыць: тыя, хто знаёмы з творчасцю В. Ліпневіча па першых кнігах, цяпер наўрад ці пацвердзяць усе свае даўнейшыя ўражанні. Так, некалі зацяты прыхільнік верлібра, ён усё больш прызвычайваецца да верша традыцыйнага. Глядзець на гэта можна па-рознаму. Нехта палічыць гэта здрадаю колішнім прынцыпам, нехта пашкадуе, што знікла натуральная юнацкая няўклюднасць, дзёрзкасць і ўпікне: маўляў, крытыкі абчасалі на свой густ. Ды, здаецца, у нас больш падстаў лічыць гэта нармальнымі зменамі, сталеннем, якое аблушчыла розныя вонкавыя, павярхоўныя праявы. На такую думку наводзіць і змест новых кніг. Спынімся на той, якую выдала «Мастацкая літаратура», параўноўваючы, дзе можна, з папярэднімі.

Хочацца, напрыклад, нагадаць некаторыя радкі зборніка «Цішыня» (1979): «Туча — как растрепанная курица. И как потерянное перо — облако у горизонта»; «Бабочка луны бьется о стекло, осыпая белую пыль»; «Он трясет ее за плечи, как мальчик копилку, в которой упрямо звенит так нужная ему монетка...»

Пэўна, ніхто не верыць, што ўражанне пра паэта можна скласці па некалькіх радках. Але, думаецца, што прыведзенае хоць у нейкай меры выяўляе вастрыню паэтычнага зроку. Прычым гэтая здольнасць не страцілася, а развілася, пра што сведчаць, на мой погляд, многія творы з кнігі «Неведомая планета». Скажам, нават гэтыя фрагменты:

Смолистый рисунок на досках
похож на фотографию течения
той реки,
что текла из глубин
по сосновому руслу
и впадала в небо,
ветвясь, как дельта.
(«Дерево и река»)

Вырвались березы
из черной земли.
Только родинки
на белых телах унесли.
(«Вырвались березы...»)

Пухлая снежинка
опустилась в лужу,
сразу впитала ее темноту
и стала невидимой.
(«Последний снег»)

А таксама радкі: «Любопытный малек метнулся из глубины, ударился о поверхность»; «Грязными руками март пьяно лапал белые холмы...»; «Лесть уходила через дырочку его улыбки, насмешливой, равнодушной...»

Удакладнім: могуць зачапіць і па-сапраўднаму крануць не толькі візуальныя вобразы, ёсць у Ліпневіча і тое, што называюць паэзіяй думкі. Дзеля прыкладу можна выхапіць хоць бы такія цытаты: «Облако — мечта реки о небе»; «Черными ягодами созрела белая надежда черемухи»; «...Истина... бесстрастна, как под напряжением нагота высоковольтных проводов»; «Жизнь — это на всем ходу одинединственный оборот вокруг оси»...

З удалых цэлых вершаў можна назваць такія, як «Друг мой, май...», «Воспоминание», «Детство», «Сюжет», «Это слово», «Куда идет тополь в мае?», «Неведомая планета».

Прыведзенае і згаданае дагэтуль, аднак, не азначае, што ў апошніх зборніках В. Ліпневіча ўсё хоць куды. На жаль, заўважаюцца і зададзенасць паэтычных канструкцый, залішняя рацыянальнасць. У кнізе «Тишина» гэта выглядала так: «Уже давно старик, только старик — ветхий, пожелтевший лист бумаги, потершийся на сгибах...» Падобнае сустракаецца і ў новых кнігах. Напрыклад: «И брюшко — курган над погибшим героем» — гэта з абагуленага жыццяпісу чалавека, які спасавае перад цяжкасцямі. А вось яшчэ: «Перегруженный воз Российской державы» з часам ператвараецца ў «телегу Российской державы, оснащенную реактивным двигателем революции», а тады набірае рух ад «Ленинграда — космодрома...»

Толькі неўразуменне, здаецца, можа выклікаць тэкст, які пачынаецца так: «Красная богородица, увенчанная рогами, ты возникаешь в проеме дверей из темноты глубокой, как откровение...» Тэма гэтага твора — карова, і загаловак адпаведны. Што ж, «паэтычная карова» па законах мастацтва мусіць адрознівацца ад звычайных, і тут не задасі сакраментальнае пытанне: «А нашто яшчэ раз вынаходзіць веласіпед?!». Можна было б пагадзіцца, што няма патрэбы весці спрэчку пра густы, можна шчыра прызнаць над сабою ўладу сялянскай псіхалогіі і адпаведнага светаадчування, але як паверыць, што аўтар працытаваных радкоў нясе сапраўды новую веру, новую натурфіласофію? Ды ён, хутчэй за ўсё, яшчэ раз выпрабоўвае прыёмы, скарыстаныя ў «мультфільме для дарослых» пад назваю «Пляжная история». Таму абмяжуемся прапановаю: лепш-такі пакінуць карове каровіна, а багародзіцы — тое, што ёй належыць. Тым болей, што многімі іншымі творамі В. Ліпневіч выяўляе здольнасці глыбока адчуваць прыроду — невыпадкова «скразнымі» ў яго праходзяць вобразы жывога свету, ды і назва кнігі «Дерево и река» сама за сябе гаворыць. Няма асаблівых падстаў сумнявацца і ў тым, што паэт не ўсведамляе розніцы паміж «высокім» і звычайным.

Разам з тым, нельга не адзначыць, што змест і паэтыка «Неведомой планеты» абумоўлены сваім часам. Само па сабе гэта ні добра, ні кепска. Калі браць асобныя творы, часцей-такі сутыкаемся з вынікамі станоўчымі. Але паэт, відавочна, не можа адолець некаторыя спакусы. Галоўная з іх — арыгінальнасць любой цаной. Вось і з'яўляюцца карова «как откровение», сюррэалістычная мультыплікацыя і падобнае. А другая, як ні дзіўна, супрацьлеглая спакуса — імкненне ахапіць як мага больш матэрыялу —і па тэмах, і па праблемах, і па жанрах. Калі пераважна ўдалымі ўспрымаюцца вершы медытатыўнага характару, візуальныя накіды, абразкі, дык публіцыстыка Ліпневіча робіць уражанне значна слабейшае. Мабыць, гэта не яго стыхія. На такую выснову, дарэчы, наводзіць і вось якое назіранне: у зборніках «Неведомая планета» і «Дерево и река» амаль не сустракаюцца чыстыя маналогі, «я»-дэкларацыі. Па форме выказвання больш за ўсё вершаў рэфлектыўных, унутрана дыялагічных.

Аўтарскае «я» ў вершах Ліпневіча не атаясамліваецца з так званым лірычным героем, паміж імі, як правіла, прыкметная дыстанцыя, а ў некаторых выпадках і падкрэсленая аддаленасць, нават адчужанасць. Можна спаслацца на верш «Автошарж», быццам бы наўмысна дзеля такой размовы напісаны, але і ў іншых творах такое раздваенне мае свой сэнс і стварае адпаведны эфект.

Праніклівы чытач твораў В. Ліпневіча, напэўна, заўважыць, што як раней, так і цяпер паэт мала дбае пра музыку верша. Думаецца, гэта не столькі пытанне тэхнікі, болей — праява натуры і выпрацаванай манеры.

Не лішне было б параўнаць апошнія дзве кнігі між сабою. Калі абмежавацца некалькімі словамі, варта адзначыць, што «Дерево и река» уключае напісанае раней, з'яўляючыся ў пэўным сэнсе выбраным. Маскоўскі зборнік, на мой погляд, лепш скампанаваны, больш цэльны. Ды і назва ў яго адпаведнейшая. Але перачытаў верш, аднайменны з назваю кнігі, выдадзенай у Мінску, і завагаўся. Дазволю сабе прывесці яго:

Как уверенно
взлетает ствол
в небо
и как робко
осваивают ветви
пространство вокруг.
Как похоже —
не правда ли? —
наша юность,
стартующая, как ракета,
и блужданье
по неведомой планете —
жизни.
До тех пор,
пока корни
молчат о себе.

Ёмісты верш. Прынамсі, па ўвасабленні ўсеагульных, хоць і простых, з першага погляду, законаў, якія, акрамя ўсяго, нам цікавыя ў праекцыі на пісьменніцкую біяграфію.

Застаецца пажадаць паэту, каб было пераадолена адчуванне невядомай планеты і каб не маўчалі яго карані.

**Іван ЧАРОТА.**

---

Ліпневіч В. Невядомая планета. На рускай мове. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

Ліпневіч В. Дрэва і рака. На рускай мове. Масква, «Современник», 1988.

## З паэтычнай пошты

### Яўген МІКЛАШЭЎСКІ



●

Паслухаем тых, хто — за Справу,
За лад і за сэнс у жыцці.
Хто чыніць за праўду расправу —
Усіх на падсудную лаву,
Дзе кожнаму выдадуць славу,
З якою да скону ісці.

Не слухаем тых, хто — за Слова,
Абы пашумець, пагрымець
І ўсплыць на паверхню часова
З трыбунаю «Перабудова»,
Каб кадку пустую нанова
Прымусіць грымець,
Нібы медзь!

●

Не, будаваць дзяржаву з назвай Мы,
Відаць, няпроста па прымусу:
Яна рассыплецца, нібы дамы
На схілах гор ад землятрусу.

Ды змацаваць цаглінкі між сабой,
Што мелі назву Я спрадвеку,
У мур, што стаў бы крэпасцю людской,
Ці ж не па сіле чалавеку?

●

Ты бачыш свой наступны дзень
У дзіўным люстры мрой, з якога
У светлы міг сыходзіць цень
Ад сумятні жыцця людскога.

●

З чаго пачынаць агітацыю
За бедную родную мову?
Якую стварыць дэкларацыю,
Каб потым узяць за аснову?

Бяром працавітасць сялянскую,
Умельства і праллі і ткаллі,
Гасціннасць, сардэчнасць славянскую
З уцехаю свят, а не баляў.

А разам — духмянасць маёвую,
Красу беларускай прыроды —
І ветрыку хвалю паўднёвую,
І шквал навальнічнай нягоды.

А з імі і жывапіс, графіку,
Найлепшыя фарбы і формы...
Хто песні спявае па графіку,
А ўцеху даводзіць да нормы?

Далоў фанабэрыю нечыю
І тупасць, што стала тыповай!
Напоўнім душу чалавечую
Сугуччамі роднага слова.

Не крыкам, што хрыпам канчаецца, —
Мастацтвам народа нязмерным,
Што сэрцы ўзрушаць прызначаецца,
Мы мову народную вернем!

●

Калі зоркі свецяць —
Цемрадзь не радзее,
І на ясны месяц
У зямлі надзея.

Ён нібыта сокал
У імгле лунае.
Над ілбом высокім
Німб дасвеццяззяе.
І яго натхнёна
Зноў вітаюць гімнам
З думкай утрапёнай
Авалодаць німбам.

Ды, калі ты хлусіш,
Не чакай натхнення —
Месяц не спакусіш
Песняй усхвалення.

Як у ранак весні
Клён зялёны — крону,
Не аддасць за песні
Ён сваю карону.
Хоць над цёмным лесам
Свае бавіць ночы,
Ды хвалебных песень
Слухаць неахвочы.

Ён за песні плаціць
Тым, што свеціць ясна,
І свой німб не страціць,
Як вянок... дачасна.

### Мікола МІНЧАНКА



## Зямлі

Што там, на другіх планетах? —
Ты яшчэ не ведаеш, Зямля.
Можа, там стагоў духмяных лета?
Можа, там завейная зіма?

О, людская храбрая імклівасць,
Не ўтрымаць нікому твой імпэт!
Ты з зямлі няшчаснай і шчаслівай
Цягнеш рукі у трывожны свет.

І калі ў Сусвет імкнуцца людзі,
На другіх планетах будуць жыць,
І тады людское сэрца будзе
Аб Зямлі — аб мацеры тужыць.

Бо яна навечна застанецца,
Як была, і ліхам, і дабром.
І пакуль людское сэрца б'ецца,
Ты звіні, наш вечны песнядром!

Ты звіні! І кліч сыноў за хмары.
Ты звіні! Каб знаў увесь Сусвет,
Што ты нам дала жыццё, і мары,
І гарачы розуму імпэт.

## Хлебапёкі

Ёсць людзі — паміраюць, як дрэвы:
Не зведаўшы страшнага холаду
І смагі ў летнюю спёку.

Ёсць людзі, якія не падалі камнем
Нават у думках з высокае кручы:
Не ляталі ў гарах арламі ніколі.

Ёсць людзі —
Жылі, не зведаўшы горкі палын —
Мукі і шчасце кахання,
Не пабачыўшы бліскавак у цёмнай ночы.

Ёсць людзі — проста жылі і памiралі:
Без чырвані-болю,
З якой нараджаецца ранне,
Без радасных думак
І светлых, як зоры у жніўні,
Няўрымслівых мар.

Ёсць людзі — жылі-не жылі:
Ніхто і не ўспомніць пра гэта цяпер.
Стаміўшыся, сеялі жыта...

Штодня працавалі...
І, можа, паглядзеўшы аднойчы на сонца,
Выпеклі першы,
Круглы,
Гарачы,
Духмяны
Наш хлеб?

## Час

Мне стрэлкі гадзінніка,
Быццам пчолы на ўзлёце.

Бо стрэлкі гадзінніка —
Гэта час у рабоце.

Ён працуе старанна.
Беражэ нас і губіць.
І позна, і рана
Зноўку судзячы — любіць.

## Пошук ісціны

Мы шукаем ісціну такую...
Адкрываем ісціну другую,
Ад якой далёкія усе.

І губляем, быццам дзеці цацку,
І ўзнімаем зноў яе знянацку
На далёкай новай паласе.

Гора ўжо не раз перабалела.
Але мы ідзем наперад смела.
І наш скарб нішто не растрасе.

І каму гавораць гэта людзі:
«А яму хіба мы будзем суддзі?
Ці не ён нам ісціну нясе?»

## Зоркі шчасця

Ад усмешкі людзі маладзеюць.
Сэрца перапоўнена дабром.
Нават і узімку над Дняпром
Зоркі шчасця ў нас не халадзеюць.

Людзі — птушкі. Птушаняты — дзеці.
Клопат наш заўсёды аб адным,
Каб усё найлепшае на свеце
Выпала на долю маладым.



Мінск сёння. Праспект МАШЭРАВА.

Фота Э. ЭЛЬКСІНА.

---

ЖОРА Стралец асабліва не задумваўся над тым, што давялося перажыць, хоць варта было задумацца і сур'ёзна. Не задумваўся, бо яго справы ў гастраноме ішлі нармальна, як для сваіх работнікаў, так і для пабочных некаторых асоб ён быў патрэбным чалавекам, Жорыкам, Георгіем і нават Георгіем Леапольдавічам.

Кола ягоных знаёмстваў усё пашыралася. Праўда, то былі кароткія знаёмствы і галоўны іх сэнс зводзіўся да аднаго — хутчэй узмахнуць сякерай і адсекчы лепшы кавалак мяса. Многіх наведвальнікаў Жора бачыў упершыню, многіх добра запомніў, ён іх беспамылкова ўгадваў потым на вуліцах. на іх прывітанні адказваў кіўком галавы ці памахваннем рукі, і тыя, што былі побач з ім, паляпвалі яго па плячы:

— Ай ды наш Жора! Яго ўвесь горад ведае, як мэра...

— Стараемся, — тоячы ўсмешку ў хітра прыжмураных вачах, адказваў Жора, лічачы гэтыя ліслівыя прызнанні сэнсам свайго жыцця.

Мяса сек Жора ўвішна, спраўна, сам Пімен Малафеевіч не забываўся на планёрках, на вытворчых нарадах паставіць Жору ў прыклад «за исполнительскую дисциплину», выдаць прэмію. Часам да яго без суправаджэння дырэктара заходзілі зусім невядомыя і падавалі стандартныя паперкі, на якіх значылася адно і тое ж: «Г.Л.! Обеспечить!» І размашысты подпіс самога дырэктара. Іншы дзень у кішэні Жоравага халата збіралася цэлая жменя гэтых «пасланняў», з якіх кожнае было «забяспечана» згодна ўказанню зверху. Жора прыкмеціў: да яго вельмі часта прынадзілася хадзіць прыгожая, год трыццаці пяці, жанчына. З яе твару ніколі не сыходзіла ўсмешка. Здавалася, яна спецыяльна нарадзілася, каб усміхацца. Дык вось, гэта прыгожанькая асоба штораз пхала ў сумку столькі, быццам у яе на тыдні было ўласныя два дні нараджэнні. Гэта Жору зацікавіла. А калі так, то яму проста захацелася «калекцыяніраваць» усе паперкі, якія яна заўсёды ўручае Жору. Дзеля чаго гэта ўсё, Жора толкам не адказаў бы. Проста захацелася збіраць і ўсё тут, у той час як паперкі ад іншых ён пасля работы рваў на дробныя кавалачкі і кідаў у сметніцу.

Аднойчы гэту жанчыну ён выпадкова сустрэў у фае кінатэатра. Жора быў не адзін — з выхавацелькай дзіцячага сада, з якой толькі што пазнаёміўся. Жору так хацелася, проста да немагаты хацелася, каб тут як мага было больш тых, хто з ім здароўкаецца, каб у адказ ківаць ім галавой і памахваць рукой. Гэта вельмі важна было ў прысутнасці новай знаёмай, але, на жаль, Жоравых «кліентаў» тут не было, а, можа, і былі, ды не заўважалі яго, як вось гэтая з вечнай усмешачкай на твары. Тады Жора сам вырашыў, праходзячы міма, кіўнуць гэтаму прывабнаму тварыку, вось яна якраз і ўставіла на яго прыгожыя вочы. Ён элегантна кіўнуў, але жанчына была, як манекен, — не прарэагавала. Тады Жора памахаў рукою, і жанчына, раптам спахмурнеўшы, рэзка адвярнулася ад яго. Жора адчуў, як пачырванеў. Яму ў гэты момант хацелася праваліцца скрозь зямлю, а тут яшчэ новая знаёмая дабіла канчаткова:

— Чаго гэта тая жанчына так ад вас адвярнулася, быццам вы хацелі зняць з яе дублёнку?

— Бывае, бывае, — усяго і адказаў Жора.

Цяпер яму хацелася хутчэй дачакацца раніцы, каб, як заўсёды, заняць сваё рабочае месца за шырокай калодай з сякерай у руках. І калі гэта раніца наступіла і калі, нарэшце, з чароўнай усмешкай да яго зайшла тая жанчына з паперкай у руках, ён з такой жа ўсмешкай паклаў ёй у сумку два загадзя загорнутыя ў паперу кавалкі. Гэта былі звычайныя тлустыя кавалкі, як і на вітрыне ў мясным аддзеле іх гастранома, але яны, гэтыя кавалкі, сталі прычынай разладу паміж Жорам і самім Піменам Малафеевічам. Назаўтра ж дырэктар паклікаў да сябе ў кабінет Жору. Па тым, як шэф адказаў на Жорава прывітанне, той зразумеў: будзе разнос.

— Ты што гэта самаўпраўнічаеш?! — пачаў Пімен Малафеевіч. — Ты што плевак у сумку нагрузіў?! Выходзіць, мая папера для цябе — не закон?!

— Закон...

*Проза*



Міхась Паражневіч

# РОЗДУМ

**Рана ці позна чалавеку прыходзіцца задумацца: як ён жыў, па якой шкале мераў свае паводзіны, учынкі, ці хапала ў яго грамадзянскай мужнасці да канца быць прынцыповым! Жыццё падсумоўвае рахункі пражытаму, судзіць нас, як самы строгі суддзя...**

**Пра гэта мая новая аповесць «Ачышчэнне», урывак з якой прапаную чытачам штотыднёвіка.**

**АЎТАР.**

— Дык чаму ж? Ты ведаеш, дзе і кім працуе гэта жанчына?

Жора не ведаў, дзе і кім яна працуе, адно зрабіў дакладны падлік усіх пісулек, якія выдаваў жанчыне Пімен Малафеевіч, — іх было больш за тузін. Жора паклаў на стол перад дырэктарам стосік паперак, ляпнуў па іх даланёй:

— Мясаглот яна, вось хто! З такім апетытам яна ўвесь наш гастраном праглыне, нікому і рабрынкі не дастанецца.

Пімен Малафеевіч пастукаў костачкамі пальцаў па стале, падзьмуў на іх:

— Я так і думаў, што з табой так палучыцца. Прыгрэў я цябе, хоць па закону не мог гэта рабіць, сам знаеш, чаму... А цяпер давай ад нас! Як кажуць, бяры шынель, ступай дамоў... Па ўласнаму жаданню...

— Дзякуй за навуку. Толькі і я скажу вам: за такія вось пісулькі праз «чорны ход» вы і самі можаце сесці ў «чорны воран»...

У той жа дзень Жора накатаў заяву і ў той жа дзень Пімен Малафеевіч падмахнуў яе сваім нязменным размашыстым почыркам.

Зноў для Жоры наступілі бяссонныя дні і ночы. Тыя, што здаля, ледзь убачыўшы яго, перабягалі вуліцу яму насустрач, цяпер рабілі выгляд, што не бачаць яго. Тыя ж, што пішчом лезлі «раздавіць бутэлечку» на ягонай кватэры, некуды бясследна зніклі. Аказалася, што цяпер без яго, Жоры, можна хадзіць і на дзень нараджэння, на ўваходзіны... Атрымлівалася так, быццам сам Пімен Малафеевіч раззваніў па горадзе кожнаму, хто такі на самай справе Жора, што ён звольнены з работы...

Усе гэтыя дні і ночы доўга і цяжка думаў Жора. Пачынаў са свайго маленства ў ціхім глухім завулку і канчаў гастраномаўскімі прыгодамі. У маленстве ён з усіх цацак больш за ўсё чамусьці любіў лялькі. Ён з зайздрасцю глядзеў на суседскіх дзяўчынак, якія выходзілі пагуляць на двор з лялькамі-галышамі, з лялькамі, апранутымі ў пышныя сукенкі, абутымі ў чаравікі ці балеткі. Ён прасіў дзяўчынак даць патрымаць ляльку, але дзяўчынкі не давалі. І тады Жору нічога іншага не заставалася, як адабраць — ён жа хлапчук! У суседнім пад'ездзе жыла дзяўчынка Рыта і ў яе была самая прыгожая лялька: варта павярнуць — плача, варта пакласці на спіну — заплюшчвае вочы. Цуд, а не лялька! І Жора вырашыў заўладаць гэтай лялькай. Ён доўга тузаўся з Рытай, тая крычала, клікала маці і абедзвюма рукамі ўчэпіста трымала ляльку за галаву. Хутка ў Жоравых руках засталіся адарваныя дзве нагі, за што ён атрымаў ад маці добрую лупцоўку. Пасля гэтага ў яго наогул знікла любоў да лялек.

У першым класе Жора быў самы рослы, але апрануты ў адрозненне ад іншых больш чым сціпла: сарочка, штаны. Ён не заўважаў, што іншыя ў строгай школьнай форме з ранцамі за плячыма. Насіць буквар і сшыткі для яго было дастаткова і партфеля. Вось толькі ў школьным буфеце Жора адчуваў сябе ніякавата. Пасля званка хлопчыкі і дзяўчынкі стрымгалоў несліся туды, і Жора не адставаў ад класа, хоць у ягоных кішэнях не было ні капейкі. Пад дружны звон манет аднакласнікі куплялі булкі, баранкі, пернікі. Жора стаяў убаку і чакаў момант. Як толькі хто з першакласнікаў праходзіў міма з пульхнай булачкай у руцэ, Жора тут жа адламваў добры кавалак, мігам з'ядаў. У класе з усіх куткоў на пераменах чулася адно і тое ж: «мой тата», «мой тата», а ў Жоры была адна маці, якая чамусьці ніколі не давала яму на «буфетныя расходы», а сам ён у яе грошай ніколі не прасіў...

Ужо недзе ў пятым ці шостым класе Жора асабліва востра адчуў сваё становішча, што ў яго няма бацькі. Жору-бязбацькавіча ён цяпер адчуваў на кожным кроку і знешне і ўнутрана. Яму хацелася плакаць ад крыўды, што ў яго няма бацькі, што ён яго нават не памятае, а ён жа павінен, абавязкова павінен быць! А калі няма бацькі, то на нагах няма і такіх чаравікаў, як у іншых хлапчукоў. Не такі касцюм, не такое паліто, плашч. Само адзенне, абутак гаварылі кожнаму: вось у яго, Жоры, няма бацькі... Трэба з гэтага шукаць нейкае выйсце, каб на цябе не тыцкалі пальцамі. Адным словам, трэба самасцвярджацца ў жыцці. А вось як гэта робіцца, хто падкажа?

Жору «падказалі» старэйшыя за яго дружкі, уцягнулі ў кампанію «купі-прадай». Модны гальштук, акуляры — усё ішло ў ход з-пад крыса. Спачатку Жору было і сорамна і боязна прапаноўваць рэчы прахожым. Аднак кажуць жа, што сорам вачэй не выесць. Пакрысе ўцягнуўся, купля-продаж перараслі ў патрэбу. Затое ў школе, калі Жора ўпершыню расчыніў дзверы свайго восьмага «Б» класа, усе не маглі не заўважыць на ім імпартныя абноўкі.

— Татуля падкінуў! — паблажліва сказаў ён, хоць у яго ніхто не пытаўся пра гэта. — Мой татуля ўсё можа...

Жора самасцвярджаўся ў жыцці, але гэта «самасцвярджэнне» ішло не ад ніжэйшага да вышэйшага, а наадварот. Адсюль і вынікі, адсюль і вывады...

А ці зрабіў ты, Жора, вывады пасля «казённага дома»? Чаму цябе навучылі гэтыя два гады ў гастраноме? На ўсмешку адказваць усмешкай, лічачы гэта культурай абслугоўвання пакупнікоў? Дапусцім. Але ж то былі не пакупнікі, а хадакі праз службовы ход... А хто табе з тых, каго ты за гэты час сустрэў, запаў у душу? А з кім бы ты пайшоў у агонь і ваду, калі б гэта раптам спатрэбілася? Ці ёсць у цябе той, з кім бы ты зараз пасядзеў адзін на адзін вось у гэтым пакоі, каму б да канца выліў усё, ад чаго так моташна і горка на сэрцы? Палістай сваю запісную кніжку, Жора, там у цябе шмат тэлефонаў, адрасоў. Не доўга ж спусціцца ўніз, набраць патрэбны нумар, каб чалавек прымчаўся да цябе, памог хоць трохі развеяць твае цяжкія думы. Колькі ў тваёй кніжцы крэслена-перакрэслена, Жора, тваёй жа ўласнай рукою, бо гэта былі выпадковыя сустрэчы з выпадковымі людзьмі. А тых, якіх яшчэ не паспеў выкрасліць, ты таксама не памятаеш, як ні напружвай свой мозг. Што ты скажаш, напрыклад, пра гэты нумар тэлефона, супраць якога вывеў тлустыя літары «Н. П.»? «Паклічце мне Ніну Пятроўну ці Наталлю Паўлаўну?»... А, можа, гэтыя «Н. П.» — ініцыялы якой-небудзь Нэлі Панцялееўны або Надзеі Палікарпаўны?! Хто ж будзе размаўляць па тэлефоне з такім «знаёмым» чалавекам? А гэта што за такая Доля Маркаўна? Тады, калі ты запісваў, ручка не слухалася цябе, ты зараз ледзьве пазнаеш свой уласны почырк. Дык хто ж яна, Доля Маркаўна? Імя ж якое рэдкае, шматабяцаючае — Доля! Гэта значыць — лёс, спадарожніца жыцця, шчасце. Нарэшце, прыгадаў: Доля Маркаўна — гэта краўчыха з атэлье, гады з два назад ён прыходзіў да яе заказаць касцюм, з выпадку такой падзеі быў крыху «цёплы», вось і абмяняўся з краўчыхай тэлефонамі. Доля Маркаўна раз ці два прыходзіла да яго ў гастраном, Жора не паскупіўся адсекчы рабрынку, а калі касцюм быў гатовы, далейшае знаёмства страціла ўсялякі сэнс...

Вось так,Жора, бязлітасна выкрэслівай фламасцерам усе гэтыя адрасы і тэлефоны, бо яны для цябе проста не існуюць у гэтым горадзе.

Лісток на літару «Я» быў чысценькі, калі не лічыць адзінае прозвішча — Яцкевіч. Супраць — нумар тэлефона. Не, ён нідзе і ніколі не забываўся пра гэта прозвішча. Ён палахліва адварочваўся, накіроўваўся ў іншы бок, калі здаля заўважаў дзяўчыну, падобную на тую, з якой не бачыўся ўжо амаль цэлы год. Ён не адразу расчыняў дзверы сваёй кватэры, калі хто-небудзь настойліва націскаў кнопку званка. Прыпаўшы да шклянога вочка, затаіўшы дыханне, ён спярша «наводзіў даведкі», затым ужо расчыняў дзверы. І ўвесь гэты час ён жыў пад пастаянным страхам, што яго ўсё ж адшукаюць, нанясуць нечаканы візіт, бо ён жа ў рэшце рэшт не іголка ў стозе сена, ды і тую можна адшукаць хоць бы з дапамогай магніта... Аднойчы, здалося яму, ён ледзь не сутыкнуўся з ёй, калі праходзіў па нейкай патрэбе каля мясного аддзела, і ў яго ўнутры ўсё паледзянела. Потым ён нямала дзівіўся, што яна яго не шукае і, відаць, не збіраецца гэтага рабіць, хоць недзе ўжо стала маці і ёй, адной, зараз ой як нялёгка!.. Ён быў уражаны гонарам гэтай дзяўчыны, якая, пэўна, яшчэ не паспела нікога ў жыцці пацалаваць, апрача яго, і якая пры любых нягодах не скорыцца лёсу. Ён ніколі не сустракаў такіх на сваім шляху, таму ён па-свойму памятаў яе, няхай гэта была і недастойная, жорсткая памяць.

Ехаць туды, у інтэрнат, ён не паедзе, а пазваніць трэба. Абавязкова трэба пазваніць!

Жора спусціўся ўніз, з тэлефона-аўтамата набраў патрэбны нумар. Пачуліся гудкі, але трубку ніхто доўга не падымаў, і Жора цярпліва чакаў. Нарэшце, шчоўкнуў аўтамат, праглынуўшы манету, і сіплаваты жаночы голас сказаў:

— Слухаю.

— Будзьце ласкавы, паклічце, калі ласка, Марыю Яцкевіч.

— З якога пакоя?

Жора не ведаў нумара пакоя.

— Прабачце, я не памятаю... Але такая абавязкова жыве ў вас і яна зараз дома, таму вельмі прашу...

Наступіла доўгае маўчанне. Дзяжурная інтэрната, відаць, адшуквала прозвішча па даведніку. Нарэшце, зноў пачуўся яе голас:

— Няма такой.

— Прабачце, як гэта — няма?! Яшчэ ж нядаўна была... — хітра падыходзіў Жора, адчуваючы, як спацела рука, трымаючы трубку.

— Няма. Яна дзіцё нарадзіла, от яе і выселілі...

Хоць Жора быў падрыхтаваны да такой навіны, але тое, пра што зараз пачуў, разанула балюча слых. Перабралася, а куды? Дзе цяпер яна з дзіцем на руках? У каго-небудзь на кватэры? Ці, можа, вярнулася дадому? Але ж у яе, як і ў яго, ні бацькі, ні маці. Сам жа бачыў, калі ездзіў у вёску. Хіба, можа, да суседзяў паехала? Як бы там ні было, а трэба ехаць. Неадкладна! Зараз жа!

Ва універмазе Жора доўга прыглядаўся да розных цацак. На яго, як і ў тым далёкім маленстве, спакусліва пазіралі лялькі і кожная, працягваючы рукі, быццам гаварыла: «Купі мяне! Купі мяне!» Ён купіў ляльку ў ярка-чырвонай сукенцы і з зялёным бантам у светлых косках. Што яшчэ купіць? Безумоўна, вось гэтага пластмасавага папугая і гумавага слана. Хутчэй у дарогу, Жора! Ужо хутка будуць зачыняць універмаг, а наперадзе ў цябе не бліжняя дарога...

Тут, у горадзе, дажджу не было, проста было хмурна, душна, бы ў кацельні, а як толькі Жора выехаў на шашу, наперадзе заўважыў не шэрую, па якой імчаў, а чорна-бліскучую стужку асфальту. Хочаш не хочаш, а трэба збаўляць хуткасць, бо са слізкага асфальту лёгка зляцець у кювет. І дзіўна ж атрымліваецца: тут суха, а наперадзе, за метраў сорак, быў лівень, далей не пайшоў да горада, быццам перад ім нехта паставіў заслону. У дажджу і то ёсць свая мяжа, а ў чалавека? Канечне ж, ёсць таксама: мяжа дабра і ласкі, даверу і павагі. Яна не бясконцая, гэта мяжа, і калі яе, растаптаўшы, пераступіць, чалавеку нічога іншага не застаецца, як змяніць дабро на гнеў, ласку на холад, давер на расчараванне, павагу — на абыякавасць, нават на нянавісць...

Філасофствуй, Жора, ты ўсё ж пражыў дваццаць пяць, нялёгка пражыў, пакачала цябе жыццё па калючых шышках, а калі так, то ты павінен быць хоць маленькім, але філосафам. Пімен Малафеевіч быў добранькім у адносінах да цябе, пакуль ты не запаліў перад ім «чырвоны светафор». А так невядома, дакуль махаў бы сякерай, калі б з твайго боку гарэў «зялёны». Ёсць мяжа, канечне, і ў Машыным сэрцы. Ты ад яе, як ні ад кога больш, пазнаў шмат чалавечай ласкі, дабрыні, даверу, яна ў адносінах да цябе была бескарыслівая, якой бывае толькі маці. А ты жорстка праехаў коламі па Машынай мяжы, і цяпер вось едзеш да яе ў вёску, назву якой ты даўно б забыў, каб не выпадкова зробленая паметка на тваёй дарожнай карце...

Пачаўся дождж, і Жора, уключыўшы «дворнікі», пільна ўзіраўся ўперад. Стрэлка спідометра застыла на лічбе «60». «Нічога, хоць у прыцемках, але дабяруся,—разважаў Жора. —А ў горад спяшацца мне няма чаго». Паступова пачало змяркацца, і гэта яшчэ болей ускладняла справу. Цяпер каля кожнага павароту даводзілася паўзці, а не ехаць, каб упоцемках не праскочыць тую гравійку, што вядзе на Панізоўе.

Што ты скажаш, Жора, калі на парог невядомага жытла насустрач выйдзе Маша? Якія будуць твае першыя словы? Сам пакуль не ведаеш, хоць думаў-перадумаў да болю ў патыліцы. Лялькай-прыгажуняй ды гумавым слонікам, якія ты адразу пастараешся выставіць, паперадзе сваіх слоў, наўрад ці перакрэсліш мяжу, калі не наадварот. Думай, Жора, думай...

Святло фар выхапіла справа кавалачак жаўтлявай дарогі. Жора спыніўся, пільна прыгледзеўся. Здаецца, і тады дзве сасны стаялі пры самым павароце. І курганок з бетонным слупком наверсе. І па часе трэба рабіць паварот. Колы зашыпелі па жвіры. Добрая гравійка. І тады такая ж была...

*Музыка*

# Калісьці трэба пачынаць

**Палемічныя нататкі пра некаторыя праблемы эстраднай адукацыі ў Беларусі**

УЖО МНОГІЯ гады са старонак друку не сыходзяць тэмы, звязаныя з развіццём савецкай эстрады. Гавораць пра цяжкі шлях многіх эстрадных зорак на вялікую сцэну, пра «гармідар на эстрадным Алімпе». З цяжкасцю паварочваецца грамадская думка, а разам з ёю і друк, да карэнных праблем эстрады. Скажам, з вялікім, гадоў на пятнаццаць, спазненнем — толькі ў 1982-84 гадах пачалі праслухоўваць і атэстоўваць ВІА, прафесійныя і самадзейныя. Заняліся гэтым тады, калі ў сусветнай эстрадзе стыль ВІА ўжо адышоў і на змену яму прыйшлі новыя стылі, новыя павевы.

На вялікі жаль, гэты «лёгкі» эстрадна-джазавы свет, нягледзячы на сваю мабільнасць, на неверагодна хуткую зменлівасць стыляў і напрамкаў, на вялікую ўплывовую сілу, знаходзіцца на правах падчаркі ў агромністай і цэласнай сістэме музычнага мастацтва, і праблем у сённяшняй эстрады столькі, што ў адным артыкуле лепш і не спрабаваць усе пералічваць.

Паспрабуем знайсці галоўны корань сённяшніх непарадкаў на эстрадзе. Глыбока перакананы, што гэта — адсутнасць у пераважнай большасці практыкаў эстрады і развітых эстэтычных густаў, і крытэрыяў ацэнкі ўласнай творчасці, гэта — за рэдкім выключэннем — і кволая, наладжаная адносна нядаўна сістэма падрыхтоўкі прафесійных эстрадна-джазавых музыкантаў.

У нашай краіне пра эстрадна-джазавую адукацыю актыўна загаварылі ў канцы 60 — пачатку 70-ых гадоў. А ў 1976 годзе ў дваццаці музычных вучылішчах РСФСР і некаторых музычных вучылішчах іншых саюзных рэспублік былі ўведзены прадметы па праграме эстраднай спецыялізацыі, г. зн. эксперымент. У нашай рэспубліцы ён пачаўся ў 1977 годзе (Мінскае музвучылішча імя М. І. Глінкі) і доўжыўся ажно да 1980 года, да адкрыцця ў СССР новай вучэбнай спецыяльнасці — «інструменты эстраднага аркестра». Звяртаю ўвагу чытача на тое, што ў колішнія гады шлях эксперыменту, шлях факультатыву быў апраўданы, але цяпер, калі відавочна, што трэба ствараць самастойныя эстрадныя аддзяленні, кіраўнікі некаторых навучальных устаноў прапануюць ісці ранейшым шляхам, тармозячы тым самым уключэнне эстраднага жанру ў навучальны працэс. Гэта датычыць і музычных школ, вучылішчаў рэспублікі, і нават Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

Але навошта ісці шляхам старых памылак? Чаму не скарыстаць назапашаны багаты вопыт арганізацыйнага будаўніцтва ў гэтай справе? І калі мы сёння гаворым пра эстрадна-джазавую падрыхтоўку спецыялістаў, дык трэба гаварыць і пра неабходнасць стварэння адпаведных аддзяленняў і кафедраў у навучальных установах рэспублікі. На маю думку, няма патрэбы даказваць тут, што кафедра эстраднага дырыжыравання Мінскага інстытута культуры, якой належыць адказваць на пастаўленыя пытанні ў сістэме культасветработы і надаваць сваім выпускнікам кваліфікацыю «арганізатар самадзейнай творчасці; кіраўнік самадзейнага духавога і эстраднага аркестра і ансамбля», не здатная па многіх аб'ектыўных прычынах вырашыць пытанне **прафесійнай** эстрадна-джазавай адукацыі.

АДНАК ЗГАДАЕМ, што ж адбывалася ў навучальных установах. Спачатку, у 1980 годзе, эстрадныя аддзяленні былі адкрыты ў музвучылішчах. Гэтага вымагала жыццё. Тэрмінова спатрэбіліся кваліфікаваныя кадры для працы ў філармоніях, ды і, не сакрэт, вельмі многія вядомыя на той час артысты эстрады не мелі спецыяльнай адукацыі. А пачынаючы з 1983 года па ініцыятыве вядучых музыкантаў гэтага жанру і пры станоўчым рашэнні і падтрымцы адпаведных ведамстваў адкрыліся эстрадныя аддзяленні (кафедры) у ВНУ і музычных школах Масквы, Растова-на-Доне, Вільнюса. Як ужо гаварылася, на Беларусі першым адкрылася эстрадна-джазавае аддзяленне ў Мінскім музычным вучылішчы. І яно адразу паказала сябе на рэспубліканскім і саюзным узроўнях (канцэрты, фестывалі). А потым усё сціхла...

І гэта ў той час, калі ў многіх вучылішчах краіны навучальна-творчы працэс дасягнуў значных вышыняў, навучэнцы зрабіліся лаўрэатамі многіх конкурсаў і фестываляў у СССР. Прынамсі, вучэбныя аркестры музвучылішчаў Масквы, Ленінграда, Адэсы, Растова, Новасібірска і іншых гарадоў сістэматычна ўдзельнічаюць у джазавых фестывалях (фестываль біг-бэндаў у Растове-на-Доне, Міжнародны фестываль «Восеньскія рытмы» ў Ленінградзе, традыцыйны Маскоўскі джазавы фестываль...). А нядаўнія выпускнікі Растоўскага вучылішча мастацтваў сталі лаўрэатамі і дыпламантамі міжнароднага конкурсу і фестывалю. (Я ўжо не гавару тут пра своеасаблівую, вельмі арыгінальную сістэму выхавання музыкантаў у Прыбалтыйскіх рэспубліках).

Ужо некалькі гадоў, як адкрыліся эстрадныя аддзяленні ў музвучылішчах Гомеля і Магілёва. Ідзе складаны працэс станаўлення. Але нават першыя поспехі, на жаль, застаюцца па-за ўвагай і рэспубліканскага друку, і тых афіцыйных службаў, якія абавязаны курыраваць работу эстрадных аддзяленняў музвучылішчаў, ладзіць агляды, конкурсы па новых спецыяльнасцях. Недастатковыя кантакты паміж эстраднымі аддзяленнямі розных вучылішчаў. Педагогі і навучэнцы «варацца ва ўласным соку», адсутнічае творчы абмен, дух спаборніцтва. І нават да тых фестываляў і конкурсаў, якія ў рэспубліцы ўжо існуюць (фестываль джазавых піяністаў у Мінску, традыцыйны фестываль «Віцебская восень», «Юнацтва Палесся» ў Салігорску), музычныя вучылішчы рэспублікі не далучаюцца.

ЦЯПЕР КОЛЬКІ СЛОЎ пра музычныя школы. Шчырае дзякуй адміністрацыі тых ДМШ, дзе павярнуліся тварам да эстраднай адукацыі. У некаторых з іх адміністрацыя нават спрабавала і спрабуе па-ранейшаму ствараць ВІА. А ці трэба сёння займацца гэтым амаль аджылым стылем? Тым больш, што гэтыя ВІА выконваюць не выпрабаваны часам рэпертуар лепшых калектываў свету, а далёкія ад дасканаласці творы сваіх кіраўнікоў. Калі ж вучыцца, дык на лепшых узорах!

З-за пагоні за максімальным выкарыстаннем гукаўзмацняльнай радыёэлектроннай апаратуры ў выкананні многіх ВІА адсутнічае ансамблевая зладжанасць, «кульгае» форма, выхоўваюцца няправільныя і заганныя ўяўленні пра гукавую культуру.

Хацелася б, каб адміністрацыя музычных школ дбала не толькі пра набыццё дарагой апаратуры, але таксама і наконт запрашэння высокакваліфікаваных спецыялістаў у якасці кансультантаў. Так, наяўнасць апаратуры — важны фактар у вырашэнні задачы, ды не галоўны. Сёння патрабуецца не стварэнне ВІА ў музшколах (як паказчыка работы ДМШ у эстрадным кірунку), а цэласная і прадуманая сістэма навучання дзяцей гэтаму жанру. Думаецца, што займацца з дзецьмі элементамі эстрады, разам з традыцыйнай праграмай ДМШ, трэба ўжо з першага класа. Узнікае заканамернае пытанне: чаму багаты вопыт у гэтым кірунку педагогаў Масквы, Растова, Вільнюса не робіцца набыткам іх беларускіх калег? Амаль не ўжываюцца ў практыцы нашых школ вядомыя ўжо і выдадзеныя метадычным кабінетам Міністэрства культуры РСФСР праграмы па ўсіх вучэбных спецыяльнасцях эстраднага профілю для ДМШ. Падобных жа, але сваіх, арыгінальных распрацовак мы пакуль прапанаваць не можам.

У нашай рэспубліцы на розных узроўнях спрачаліся наконт мэтазгоднасці навучання дзяцей пэўным элементам эстраднага жанру ў раннім узросце. Думаецца, што авалоданне дзецьмі ўсім багаццем сусветнай музычнай спадчыны павінна ісці паралельна з асваеннем культуры эстрады. Пераканальны аргумент у гэтым — дзіцячыя эстрадныя калектывы, якія набылі шырокую вядомасць.

Сёння падрыхтаваных у ДМШ абітурыентаў чакаюць эстрадныя аддзяленні музычных вучылішчаў. Так што пытанне сістэмы эстраднай адукацыі ў рэспубліцы неабходна вырашаць тэрмінова, бо музвучылішчы сутыкаюцца з сур'ёзнымі цяжкасцямі ў камплектаванні эстрадных аддзяленняў. Да таго ж, з-за адсутнасці эстрадных аддзяленняў у ДМШ моладзь не мае магчымасці з маленства пісьменна займацца прадметам свайго захаплення, вымушана шукаць вакольныя шляхі ў вывучэнні любімага жанру, нават ісці працаваць у музычныя каапертывы, з дзяцінства звяртацца па дапамогу да дзялкоў ад музыкі.

І ці не наша агульная бяда і віна, што дзеці, не атрымаўшы належнай адукацыі, захапляюцца сурагатамі мастацтва?

ВЯЛІКІМ ЗРУХАМ у справе эстраднай адукацыі ў рэспубліцы сталася стварэнне Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, у якім згуртаваліся многія вядучыя эстрадныя і джазавыя музыканты.

Натуральна, што наспела і патрэба ў адкрыцці эстраднай кафедры ў вышэйшым звяне музычнай адукацыі — у Белдзяржкансерваторыі імя А. В. Луначарскага. Патрэба ў кваліфікаваных кадрах эстрадна-джазавага профілю ў рэспубліцы відавочная: гэта і філарманічная сцэна, і педагагічная праца ў музвучылішчах, школах рэспублікі. Прадбачу пярэчанні, звязаныя з адсутнасцю памяшкання, матэрыяльнай базы, інструментарыя, выкладчыцкіх кадраў, цяжкасцямі размеркавання выпускнікоў...

Але ж калісьці пачынаць трэба!

**І. РАЙХЛІН,**
**выкладчык Мінскага музычнага вучылішча, член Цэнтральнага савета Савецкай джазавай федэрацыі.**

# А ЯК ПАШЫРЫЦЬ КОЛА СЛУХАЧОЎ?

Штогод у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага ладзяцца цікавыя, разнастайныя па жанрах канцэрты. Афішы запрашаюць на канцэрты класаў, кафедраў, аркестравых калектываў, на спектаклі опернай студыі.

Як сёлета прайшлі, напрыклад, справаздачныя канцэрты аркестравых калектываў БДК?

У праграме аркестра беларускіх народных інструментаў (кіраўнік М. Гапееў) прагучалі творы Д. Смольскага, А. Мдзівані, М. Чуркіна, А. Янчанкі, В. Малых, П. Чайкоўскага, А. Хачатурана, П. Сарасатэ, А. Лара. У канцэрце ўдзельнічалі салісты-цымбалісты В. Мішула і Н. Кавалеўская. Ігра аркестра вызначалася мяккасцю гуку, шырокім дынамічным дыяпазонам.

Цікавай і разнапланавай была праграма аркестра рускіх народных інструментаў (кіраўнік С. Кафанаў): музыка М. Мусаргскага, Б. Кікты, А. Цыганкова, В. Малых, салісты — Ю. Лікін (габой) і Ю. Валіцкі (домра). Аркестр паказаў высокую культуру гуку, шырокую тэмбральную палітру, ансамблевую суладнасць, значныя тэхнічныя магчымасці.

Сёлета абодва гэтыя калектывы ўдзельнічалі ў дзяржаўных экзаменах па дырыжыраванні. Старшыня Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі народны артыст Латвійскай ССР Г. Ардалоўскіс адзначыў высокі выканаўчы ўзровень калектываў БДК.

Парадавала наведвальнікаў залы кансерваторыі і выступленне баяннага аркестра (кіраўнік Л. Гінько). Яго поспеху спрыяла ўдала складзеная праграма і высокі выканаўчы ўзровень. У канцэрце прагучалі творы В. Залатарова, В. Грыдзіна, М. Кажлаева, Р. Шчадрына, В. Малых. Выявіліся высокая штрыхавая культура, віртуозная выканаўчая тэхніка музыкантаў.

Шкада толькі, што аркестры БДК з іх высокім прафесійным узроўнем, цікавымі праграмамі, яркімі салістамі зусім рэдка выступаюць перад шырокай аўдыторыяй. Як правіла, прычыны гэтага ў арганізацыйных праблемах.

Дык, можа, варта пайсці па шляху заключэння творчага дагавору паміж кансерваторыяй і прадпрыемствамі горада ці з пэўным раёнам Мінскай вобласці? Узаемная карысць ад такога супрацоўніцтва была б бясспрэчнаю. Гэта і стымулявала б рост прафесійнага ўзроўню маладых музыкантаў, надало б ім зацікаўленасці ў працы, і спрыяла б шырэйшаму распаўсюджванню народна-аркестравай музыкі, якая карыстаецца любоўю ў слухачоў.

**А. СЯЛОГНІК,**
**выкладчык БДК імя А. В. Луначарскага.**

# Купалаўцы ў Габраве

**Кажуць, што калі ў балгарскім горадзе Габраве пафарбавалі нядаўна будынак Драматычнага тэатра імя Рачы Стаянава, дык каля сцен, каб людзі не пэцкаліся, павесілі не звычайную аб'яву «Асцярожна, пафарбавана!», а зусім іншую — «Беражыце фарбу!» У тым, што гэта сапраўды так, вырашылі пераканацца артысты Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, прыняўшы запрашэнне паказаць ў Габраве спектакль «Мудрамер» М. Матукоўскага ў праграме традыцыйнага Фестывалю гумару і сатыры.**

**Такі міжнародны фестываль праводзіцца раз у два гады ў апошні тыдзень мая. Пачынаецца ён звычайна маляўнічым карнавальным шэсцем, у якім удзельнічаюць усе габраўцы і госці фестывалю. Сёлета ў час такога шэсця вызначаліся аўтарытэтным журы і лепшая маска (конкурс персанажаў габраўскага гумару), карціна, намаляваная пластыкай саміх удзельнікаў шэсця, лепшы аматарскі аркестр, жартоўны касцюм для сабакі, а таксама... калектыў, прадпрыемства якога найбольш жорстка крытыкавалася ў мінулым годзе.**

*З пошты аддзела тэатра*

# ЛЕПШ ПОЗНА, ЧЫМ НІКОЛІ

Убачыўшы ў адным з нумароў «ЛіМа» праект Праграмы развіцця тэатральнай культуры Беларусі, я вельмі ўзрадаваўся — не толькі за далейшы лёс народнага фальклорнага тэатра «Жалейка», якім кірую, але і за ўсю тэатральную справу. Не буду спыняцца на дэталях праекта, але скажу, што знамянальны сам факт з'яўлення такога дакумента. Яму б, праўда, узнікнуць трошкі раней — гадоў 10 назад, можа, не было б тады столькі хібаў у развіцці нашага тэатральнага мастацтва...

Займаючыся 15 гадоў прапагандай народнай тэатральнай культуры ў Гомелі, я востра адчуваю неабходнасць стварэння цэласнай сістэмы тэатральнага выхавання. Горад, які блізка да мяжы з Расіяй, Украінай, са сваім шматнацыянальным насельніцтвам, скажу шчыра, не вельмі ахвочы да ўспрымання беларускага тэатра. Нават да гастроляў купалаўскага тэатра, лепшага ў рэспубліцы, гамяльчане, на жаль, належнай цікавасці не праявілі: былі выпадкі, калі на спектаклях прысутнічала не

# ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ ЦІ ДЛЯ «ПТУШАЧКІ»?

Веру ў тэатр! У яго сілу прымушаць чалавека думаць, хвалявацца, суперажываць. Таму я, настаўнік славеснасці, тры гады назад арганізавала ў сярэдняй школе № 10 г. Маладзечна драматычную студыю «Ветразь».

Хочацца паспець зрабіць многае з маімі юнымі тэатраламі. Але для гэтага патрэбна дапамога, ва ўсякім разе, падтрымка. А што ж атрымліваецца на справе?

Мае выхаванцы ў сакавіку гэтага года сталі пераможцамі гарадскога конкурсу школьных драматычных калектываў. Аг-

У гэтыя дні невялікі балгарскі горад, пабрацім нашага Магілёва, жыве толькі гумарам, смехам, паўсюль — радасныя твары, зычлівыя ўсмешкі. Фестываль у Габраве — гэта і міжнародныя конкурсы камедыйных мастацкіх і мультыплікацыйных фільмаў, гэта дзіцячае свята «Радасць і смех», сустрэчы з пісьменнікамі-сатырыкамі і гумарыстамі, продаж кніг гумару і сатыры, выступленні эстрадных прафесійных і самадзейных груп, спектаклі габраўскага тэатра-вар'етэ, дыксіленд-парад аркестраў...

Важнай міжнароднай акцыяй, якая адбылася ў дні фестывалю, з'явілася стварэнне Міжнароднага таварыства «Гумар народаў» з адпаведным Фондам гумару народаў са штаб-кватэрай у Габраве.

Спектакль купалаўцаў «Мудрамер» быў паказаны на закрыцці фестывалю. З першых жа рэплік міністра ўзгадненняў Вяршылы (народны артыст БССР А. Мілаванаў) усталяваўся поўны кантакт з гледачом, які смяяўся на працягу ўсяго спектакля, а ў фінале сустрэў артыстаў літаральна авацыяй. Слова ў адказ на віншаванні гаспадароў сцэны сказаў аўтар п'есы, драматург М. Матукоўскі.

На наступны дзень купалаўцы былі гасцямі Сяўліеўскага завода электракабеляў — вядучага прадпрыемства Балгарыі ў сваёй галіне. Артысты пазнаёміліся з гісторыяй прадпрыемства, з узорамі прадукцыі, якая на ім вырабляецца. Адбылася цёплая сустрэча з рабочымі і служачымі завода. У той жа вечар спектакль «Мудрамер» быў паказаны ў новым Доме культуры для жыхароў горада Сяўліева, пабрацімa нашага Бабруйска.



На зямлі братняй Балгарыі.

А што тычыцца фарбы... Не такія ўжо і скупыя гэтыя габраўцы, як пра іх кажуць, бо шчодра дзеляцца з усімі самай дарагой і каштоўнейшай валютай, якой ніколі не пагражае дэвальвацыя,— усмешкамі, гумарам. «Свет ацалеў, бо смяяцца ўмеў» — на фестывалі ў Габраве яшчэ раз пераконваешся ў мудрасці гэтага выслоўя.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

---

больш за 50 чалавек. Пра тое ж сведчыць і мой уласны вопыт: маю на ўвазе тыя неверагодныя цяжкасці, з якімі прыходзіцца сутыкацца, агітуючы людзей для ўдзелу ў тэатры «Жалейка». Неаднойчы ў пошуках талентаў сутыкаўся з такім адказам: «Если бы в русский, может и пошел бы, а в белорусский...»

Такім адносінам да беларускага тэатральнага мастацтва ды і ўвогуле да нашай культуры не прыходзіцца здзіўляцца, бо па сённяшні дзень вісіць у паветры пытанне: а хто ж выхоўвае любоў да тэатра? Мне, напрыклад, упершыню давялося ўбачыць «жывы» тэатр толькі калі закончыў дзесяцігодку. Так, пры сустрэчы з ім вырашыўся мой лёс, але лічу, што гэта было позна.

Чаму б не пайсці шляхам школьнага тэатральнага выхавання і не звярнуцца да думкі, выказанай некалі К. Ушынскім наконт мастацтва харавога спеву: «Заспявае школа — заспявае народ», чаму б не перанесці яе на іншыя віды мастацтва?

Лічу, што мала арганізаваць спецыяльны клас з тэатральным ухілам у адной з сярэдніх школ абласнога цэнтра. Трэба спрыяць тэатральнай адукацыі ў кожнай школе, інакш стан тэатральнай культуры не палепшыцца. Безумоўна, падрыхтаваць кваліфікаваных кіраўнікоў драматычных калектываў для ўсіх школ у рэспубліцы немагчыма. А вось у стварэнні ў школах драматычных гурткоў дзейсную дапамогу здолеюць аказаць настаўнікі беларускай мовы і літаратуры. А каб іх матэрыяльна заахвоціць у гэтым, неабходна забяспечыць даплату за вядзенне гурткоў, а таксама арганізаваць для іх вучобу, семінары, сустрэчы з рэжысёрамі і акцёрамі... Дарэчы, студэнтаў філалагічных факультэтаў, будучых настаўнікаў, таксама пажадана было б арыентаваць на гэта. Можа, тады мы не будзем здзіўляцца, чаму ў нас не хапае здольных акцёраў і рэжысёраў-наватараў. Ды і прыёмныя камісіі тэатральна-мастацкага інстытута і інстытута культуры мелі б магчымасць выбару абітурыентаў, а не кіраваліся б прынцыпам «на бязрыб'і і рак рыба».

Хвалюе мяне і праблема стварэння ў рэспубліцы дзіцячых фальклорных тэатраў: калі харавыя і танцавальныя фальклорныя калектывы там-сям яшчэ дзейнічаюць, то тэатра такога не сустрэнеш... Здаецца вельмі слушнай думка аднаго з маіх настаўнікаў, прафесара А. Сабалеўскага, аб стварэнні ў тэатральным інстытуце курса, які б рыхтаваў акцёраў менавіта для фальклорнага тэатра, якія былі б універсаламі, валодалі сінтэтычным дарам традыцыйна - фальклорнага выканаўства, імправізацыі, без чаго фальклорны тэатр існаваць не можа.

Некалькі слоў пра справы нашай «Жалейкі». Калектыў фальклорнага тэатра выказаў жаданне насіць імя Уладзіслава Галубка. Творчасць гэтага славутага дзеяча нацыянальнага тэатра да 1937 года была непарыўна звязана з Гомелем. Пад яго кіраўніцтвам БДТ-ІІІ стаў яркай з'явай нацыянальнай культуры. Наш калектыў неаднаразова звяртаўся да п'ес Галубка і ў сваёй творчасці спавядае, як нам здаецца, менавіта галубкоўскія тэатральныя традыцыі.

Апошнім часам перад намі адкрыліся цікавыя перспектывы (у іх жыццёвасці пераконвае і праект тэатральнай праграмы). Так, і ў Міністэрстве культуры БССР, і ў Гомельскім аблвыканкоме прыхільна сустрэта наша прапанова аб будаўніцтве будынка фальклорнага тэатра «Жалейка». Мяркуецца, што ён будзе выглядаць як традыцыйны сялянскі падворак — з зімняй залай і летняй пляцоўкай, з прыбудовамі, паветкаю, лазняй, кузняй і карчмой. У тэатры таксама размесціцца музей матэрыяльнай культуры палешукоў.

Вельмі хочацца верыць, што цяпер, пры ўсеагульных намаганнях, тэатральныя ручаіны праб'юць заслону абыякавасці, ажывяць народ, яго цікавасць да беларускага тэатра.

**Мікола МАКАРЦОЎ,**
**рэжысёр народнага фальклорнага тэатра музычнай камедыі «Жалейка».**

г. Гомель.

---

ляд-конкурс прайшоў у нас у горадзе някепска. Удзельнікі засталіся задаволенымі: хлопчыкі і дзяўчынкі — лічу гэта галоўным — адчулі сваю далучанасць да высакароднай і вельмі цікавай справы. На карысць нам пайшлі і заўвагі, кампетэнтныя парады членаў журы.

Адразу ж пасля спектакля мы пачалі рыхтавацца да наступнага этапу конкурсу, занальнага, які меўся адбыцца ў Вілейцы. Хваляваліся: адказнасць якая! За некалькі дзён да спектакля я паехала ў Вілейку, каб пазнаёміцца са сцэнічнай пляцоўкай і, такім чынам, застрахаваць сябе і дзяцей ад розных нечаканасцей. Але пазбегнуць гэтых нечаканасцей — на жаль, вельмі непрыемных — нам не ўдалося.

Мы... спазніліся, хаця прыехалі на некалькі гадзін раней запланаванага часу. Высветлілася, што за два дні (і тыя былі выхаднымі) арганізатары агляду вырашылі перанесці час яго правядзення, бо павінны былі прыехаць артысты з Мінска, для якіх патрабавалася раней вызваліць залу. Але нас пра ўсё гэта не паспелі папярэдзіць...

І ўсё ж мы выступілі. Наш спектакль-казка складаецца з дзвюх дзей, пралога і эпілога. Аднак пачалі мы без пралогу, бо прадстаўнік гарана, які суправаджаў нас на конкурс, перадаў жорсткае патрабаванне: «20 хвілін на ўвесь спектакль».

Праз 15 хвілін з'явіўся ганец ад журы: а раптам мы забылі? У той жа час я ўбачыла, як у залу пусцілі дзяцей-гледачоў, якія прыйшлі на канцэрт артыстаў з ДАВТа БССР. Мы нічога не маем супраць оперы і балета. Мы і ўвогуле згодны былі б не выходзіць на вялікую сцэну вілейскага Палаца культуры, калі б ведалі, што ў гэтым жа будынку, праз сцяну, ёсць іншая зала, меншая, але свабодная. Мы згодны былі на ўсё, трэба было толькі дарослым людзям з журы і работнікам Палаца культуры паберагчы нервы юных артыстаў і — галоўнае — пачуццё іх уласнай годнасці.

У размове з некаторымі членамі журы я выказала незадавальненне тым, што адбылося.

— Нічога, на абласным конкурсе пакажаце сябе як належыць, ваша работа пакінула добрыя ўражанні...

Вынікаў агляду ў Вілейцы чакалі доўга — тры дні. Нарэшце, па тэлефоне нам зачыталі вытрымку з загада па аблана: граматы — кіраўніку студыі, выканаўцы галоўнай ролі, а таксама трэцяе месца... у абласным конкурсе, у якім мы не ўдзельнічалі...

Я ведаю, чаму так здарылася: відавочна, справа ў сродках, з якімі ў нас у народнай адукацыі, заўсёды праблема. Але як гэта растлумачыць дзецям?

**Т. БАБЕЙ.**

---

# НЕЧАРГОВЫ, НАДЗВЫЧАЙНЫ І... ЗАЎЧАСНЫ?

**Пасля з'езда Саюза кінематаграфістаў БССР**

ДУМКА аб скліканні нечарговага з'езда неаднаразова ўзнікала ў кінематаграфічным асяроддзі яшчэ з верасня мінулага года, калі са складу сакратарыята праўлення СК БССР выйшлі 6 сакратароў. Нарэшце, 24 лютага на пленуме праўлення рэвізійная камісія Саюза кінематаграфістаў патрабавала (унікальны, дарэчы, выпадак) тэрміновага склікання надзвычайнага з'езда па пытаннях «унутрысаюзнага жыцця».

Ужо на пленуме, які адбыўся за дзень да з'езда, стала зразумела, што адзінства ў вырашэнні пытанняў не будзе. Некаторыя ўвогуле выступілі супраць з'езда. Няцяжка здагадацца, чаму. Па-першае, не надзвычайнага з'езда патрэбна была і надзвычай карпатлівая падрыхтоўка.

Такія важныя пытанні, як базавая мадэль кінематографа, пераход на гасразлік, пошук сапраўдных прычын складанага становішча ў СК БССР, адышлі на другі план. На першы выступіла тое, чаго апасаліся многія, — амбіцыі. Зноў і зноў — хто з большым, хто з меншым тактам, — кінематаграфісты папракалі адзін аднаго ў несумленнасці, у адсутнасці жадання працаваць на карысць роднага кінематографа... Праўда, канструктыўныя прапановы таксама прагучалі. Гэта прапанова Т. Логінавай (ад імя РК)— для паляпшэння работы прэзідыума і праўлення былі канкрэтызаваны прычыны такой тэрміновасці (старшыня рэвізійнай камісіі Т. Логінава запэўнівала ўдзельнікаў пленума, што ў разгорнутай форме яны пачуюць гэта на з'ездзе). Па-другое, члены СК доўга не маглі вырашыць, што мець на ўвазе пад другім пунктам парадку дня — «арганізацыйныя пытанні». Выказваліся думкі, што калі гутарка тычыцца рэарганізацыі сакратарыята, то гэтае пытанне трэба вынесці па-за межы з'езда, бо за адзін дзень прыйсці да выніку немагчыма. Трэцяя прычына суб'ектыўная, але яна адыграла немалаважную ролю ў тым, што з залы Дома кінематаграфістаў час ад часу знікала вялікая колькасць дэлегатаў: па тэлебачанні трансліраваўся З'езд народных дэпутатаў СССР.

Зразумела, што ўскладваць на форум кінематаграфістаў вялікія спадзяванні ў такой сітуацыі практычна не было падстаў. Верагодна, гэтым і тлумачыцца той факт, што з 240 членаў СК да пачатку пасяджэння было зарэгістравана толькі 150 (але і гэта многія лічаць прагрэсам), а пад канец засталося і таго менш. Тым не менш, з'езд было вырашана праводзіць.

Дванаццаць гадзін ішла гутарка аб «творчай і арганізацыйна-эканамічнай перабудове беларускага кінематографа» (так быў сфармуляваны парадак дня). Але канструктыўнай гаворкі не атрымалася. Мабыць, адной з прычын гэтага стаў недасканалы даклад Т. Логінавай: замест аналізу становішча, што склалася ў кіраўніцтве СК, былі прадстаўлены толькі лічбы — хто колькі пасяджэнняў наведаў — і агульныя фармуліроўкі. Відаць, да выкарыстаць прынцып ратацыі і кааптацыі іх членаў з тым, каб стварыць дзейсныя, рухомыя органы кіравання (гэта, па сутнасці, павінна было стаць адным з галоўных пунктаў абмеркавання на з'ездзе). Слушная і прапанова аператара А. Канеўскага — паставіць пытанне аб некалькіх Указах урада апошняга часу: каб аператарам не забаранялі працаваць на мітынгах («Мы пішам летапіс свайго часу»), не апячатвалі ў пэўныя дні кабінеты з тэхнікай. Рэжысёр І. Дабралюбаў прапанаваў вынесці ў бліжэйшы час на абмеркаванне кінематаграфічнай грамадскасці праблемы развіцця нацыянальнага кіно; звярнуцца да ўрада з просьбай выдзеліць дадатковыя сродкі на выпуск двухмоўных карцін. У асноўным жа выступленні тычыліся канфлікту паміж СК і студыяй, фільма А. Рудэрмана «Тэатр часоў перабудовы і галоснасці».

Свае меркаванні па гэтых праблемах выказалі таксама міністр культуры БССР Я. Вайтовіч, сакратар праўлення СК СССР В. Дзёмін і старшыня цэнтральнай рэвізійнай камісіі СК СССР А. Сіманаў.

...Даклад, 4 садаклады, каля 30 выступленняў у спрэчках не прывялі да якога-небудзь пэўнага выніку. Большасць дэлегатаў прагаласавала супраць пераносу з'езда на наступны дзень, але ў канцы пасяджэння не было кворуму, патрэбнага для выбараў у кіруючыя органы і прыняцця рашэнняў.

Такім чынам, з'езд — нечарговы, надзвычайны — застаўся «адкрытым». Пытанне аб працягу форуму кінематаграфістаў вырашаецца.

**М. КРАПАК.**

**Р. S. Калі нумар быў ужо ў наборы, у Доме кінематаграфістаў пачаўся, так бы мовіць, другі этап нечарговага з'езда СК БССР, на якім меркавалася расставіць усе кропкі над «і». Але дасягнуць гэтай мэты пакуль што так і не ўдалося.**

**На гэты раз прысутнічала 128 членаў Саюза кінематаграфістаў, што давала падставы для прыняцця рэзалюцыі з'езда (але, безумоўна, не для вырашэння арганізацыйных пытанняў, у тым ліку перавыбараў праўлення). Аднак прайшло нямала часу, пакуль прысутныя змаглі прыступіць да абмеркавання праекта рэзалюцыі, бо дэлегаты пачалі працоўны дзень з дэбатаў... аб мэтазгоднасці з'езда, яго правамоцнасці, нягледзячы на тое, што гэтыя пытанні неаднаразова мусіраваліся яшчэ 31 мая і раней.**

**Калі пісаўся гэты пастскрыптум, да вынікаў абмеркавання было далёка. Таму адлюстраваць іх цяпер немагчыма (мы зробім гэта ў адным з бліжэйшых нумароў). Але хочацца адзначыць, што дух узаеманепаразумення, які ўладарыў на форуме ў канцы мая, не знік і 14 чэрвеня.**

**М. К.**

*Чытаючы часопісы*

# НАЦЫЯ, КУЛЬТУРА, МОВА

Цяжка знайсці сёння газету ці часопіс, на старонках якіх не закраналіся б пытанні, якія тычацца лёсу беларускай мовы, будучыні нацыі. Праўда, на жаль, сярод аналагічных публікацый ёсць і такія, у якіх даюць яшчэ аб сабе знаць і рэцыдывы нядаўняга мінулага, калі спроба адрадзіць нацыянальнае сустракаецца ледзь не ў штыкі, само ж паняцце нацыянальны ўспрымаецца ледзь не супрацьлегласцю інтэрнацыянальнаму. Аднак у пераважнай большасці матэрыялаў — шчырая заклапочанасць, як і што зрабіць, каб жыла і беларуская мова.

Тым больш радасна, што да гэтай гаворкі падключаюцца і рускамоўныя выданні. І не толькі вядуць яе, але і прымаюць канкрэтныя захады. Скажам, нядаўна з'явілася беларуская старонка ў брэсцкай абласной газеце «Заря». Падобную старонку выпускае «Вечерний Минск», ёсць яна і ў некаторых шматтыражных газетах, якія — што сапраўды прыкра — амаль усе выходзяць на рускай мове.

Мэтанакіраваную пазіцыю займае і рэдакцыя часопіса «Нёман». Маецца на ўвазе не публікацыя ў перакладзе лепшых твораў беларускіх пісьменнікаў — гэта робіцца даўно. І нават не тое, што рэгулярна рэцэнзуюцца лепшыя кнігі не толькі ў перакладах, але і на роднай мове, а каляровыя рэпрадукцыі, якія далі магчымасць чытачам ва ўсіх кутках краіны даведацца, як плённа развіваецца беларускае мастацтва.

Справа ў тым, што часопіс паслядоўна разглядае розныя аспекты міжнацыянальных адносін у святле перабудовы, гаворыць аб дасягненнях беларускай літаратуры ў кантэксце літаратуры савецкай і сусветнай. Размова гэтая, якая з нумара ў нумар высвечвалася рознымі аспектамі і гранямі, у пятай кніжцы «Нёмана» набыла свайго роду кульмінацыю. Рубрыка «Нацыя, культура, мова» аб'яднала ў сабе матэрыялы анкеты, падрыхтаваныя А. Сямёнавай. Не столькі аб дасягненнях у развіцці беларускай літаратуры, нацыянальнай культуры (яны агульнапрызнаныя і іх ніхто адмаўляць не збіраецца) ідзе гаворка, колькі аб нявырашаных пакуль што пытаннях, аб балявых момантах у нацыянальнай палітыцы на сучасным этапе.

Прызнаемся, такога — каб з болем, ды на людзі — раней не было. Ідучы ў госці (кожны ж нумар «Нёмана» і з'яўляецца своеасаблівым беларускім госцем у чытачоў іншых саюзных рэспублік), імкнуліся лепей «прыбрацца», падумаўшы, што можна гаварыць, а пра што лепей і памаўчаць. Цяпер жа — прама, адкрыта, бескампрамісна і пра боль наш, і пра трывогі. Ды як жа інакш, калі і боль гэты і трывогі не толькі мясцовага, а ўсесаюзнага значэння, бо літаральна ва ўсіх рэспубліках — і саюзных, і аўтаномных, а што ўжо казаць пра «малыя» народы (вызначэнне якое абразліва некім прыдумана) — гэткія ж самыя беды. Нівеліруецца паняцце нацыянальнага, дзеці забываюць мову бацькоў, а многія, асабліва тыя, хто нарадзіўся параўнальна нядаўна, так і не ведаюць яе, нараджаецца свайго роду псеўдакультура на нацыянальна-інтэрнацыянальнай мешаніне...

Ды ўсё ж боль уласнага народа ў дадзеным выпадку куды больш востры... І яго трэба зразумець іншым народам, каб не дайсці да таго, да чаго дайшлі беларусы. Выбірацца з бяды трэба разам, агульнай сям'ёй. Думаецца, нават сам загаловак матэрыялаў — «І зноў аб роўнасці роўных» — гучыць і крыху іранічна. Якія ж мы роўныя, калі да такога становішча дайшлі!

Пытанні ж анкеты давалі шырокую прастору выказацца кожнаму ды і ахаплівалі яны шырокае кола праблем. Каб не пералічваць іх, назавём толькі асноўныя пункты.

Суаднясенне памяці гістарычнай (сацыяльнай, маральнай) з нацыянальнай асновай. Адносіны да двухмоўнасці ў рэспубліцы. *Уплыў дзяржаўна-адміністрацыйнага апарату на стан беларускай культуры, у тым ліку на прэстыж і распаўсюджванне роднай мовы.* Месца нацыянальнага ва ўзаемаадносінах агульначалавечага і класавага...

Як відаць з адказаў, анкета была прапанавана адзінаццаці чалавекам. Сярод іх тыя, з чыёй думкай па нацыянальным, а, значыць, і па інтэрнацыянальным пытанні лімаўскі чытач у многім знаёмы — Уладзімір Калеснік, Уладзімір Конан, Алесь Разанаў, гісторык Аляксей Каўко, старшыня моўнай камісіі Беларускага фонду культуры Пётра Садоўскі... Адказалі на анкету і людзі іншых прафесій, на першы погляд, здавалася б, далёкіх ад літаратуры... Немалаважна, што на згаданыя праблемы ўзяты і погляд, так сказаць, «збоку» — цікавыя адказы вядомага эстонскага празаіка і драматурга Юры Тууліка.

І без традыцыйнай рэдакцыйнай агаворкі: «мабыць, не ўсё выказанае ў адказах на анкету бясспрэчна: сфера міжнацыянальных адносін складаная і шматгранная» — бачна, што ў кожнага сваё меркаванне. Што аб'ядноўвае адказы, дык зноў і зноў прызнанне катастрафічнасці становішча: трэба ратаваць беларускую мову, а значыць — літаратуру, культуру, нацыю. Прызнанне пры аднчасовым усведамленні, што ў апошні час ужо нямала зроблена. Зрабіць жа трэба куды больш.

Ды і як не прыслухацца, напрыклад, да голасу У. Калесніка, калі ён гаворыць: «Сацыялізм дае шанц усім нацыям дасягнуць поўнай роўнасці ў духоўным развіцці і лічыць *адзін аднаго не меншымі і не* **старэйшымі** братамі, а **роўнымі** (вылучана У. Калеснікам) і раўнапраўнымі партнёрамі па жыццю на зямлі. *На жаль,* гэты гістарычны шанц, як сведчыць гаротны вопыт Беларусі, можа быць упушчаны, страчаны, калі грамадскае жыццё, лёс грамадства трапяць ў рукі карыслівай, абмежаванай і безадказнай бюракратыі». Далей: «У цяперашні час у БССР існуе памылковае двухмоўе: беларусы практычна ўсе ведаюць блізкароднасную рускую мову, а рускамоўныя мяншынствы, як правіла, не адказваюць карэннай нацыі ўзаемнасцю».

Рацыянальнае выйсце і ў словах У. Конана: «Задача, перш за ўсё «дзяржаўна-адміністрацыйнага апарату», сёння заключаецца ў тым, каб вярнуцца да ленінскай нацыянальнай палітыкі. Для пачатку важна, каб веданне беларускай мовы стала адным з крытэрыяў прафесіянальнай прыгоднасці для ўсіх, хто працуе ў БССР у сферы кіравання, народнай адукацыі, навукі і культуры».

Выйсце ў тым, каб замацаваць за беларускай мовай статус мовы дзяржаўнай. «Думаю, — зазначае закранаючы гэты аспект праблемы А. Каўко, — паспрыяў бы справе і спецыяльны закон аб ахове нацыянальнай мовы беларусаў ад усякага роду свавольстваў і перш за ўсё з боку найбольш рашучых, надзеленых уладай «абруселых іншародцаў».

«Калі беларуская мова стане мовай улады і адукацыі, — гаворыць выкладчык СШ № 15 г. Мінска Віктар Аслюк, — мовай беларускай дзяржавы, у яе з'явіцца шанц выжыць... Беларуская мова мае права на абарону з боку дзяржавы... Трэба пайсці на самыя радыкальныя меры, не шкадуючы сродкаў, каб выратаваць яшчэ адну прыгажосць, яшчэ адну мелодыю, каб не збяднець на цэлую культуру».

Паслухаем Юры Тууліка: «Элементарна, на мой погляд, тое, што на сваёй радзіме чалавек можа карыстацца багаццем нацыянальнай культуры пры дапамозе роднай мовы, што чалавек на сваёй радзіме можа **жыць роднай мовай**. (Выдзелена Юры Туулікам). На жаль, канстытуцыямі рэспублік не ўсюды вызначаны статус роднай мовы. Мове патрэбна *абарона закона*. Эстонія і Латвія гэта канкрэтна ажыццявілі».

Думкі слушныя, да іх нельга не прыслухоўвацца. Народ павінен загаварыць на роднай мове. Больш трываць становішча, якое склалася, проста нельга. У гэтым пераконваюць і матэрыялы рубрыкі «З пошты часопіса», якая на гэты раз таксама тэматычная — «Ці загавораць нашы дзеці па-беларуску?» Эканаміст, навуковы супрацоўнік, тэхнік, рабочы, разважаючы аб тым добрым, што ўжо зроблена ў садзіках, школах у навучанні роднай мове, трывожацца: робіцца далёка не ўсё, нават з таго, што ўжо можна зрабіць сёння, не адкладваючы на заўтра.

*Паслухаем яшчэ раз нашага* сябра з Эстоніі Ю. Тууліка: «Праблема складанейшая. Няма і не можа быць гатовых рэцэптаў. Ёсць ленінскія пастулаты, але ёсць канкрэтныя сітуацыі, дзе цытатамі і парадамі генія не направіш справу. Вельмі многае залежыць ад агульнага культурнага фону і ад ступені дэмакратызацыі грамадства. Чым больш дэмакраты, тым больш цярпення і павагі *адзін да аднаго*».

У згаданых матэрыялах «Нёмана» ёсць і павага да думак іншых, і ўменне прыслухацца да голасу таго, з кім не пагаджаешся, і запрашэнне да дзеяння. Актыўнага, мэтанакіраванага. У імя нашай будучыні.

**Наш аглядальнік.**

# КНІГА ЗА КОШТ АЎТАРА

**Сёлета ў выдавецтве «Універсітэцкае» выходзіць кніга Леаніда Зубарава «Максім Багдановіч». Гэта гісторыка-дакументальная аповесць пра выдатнага беларускага песняра, яго сям'ю, сяброўскія і сваяцкія сувязі Багдановічаў з А. М. Горкім. У сваёй працы аўтар выкарыстаў даследаванні беларускіх навукоўцаў (асабліва карыснымі для яго былі, па яго словах, працы А. Лойкі, Н. Ватацы, сустрэчы і размовы з Зоськаю Верас). Многа часу прысвяціў Л. Зубараў і працы ў архівах. У прыватнасці, у архіве М. Горкага, Пушкінскім доме, у аддзелах рэдкіх кніг і рукапісаў АН БССР і АН ЛітССР. Кніга цікавая яшчэ і тым, што гэта першае ў рэспубліцы выданне, ажыццёўленае за кошт аўтара.**

**— Леанід, скажыце, калі ласка, што прымусіла вас выбраць менавіта гэты шлях для выдання твора?**

— Недзе каля пяці гадоў я працаваў над матэрыяламі. Калі скончыў працу, аказалася, што надрукаваць яе няпроста. У выдавецтве «Юнацтва» мне адмовілі адразу, спаслаўшыся, што кніга пра Багдановіча не па іх профілю. У іншых выдавецтвах трэба было чакаць на выхад кнігі ў лепшым выпадку 4-5 гадоў. Таму іншага шляху ў мяне проста не было.

**— А колькі часу заняло выданне за ўласны кошт?**

— Летась 1 снежня я падпісаў дагавор, а сёлета 1 чэрвеня кніжка была ўжо надрукавана.

**— Ці былі якія-небудзь цяжкасці і неўразуменні на шляху пераўтварэння рукапісу ў кнігу?**

— Самае цяжкае знайсці выдаўца і зацікавіць яго. Вялікае дзякуй У. К. Касько, дырэктару выдавецтва «Універсітэцкае», які пайшоў насустрач, хоць кніга мая і сапраўды была не па іх профілю. Хочацца падзякаваць старшыні Дзяржкамвыда М. І. Дзяльцу, які дапамог з набыццём паперы, бо і тут узніклі вялікія цяжкасці. Увогуле, мушу адзначыць, што і выдавецтва і паліграфічны камбінат паставіліся да мяне прыязна і ў меру мажлівасцей імкнуліся мне дапамагчы. Цяжэй аказалася з кнігагандлем. Адміністрацыя цэнтральнай кнігарні № 29 адмовілася са мной нават гаварыць, калі даведалася, што кніжка на беларускай мове.

**— А зараз—досыць датклівае пытанне: у якую суму абышлася вам кніга?**

— Папярэдняя калькуляцыя, якую зрабіла мне выдавецтва за 3 тысячы экземпляраў, была недзе каля 10 тысяч рублёў. У выніку я вымушаны быў адмовіцца ад паслуг рэдактара і карэктара. Зараз тыраж у 5 тысяч экземпляраў будзе мне каштаваць недзе каля 7,5 тысяч. Канешне, гэта вельмі дорага, бо, апрача таго, трэба было яшчэ плаціць за мастацкае афармленне, фотаздымкі і г. д.

**— Ці спадзяецеся вы на прыбытак?**

— Гэта цалкам залежыць ад чытачоў. Цану выдання вызначае аўтар. Але тут таксама свае праблемы: зробіш кніжку дарагой — ніхто не купіць, таннай — выданне не акупіцца. Я вызначыў цану ў суме трох рублёў. Калі кніжка не будзе раскупляцца, яе кошт можна знізіць. А павышаць цану пасля выхаду кнігі, нават калі на яе ёсць попыт, нельга.

**— Якім чынам вы збіраецеся распаўсюджваць кнігу?**

— Я яшчэ канчаткова не вырашыў, але, мабыць, усё ж буду звяртацца да паслуг кнігагандлю — дзеля таго, каб кніжка трапіла ва ўсе куткі нашай рэспублікі. Аднак тут таксама ёсць свае праблемы: звычайна кнігагандаль бярэ 25 працэнтаў прыбытку. У маёй сітуацыі гэта нямала. Таму альбо трэба дамаўляцца, каб бралі меншы працэнт, альбо распаўсюджваць самому.

**— Як бачна, выданне за аўтарскі кошт — справа досыць складаная. Але ходзяць чуткі, што частку выдаткаў можа ўзяць на сябе якое-небудзь прадпрыемства ці арганізацыя або спонсар. Вы не спрабавалі пайсці гэтым шляхам?**

— Так, паводле палажэння Дзяржкамвыда аўтар мае такое права. Я звяртаўся ў некаторыя ўстановы, непасрэдна звязаныя з культурай, аднак мне адмовілі. Звяртацца ж з просьбай аб спонсарстве на заводы, калгасы, у грамадскія арганізацыі ў нашай сітуацыі, пры такой распаўсюджанай абыякавасці да роднай культуры, я проста не асмеліўся.

**— Што вы пажадалі б, зыходзячы з уласнага вопыту, тым, хто наважыцца выдаць кнігу ўласным коштам?**

— Я ведаю, што ў нашыя рэспубліканскія выдавецтвы звярталася некалькі чалавек з просьбай выдаць кніжкі за ўласны кошт, але практычна ўсе яны адмовіліся, калі пабачылі, як няпроста гэта зрабіць. Аднак, хоць клопатаў і вельмі багата, я жадаю аўтарам не палохацца. І ахвотна падзялюся сваім вопытам з тымі, каго ён зацікавіць.

# ШТО ПАКАЗАЎ З'ЕЗД

**(Пачатак на стар. 2).**

праграмай, якая ўключала ў сябе як аналіз тых механізмаў — эканамічных, палітычных, ідэалагічных, што тармозяць перабудову, так і канструктыўныя прапановы, накіраваныя на стварэнне ўмоў для нармальнага функцыяніравання грамадскага арганізму ў адпаведнасці з яго ўласнымі, іманентнымі законамі. З гэтай праграмай можна было спрачацца, можна было не пагаджацца. Але адкідваць яе з парогу, як гэта фактычна зрабіў З'езд, уключыўшы «машыну для галасавання», дальбог жа, не варта было. Я не прыхільнік апазіцыі дзеля апазіцыі. Але як матэрыяліст-дыялектык добра ведаю, што любое развіццё ідзе не інакш, як праз супярэчнасці і вырашэнне супярэчнасцей і што марксізм ніколі не разглядаў агульнапрызнанасць у якасці крытэрыю ісціны. І наогул прынцып механічнай большасці — гэта, на мой погляд, нешта накшталт экстэнсіўнага прынцыпу ў эканоміцы. У яго заганнасці як прынцыпу гаспадарання зараз, здаецца, ужо нікога, акрамя Дзяржплана, пераконваць не трэба. Думаю, няблага было б унесці пэўныя папраўкі і ў наша разуменне яго як прынцыпу палітыкі. Правы меншасці, ва ўсялякім разе, павінны быць гарантаваны, калі ўсур'ёз наважыліся гаварыць аб дэмакратыі і прававой дзяржаве.

Чытачы, пэўна, звярнулі ўвагу і на тое, што на З'ездзе панавала досыць своеасаблівая псіхалогія, якую я назваў бы размеркавальнай. Адзін за адным выходзілі на трыбуну дэпутаты і патрабавалі: трэба павялічыць асігнаванні на сацыяльныя патрэбы, на экалагічныя праграмы, на культуру, народную асвету і г. д. Трэба, трэба, трэба — гэта як рэфрэн гучала на З'ездзе. Вядома, трэба, хто аспрэчвае? Але ж мала хто пры гэтым задумваўся: адкуль узяць гэтыя сродкі? Гавораць, трэба скараціць расходы на абарону, перастаць фінансаваць непамерныя ведамасныя апетыты, адмовіцца ад «будоўляў веку», перагледзець нашы міжнародныя абавязацельствы па аказанні дапамогі. Усё гэта так, усё гэта зрабіць трэба і зрабіць трэба неадкладна. Аднак не трэба быць Адамам Смітам, каб прыкінуць: сродкаў, якія нам удасца ў выніку гэтых акцый вызваліць, наўрад ці хопіць, каб заткнуць нават чвэртку тых дзірак, пра якія гаварылася на З'ездзе.

Дзе ж выйсце? Выйсце, верагодна, у тым, каб у выніку перабудовы дэмантаваць канчаткова тыя вузлы ў палітыцы, эканоміцы, ідэалогіі, якія тармозяць развіццё грамадства, стварыць такія палітычныя структуры і такія гаспадарчыя механізмы, якія б забяспечылі рэальнае выйсце краіны з крызісу. Інакш кажучы, З'езду трэба было вырашыць задачу, якая была пастаўлена яшчэ Кастрычніцкай рэвалюцыяй і якая дагэтуль у поўным аб'ёме не вырашана: перадаць уладу Саветам, заводы і фабрыкі — рабочым, зямлю — сялянам. У кантэксце гэтай асноўнай задачы З'езда мне і хацелася б разгледзець платформы тых асноўных дзвюх плыней, пра якія ідзе гаворка.

Тая частка дэпутатаў, якая так ці інакш кансалідавалася з «маскоўскай групай», асноўную прычыну марудных тэмпаў перабудовы бачыла ў нерашучасці палітычнага кіраўніцтва, палавінчатасць прымаемых рашэнняў, нежаданні пайсці на радыкальныя зломы адміністрацыйна-каманднай сістэмы, якая, хоць і пацяснёна, але па-ранейшаму спраўляе баль і ў палітыцы, і ў эканоміцы, і ў культуры. Яе жывучасць, здольнасць мадыфікуючыся, зберагаць, аднак, сваё існаванне — галоўнае, што блакіруе і Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве, і Закон аб кааперацыі. Шматлікія факты, прыведзеныя дэпутатамі ў сваіх выступленнях, нарэшце, уласны жыццёвы вопыт кожнага, мяркую, наўрад ці могуць спарадзіць сумненні ў правільнасці гэтага дыягназу.

Але тут я вымушаны ўнесці яснасць. Гаворка зусім не ідзе пра агульную крытыку апарату як такога. Ніводнае грамадства, ніякія грамадскія структуры не ў стане нармальна функцыяніраваць і развівацца без зладжанай сістэмы кіравання. Спрабаваць усур'ёз даказваць гэтую банальную ісціну — значыць, мець надта ж ужо невысокую думку аб інтэлектуальных рэсурсах сваіх апанентаў. Пра іншае гаворка. Па-першае, пра якасны склад апарату, — асабліва вышэйшых яго звёнаў, — які ў значнай меры сфарміраваўся яшчэ ў час застою і працягвае захоўваць ключавыя пазіцыі, ірадыіруючы па гарызанталі і вертыкалі. Прыкладаў некампетэнтнасці, нізкай прафесійнай (і не толькі прафесійнай) культуры апарату кіравання на З'ездзе прыводзілася больш чым дастаткова. Але справа нават не ў гэтым. Справа ў змене саміх функцый апарату, такой змене, якая, з аднаго боку, паставіла б яго ў залежнасць і пад кантроль народа, з другога — выключыла б магчымасць (а з рэцыдывамі гэтай хваробы мы, на жаль, сутыкнуліся нават на З'ездзе) яго самаўзнаўлення. Карацей кажучы, гаворка ідзе не пра адмову ад апарату, а пра злом апаратнай сістэмы кіравання.

Адміністрацыйна- каманднaя сістэма фарміравалася і складвалася не «знізу», не ў адпаведнасці з аб'ектыўнымі законамі і патрэбамі грамадскага развіцця, а была навязана грамадству валявым чынам «зверху». Зразумела таму, што сама па сабе, натуральнай, так сказаць, смерцю яна не памрэ. Яе гэтак жа дэкрэтыўна неабходна зламаць, як дэкрэтыўна яна была ўведзена. Адзінай рэальнай палітычнай сілай, якая ў стане гэта зрабіць, з'яўляецца партыя. Таму ў вышэйшай ступені неразважліва і недальнабачна паводзілі сябе тыя дэпутаты, якія прапанавалі М. С. Гарбачову скласці з сябе паўнамоцтва Генеральнага сакратара ЦК КПСС.

Аднак калі мы, камуністы, хочам глядзець праўдзе ў вочы, нам трэба не паддавацца містычнаму страху з выпадку крытыкі таго ці іншага партыйнага функцыянера, якое б высокае месца ў партыйнай іерархіі ён ні займаў (і такая крытыка гучала на З'ездзе), не клікушнічаць, што нехта спрабуе забіць клін паміж партыяй і народам, а, па-першае, прызнаць той факт, што крэдыт партыі ў вачах народа за апошні час знізіўся, па-другое, паспрабаваць зразумець, чаму гэта адбылося. А зразумець гэта зусім не цяжка, і адказ на гэтае пытанне быў дадзены на З'ездзе некаторымі дэпутатамі-камуністамі, у тым ліку М. С. Гарбачовым: перабудова ў партыі істотна адстае ад перабудовы ў грамадстве.

Зрэшты, панізіўся не столькі прэстыж партыі, колькі прэстыж партыйнага апарату, у якім, дарэчы сказаць, сам партыйны апарат у масе сваёй зусім не вінаваты. Вінаваты не партыйны апарат, а апаратны стыль партыйнай работы, які дазваляе нават на выбарных партыйных пасадах трымаць людзей, што не карыстаюцца аўтарытэтам ні ў народзе, ні ў самой партыі. Перабудова ў партыі неабходна. І ісці яна павінна, апярэджваючы грамадскія працэсы, якія сама ж партыя да жыцця і выклікала. Падзеі апошняга года паказалі: не абнавіўшы партыю, мы не зможам абнавіць грамадства, не зможам рашыць задачы перабудовы. У гэтай сувязі мне зусім не здаецца ерэтычнай прапанова Ельцына склікаць чарговы з'езд партыі, не чакаючы 1991 года.

Што тычыцца другой плыні, дык гранічна дакладную палітычную ацэнку яе даў, мне думаецца, дэпутат з Латвіі Брэсіс, кваліфікаваўшы яе як артадаксальна-ахоўную. Патаемнае яе жаданне — ажыццявіць перабудову, нічога па сутнасці не перабудоўваючы, абмежавацца касметычным рамонтам і афарбоўкай фасаду ўсё той жа адміністрацыйна - бюракратычнай сістэмы. Менавіта адсюль зыходзілі на З'ездзе заклікі аберагаць аўтарытэт партыі, які заклікаючыя па традыцыі атаясамлялі са сваім уласным аўтарытэтам, шанаваць інтарэсы сацыялізму, якія яны па той жа традыцыі атаясамлялі са сваімі ўласнымі інтарэсамі. Аберагаць і шанаваць, канечне ж, усё тымі ж добра апрабіраванымі адміністрацыйнымі мерамі, гэта значыць, прыціснуць «дэмагогаў» і «крыкуноў», асабліва ж сродкі масавай інфармацыі — маўляў, зусім ад рук адбіліся. Менавіта адсюль чуліся галасы, што ледзь ці не ўсе беды перабудовы — у падзенні дысцыпліны, нежаданні людзей працаваць, у рвацкай псіхалогіі ўсялякай масці кааператараў і арандатараў, якія сваімі непамернымі прыбыткамі разбэшчваюць здаровыя сілы грамадства. Адсюль зыходзіла «заглушванне» біццём у ладкі дэпутатаў, якія асмельваліся мець сваю ўласную думку. У выступленнях гэтай часткі ўдзельнікаў З'езда справядліва звярталася ўвага на многія хваробы, што падточваюць наш грамадскі арганізм. Але ці то па неразуменні, ці то, наадварот, з добра прадуманай мэтаю аратары мянялі месцамі прычыну і вынік. Уцякаюць з дзяржаўных прадпрыемстваў найбольш кваліфікаваныя спецыялісты — вінаваты кааператары (Сталіна б на іх, Сталін ведаў, што ў такім разе рабіць), растуць прыбыткі арандатараў — вінаваты Мінфін, які не сочыць як след за захаваннем прынцыпу «сацыяльнай справядлівасці», дапякаюць нефармальныя аб'яднанні — друк і пісьменнікі вінаваты, распальваюць страсці сваімі непрадуманымі публікацыямі, збіваюць з тропу нявопытную моладзь. Адным словам — усё тыя ж песні, якія чуем мы зрэдзь часу і ў нашай рэспубліцы. Трэба шчыра сказаць, што такія настроі не атрымалі падтрымкі вышэйшага палітычнага кіраўніцтва краіны.

Публіцыстычны эскіз работы З'езда не ў стане, канечне, замяніць глыбокага навуковага аналізу яго вынікаў. Тым больш, што выніковы дакумент яшчэ не апублікаваны. Аднак ужо сёння можна з усёй пэўнасцю сказаць: пры ўсіх арганізацыйных непаладках, відочна апаратным стылі вядзення, неаднароднасці дэпутацкага корпуса (добра было відаць, напрыклад, што многія дэпутаты проста не гатовы былі весці дыскусіі і прымаць усвядомленыя рашэнні на такім узроўні, а сёй-той наогул выглядаў у Палацы з'ездаў выпадковым чалавекам) першы З'езд народных дэпутатаў — гэта сапраўды гістарычная падзея ў жыцці і лёсе народа. Ён высветліў досыць поўную карціну таго становішча, у якім мы знаходзімся, яшчэ раз паказаў, што шлях, узяты партыяй на перабудову, безальтэрнатыўны. Ён паказаў таксама волю палітычнага кіраўніцтва няўхільна ісці гэтым шляхам.



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

# ДАЗВОЛЮ САБЕ НАГАДАЦЬ...

«З прычыны адсутнасці складу злачынства» рэабілітаваны Язэп Лёсік... Аднак, нягледзячы на гэта, яшчэ і сёння чаго толькі не прыпісваюць яму некаторыя нашы вучоныя, якой «туфты» не прачытаеш пра яго ў друку. Прычын на тое шмат, але не апошняе месца сярод іх займае няведанне фактаў біяграфіі гэтага чалавека. Каб памагчы тым, хто цікавіцца лёсам вядомага вучонага, актыўнага дзеяча беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, дазволю сабе нагадаць, не ўдаючыся ў ацэнкі асобных момантаў, яго кароткі жыццяпіс.

**Нарадзіўся Язэп Юр'евіч Лёсік 6 лістапада 1884 г. на Стаўбцоўшчыне ў Мікалаеўшчыне — той самай вёсцы, што і Якуб Колас. Больш таго, Язэп Лёсік быў дзядзькам народнаму песняру па матчынай лініі. Скончыў народную школу, спрабаваў паступіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, але «зрэзаўся» на ўступных экзаменах. Давялося праз нейкі час, у 1898 г., ехаць у Маладзечна, дзе таксама была настаўніцкая семінарыя, і паступаць туды. Гэты раз ён здаў уступныя экзамены, быў залічаны ў семінарыю. Але правучыўся там нядоўга — хлопец ён быў свавольны, не паддаваўся суроваму семінарскаму рэжыму, часта спрачаўся з настаўнікамі, за што і быў выключаны з семінарыі на другі год без права паступлення ў іншыя навучальныя ўстановы.**

**У Язэпа не было схільнасці да сельскай гаспадаркі, да працы ў полі. І таму яго паслалі да брата Антона, які працаваў настаўнікам у Ноўгарад-Северску на Чарнігаўшчыне. Там Язэп паступіў у гарадское вучылішча, якое паспяхова і скончыў у 1902 г. Там жа, у Ноўгарад-Северску, ён здаў пры гімназіі экзамен на народнага настаўніка і вярнуўся ў Беларусь — пачаў выкладаць рускую мову ў Бабруйскай сельскагаспадарчай школе.**

У 1903 г. Я. Лёсік зноў на Чарнігаўшчыне, цяпер ужо ў мястэчку Грамяч. Працуючы настаўнікам мясцовай школы, ён захапіўся палітычнай дзейнасцю — чытаў сялянам газеты, па-свойму іх каменціруючы, заклікаў сялян змагацца з несправядлівасцю, панамі. Такая дзейнасць настаўніка не магла быць незаўважанай, і ў 1905 г. яго арыштавалі і пасадзілі ў Ноўгарад-Северскую турму. У 1907 г. яго прывезлі на суд у Старадуб. Аднак суда не адбылося — Я. Лёсік уцёк з-пад варты. Некаторы час перахоўваўся ў Стоўбцах у сваякоў і знаёмых, спрабаваў перабрацца за граніцу. Павандраваўшы па розных гарадах і вёсках, урэшце, ён спыніўся пажыць у яшчэ аднаго свайго старэйшага брата, які працаваў начальнікам станцыі Красноўка, што на Украіне непадалёк ад Луганска.

У 1911 г. Я. Лёсіка арыштавалі, калі ён прыехаў у Ноўгарад-Северск да брата Антона, і прысудзілі да пажыццёвага пасялення ў Сібіры. Месцам яго сталага жыцця цяпер стаў г. Кірэнск і яго ваколіцы (Іркуцкая вобласць), потым Бадайбо, дзе ён пазнаёміўся і пасябраваў з Алесем Гаруном. Падтрымліваў Я. Лёсік сувязі і з «Нашай Нівай», дасылаючы туды свае артыкулы і апавяданні.

З Сібіры ў Беларусь ён вярнуўся пасля Лютаўскай рэвалюцыі, пасяліўся ў Мінску. Тут ён уступіў у Беларускую Сацыялістычную Грамаду, рэдагаваў газету «Вольная Беларусь» (1917-18). Прымаў актыўны ўдзел у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі, уваходзіў у склад яе Рады. Разам з іншымі «сябрамі» Рады падпісаў вядомую вернападданую тэлеграму, якую ўрад БНР паслаў 23 красавіка 1918 года кайзеру Вільгельму. Быў адным са стваральнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Калі белапалякі занялі Мінск, супрацоўнічаў у газетах «Звон» і «Беларусь» (апошняй быў некаторы час рэдактарам). З устанаўленнем Савецкай улады ў Беларусі быў арыштаваны, але прызнаў Савецкую ўладу, шчыра паабяцаў ёй служыць. Быў вызвалены з-пад арышту, і наступныя гады прысвяціў педагагічнай і навуковай дзейнасці — чытаў лекцыі ў БДУ, на курсах беларусазнаўства, удзельнічаў у рабоце тэрміналагічнай камісіі Інстытута беларускай культуры; ім напісаны і выдадзены ў гэты час «Практычная граматыка беларускай мовы» (1921), «Беларуская мова. Пачатковая граматыка» (1924), «Беларуская мова. Правапіс» (1924) і інш. Па складзеных ім падручніках вучыліся беларускія дзеці ў школах, тэхнікумах, вучылішчах. У 1928 г. яму была нададзена годнасць акадэміка Беларускай акадэміі навук.

У 1930 г. Язэп Лёсік быў арыштаваны ў час лячэння ад ішыясу ў Мацэсце, прывезены ў Мінск. У 1931 г. без суда ён быў высланы ў адміністрацыйным парадку на 5 гадоў у Саратаўскую вобласць (г. Аткарск). Тут Я. Лёсік выкладаў рускую літаратуру і мову ў педагагічным тэхнікуме. Потым, праз нейкі час, перайшоў на працу ў такі самы тэхнікум у Дубоўцы. Калі скончыўся тэрмін высылкі, двойчы прыязджаў у Мінск, дамагаўся, каб яму дазволілі вярнуцца ў Беларусь.

У 1936 г. яму была паабяцана праца ў Бранску. Але калі ён туды прыехаў, у працы яму было адмоўлена. Давялося ехаць на станцыю Злынка, што на самай мяжы з Беларуссю, — там было месца настаўніка. Жывучы ў Злынцы, Я. Лёсік часта наведваў Гомель. Бачыць Я. Лёсіка зноў у Беларусі уладам не хацелася, таму яму было прапанавана вярнуцца на месца яго высылкі — у Саратаўскую вобласць.

У 1938 г. Я. Лёсік быў паўторна арыштаваны і пасаджаны ў Саратаўскую турму. Там ён і памёр (1940 г.). Як пісаў яго брат Антон, «загадка ягонай смерці ў Саратаўскай турме крыху высветлілася, калі аддалі яго жонцы (дарэчы, яна была дачкою Ядвігіна Ш. — **Б. С.**) тое з адзежы, што засталося ад Язэпа. У гэтым ліку аддалі і гнілыя камашы. Калі рэмень мог згніць, значыць Язэп сядзеў у якойсьці мокрай камеры; відавочна, хацелі барзджэй звесці яго са свету. Магчыма, што ад такіх цяжкіх турэмных умоў вярнулася яго старая хвароба, якая пры адсутнасці дапамогі давяла да смерці, а магчыма, адбылося і што горшае» — гвалтоўная гібель.

У 1988 г. «з прычыны адсутнасці складу злачынства» крымінальная справа Я. Лёсіка, як дарэчы, і ўсіх тых, хто разам з ім арыштоўваўся, — В. Ластоўскага, А. Смоліча, С. Некрашэвіча і інш., — спынена.

**Барыс САЧАНКА.**

**Мірыам**

(з жахам)

Крыві?! Чыёй?

**Месія**

Маёй крыві.

**Мірыам**

Няхай
на іх галовы кроў твая падзе!

**Месія**

Не праклінай, вяртаецца праклён
на тога, хто сказаў яго...

**Мірыам**

Няхай!
Я, ведаю, праклятая навек,—
бо я не ўмею ворагаў любіць.
О, кожная усмешка фарысея
горш для мяне за скарпіёна злога.
Мне гадкая не так сама атрута,
як гнуткае агідлівае цела.
Я ўся дрыжу, калі яго убачу.
У вачах маіх бляск зброі адчуваю.
У словах маіх чую бразгат зброі—
я так узброена нянавісцю сваёй,
як каля царскай брамы вартавы,
на кожнага свой меч узняць гатовы,
хто на ўладара злое, што замысліць....

**Месія**

Дык мо й мяне ты гэтак ненавідзіш?

**Мірыам**

(з дакорам)

Настаўнік!

**Месія**

Ты, можа, любіш—скажаш?

**Мірыам**

Ты сказаў.

**Месія**

Сказаў я так: калі гаворыць хто,
што любіць госпада, а брата
ненавідзіць, —
няпраўда гэта.

**Мірыам**

То, можа, й той не любіць,
хто аддае душу?

**Месія**

Душу аддаць—
што азначае гэта?

**Мірыам**

Быць гатовым
загінуць за любоў.

**Месія**

Але ўжо гэта цела аддаваць,
а ў ім душы няма.

**Мірыам**

А хто бацькоў пакіне, і братоў,
ўсё найраднейшае, чым ён дагэтуль
жыў,—
для іншага—няўжо і той не любіць?

**Месія**

Хто выракся ўсяго, сябе—не зрокся,—
не любіць той.

**Мірыам**

О госпадзі, якое
ахвяры хочаш ты?

**Месія**

Ахвяры не хачу,—
любові толькі.

**Мірыам**

Я мушу ўсіх любіць?

**Месія**

Усіх.

**Мірыам**

Усіх, апроч цябе,—мажліва гэта.
Але ц я б е і ў с і х—мне не пад сілу.
Ды і за што, за што мне іх любіць?

**Месія**

«За што?»—пытаюць толькі недаверкі.

**Мірыам**

О, як любіць умеюць недаверкі!
Як полымя—гарача іх любоў!

**Месія**

А тая, што хачу я ад цябе,—
павінна быць, як сонца—ўсім свяціць.

**Мірыам**

О, што рабіць, калі ў душы маёй
не сонца—ноч, панурая, глухая.

**Месія**

Узыдзе сонца, можа, й для цябе.

**Мірыам**

(з раптоўнай надзеяй)
Настаўнік мой! ці не дазволіш ты
праліць мне кроў маю?

**Месія**

Вядома, за людзей?!

**Мірыам**

Не, не за іх!

**Месія**

Навошта ж проста так,
дарэмна праліваць?

**Мірыам**

А можа, недарэмна?
Крывёю, можа, выкупіць змагу...

**Месія**

Кроў без любові выкупіць не можа.

**Мірыам**

Калі б ты выкуп ад мяне прыняць
хацеў,—
каб не лілася кроў твая святая!

**Месія**

Ты хочаш выкупіць мяне?
Мірыам моўчкі ў знак згоды ківае галавой.

**Месія**

Дарэмна!

**Мірыам**

Няхай дарэмна! Ды дазволь загінуць—
калі не за цябе—з табою разам!

**Месія**

Я не Ваал—ахвяр дарэмных
не прымаю.

**Мірыам**

Месія!

**Месія**

Не Месія для цябе.
Не ведаеш мяне ты, не прымаеш.
(Адыходзіць.)
Мірыам застаецца ў пустыні адна.

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# УРОК ЧАЛАВЕЧАЙ ГОДНАСЦІ

У сваёй новай кнізе «Сцвярджэнне», выпушчанай выдавецтвам «Художественная литература», вядомы крытык і літаратуразнавец Барыс Ляонаў вядзе гаворку аб тым, як руская і савецкая проза адлюстроўвае тэму ратнага подзвігу народа ў гады вайны, а таксама расказвае пра мужнасць абаронцаў Радзімы ў мірны час. Для пацвярджэння сваіх разважанняў, аргументацыі вывадаў і абагульненняў ён звяртаецца да многіх кніг, што засведчылі высокі ідэйна-мастацкі ўзровень літаратуры аб вайне. Зразумела, што Б. Ляонаў не мог абысці ўвагай творчасць народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Яго аповесцям крытык прысвяціў спецыяльны раздзел «Рэха народнай бяды».

Кароткія звесткі біяграфічнага плана (разлічаны яны, вядома, на чытача, які з жыццяпісам аўтара знаёмы слаба)—свайго роду ўваходзіны ў неабсяжны быкаўскі свет. Як слушна зазначае Б. Ляонаў, у творчасці В. Быкава нямала значыць яго асабісты ваенны лёс, які «не завяршыўся пасля Перамогі», таму што пісьменнік вымушаны быў працягваць службу ў арміі. Усё гэта, канечне, дало багата назіранняў, адначасова паказала, наколькі тагачасная мастацкая праўда аб мінулай вайне не толькі разыходзіцца, а часам як бы ўступае і ў супярэчнасць з праўдай жыцця.

В. Быкаў адным з першых загаварыў аб вайне праўдзіва, узяўся за напісанне твораў, якія не ўкладваліся ў каноны тагачаснай крытыкі. Гэтыя спробы, на думку Б. Ляонава, рабіліся ўжо ў першых апавяданнях пісьменніка, але сапраўдным «творчым імпульсам, што натхніў зноў і ўсур'ёз узяцца за ваенную тэму», стала аповесць «Жураўліны крык». Ад гэтага твора своеасаблівы мост перакідваецца да «Трэцяй ракеты»— аповесці «мужнай і моцнай».

У полі зроку даследчыка і іншыя быкаўскія творы — «Альпійская балада», «Атака з ходу», «Дажыць да світання», «Сотнікаў», «Абеліск» і іншыя. Адзначаючы важкасць укладу В. Быкава ў савецкую шматнацыянальную літаратуру аб мінулай вайне, Б. Ляонаў падкрэслівае, што праз усе яго творы праходзіць «адзіная і скразная думка мастака аб вайне як аб нябачанай і нечуванай бядзе. У ёй няма і не можа быць нейтральнай паласы ў паводзінах чалавека, у поглядзе на тое, што адбываецца». І ўдакладняе: «Усё ў гэтым жыцці падначалена аднаму і галоўнаму: не толькі выжыць, ўратавацца, зберагчыся, але і выстаяць у схватцы з ворагам, асіліць нягоды, а калі трэба, дык і ахвяраваць сабой дзеля дасягнення запаветнага вызвалення зямлі».

Падагульняючы гаворку пра творчасць В. Быкава, аўтар завяршае яе словамі самога пісьменніка: «У гэтай вайне мы не толькі перамаглі фашызм і адстаялі будучыню чалавецтва. У ёй мы яшчэ ўсвядомілі сваю сілу і зразумелі, на што самі здатны. Гісторыі і самім сабе мы прыпаднеслі вялікі ўрок чалавечай годнасці».

**А. КУНЦЭВІЧ.**

# З ДУШОЙ ПЕСЕННАЙ, ПАЭТЫЧНАЙ

Агульнавядома, наколькі патрабавальным і цудоўным знаўцам паэзіі, фальклору быў Аляксандр Твардоўскі. Калі ён даваў высокую ацэнку якому-небудзь твору (Аляксандр Трыфанавіч быў вельмі скупым на пахвалы), значыць — гэта сапраўдная жамчужына літаратуры. Дык вось, А. Твардоўскі пісаў: «Наўрад ці знойдзецца чалавек у нашай краіне, які б не ведаў цудоўнай застольнай песні:

Бывайце здаровы,
Жывіце багата...

Але мы ведаем яе ў перакладзе рускім, а песня гэта беларуская, народная, якая з'явілася ў першыя гады калгаснай заможнасці і набыла пасля паўсюднае прызнанне».

Так высока ацэньваў Аляксандр Трыфанавіч песню «Бывайце здаровы», напісаную кампазітарам І. Любанам на словы А. Русака. У адным памыляўся вялікі паэт — лічыў гэтую песню народнай. Дарэчы, памылка гэтая пайшла з газеты «Правда», якая змясціла згаданы верш 1 студзеня 1937 года ў перакладзе на рускую мову з прыпіскай «Запісана са слоў тав. Русака ў калгасе «Чырвоны араты» Капыльскага раёна Беларускай ССР». Памылка доўгі час паўтаралася ў многіх аўтарытэтных выданнях. Варыянтам фальклору лічыў яе і М. Ісакоўскі, таму пераклад пад сваім прозвішчам уключаў у збор твораў.

Рэдкі выпадак, а песні «Бывайце здаровы» прысвечана спецыяльнае даследаванне. Сваю кніжку І. Цішчанка, выпушчаную выдавецтвам «Навука і тэхніка» ў 1984 годзе, так назваў — «Жыццё песні».

Адна толькі песня. А іх на вершы А. Русака напісана ажно 300! Прычым на асобныя вершы двума — трыма і нават шасцю кампазітарамі. Многія песні шырокавядомыя. Гэта — сурова-велічная «Лясная песня» і ўзвышана-лірычная «Беларусь — радзіма наша» кампазітара У. Алоўнікава. Гэта — «З другам» і «Дняпро» — плён садружнасці А. Русака і Ю. Семяняка. Гэта — «Дзе ты, зорка мая прамяністая» І. Лучанка...

І ўсё ж найбольшую славу А. Русаку прынесла песня «Бывайце здаровы». Яна гучыць у перакладзе на дзесяткі моў народаў СССР і замежныя. Першым яе выканаўцам была незабыўная Ларыса Пампееўна Александроўская. Сам Леанід Уцёсаў у гады барацьбы з фашызмам спяваў гэтую песню (словы былі зменены на ваенны лад), і яна адразу знаходзіла сваіх новых удзячных слухачоў...

Песенная творчасць А. Русака... Песеннай была і яго душа. З самага маленства захапляўся ён песняй. Першы свой кавалак хлеба зарабіў ігрой на скрыпцы. Таленавітым музыкам быў і бацька паэта Герасім Сямёнавіч, хораша спявала маці Марыля Ігнатаўна, якая першай заспявала сынаў верш, калі той даслаў яго з Ленінграда, дзе вучыўся ў Ленінградскай дзяржаўнай кансерваторыі і адначасова працаваў салістам сімфанічнага аркестра Малога опернага тэатра.

...У гэтыя дні Адаму Герасімавічу Русаку споўнілася б 85 гадоў. Каб жыў паэт, яго абавязкова можна было б засцець на роднай Капыльшчыне, сярод жыхароў Пясочнага, дзе нарадзіўся, ці ў невялікай вёсачцы Малінаўцы, дзе на месцы бацькоўскай хаты яшчэ ў 1967 годзе пабудаваў новую, у якой яму асабліва плённа працавалася. На жаль, ужо два гады, як няма А. Русака з намі.

Успомніць добрым словам свайго слаўнага земляка, яшчэ раз далучыцца да яго неўміручай творчасці і сабраліся ў мінулую суботу песачанцы, жыхары навакольных вёсак на літаратурна-музычную вечарыну, прысвечаную 85-годдзю з дня нараджэння паэта.

Уступным словам ушанаванне памяці земляка адкрыла сакратар Капыльскага райкома партыі А. М. Скрыган. Слова пра жыццёвы і творчы шлях А. Русака сказаў крытык А. Марціновіч. Выступілі М. Татур, Н. Галіноўская, У. Паўлаў, М. Федзюковіч, Г. Тумаш. Прыгадваліся сустрэчы з Адамам Герасімавічам, гучалі яго вершы і творы, прысвечаныя яму.

З прыхільнасцю сустрэлі прысутныя выступленне вядомага цымбаліста А. Лявончыка. У яго выкананні прагучалі мелодыі найбольш вядомых песень А. Русака, беларускія народныя песні. Музычную эстафету пераняў ансамбль «Капыльскія дудары», іншыя самадзейныя выканаўцы раёна.

У гэты ж дзень госці з Мінска ўсклалі кветкі на магілу А. Русака, што знаходзіцца на вясковых могілках у Пясочным. Адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі на адным з дамоў новай, маладзёжнай вуліцы, якой песачанцы прысвоілі імя земляка. Пісьменнікі пазнаёміліся з экспазіцыяй, прысвечанай жыццю і творчасці А. Русака, арганізаванай у мясцовай бібліятэцы.

Ва ўшанаванні памяці А. Русака прынялі ўдзел яго жонка Марыя Яўгенаўна, сястра Валянціна Герасімаўна, дачка Людміла Адамаўна.

**НАШ КАР.**

## *З літаратурнай спадчыны*

Пра Хведара Чэрню крытыка гаварыла мала, прадузята не хочучы прыслухацца да яго голасу, сур'ёзнага і самабытнага. Упэўнены — дарма! Лірыка яго апошніх кніг даверлівая, трапяткая, асвечаная лёгкім сумам асенняга сонца. І чатырохрадкоўі яго пазначаны глыбокім зместам, роздумам сталага чалавека і паэта, якому шмат бачылася ў паўсядзённасці і з паўсядзённасці.

Крытыка, мы, яго паплечнікі, не сказалі гэтага Хведару Чэрню пры жыцці. Сёння, калі яму споўнілася б пяцьдзесят гадоў, застаецца шкадаваць, як і шмат пра што не зробленае, і пра гэта.

...Федзя Чэрня не помніў сваёй маці. Яна памерла, калі яму быў нейкі тыдзень ад нараджэння. У самастойнае жыццё ўваходзіў праз прахадную Мінскага аўтазавода. Скончыў Вышэйшую партыйную школу. Быў шчыры і шчодры, добра іграў на гармоніку. Яго не раз крыўдзілі выпадковыя таварышы, якім ён без аглядкі прапаноўваў сваю дружбу. Насуперак гэтаму Хведар Чэрня быў напоўнены дабрынёй, яна была арганічнай для яго адкрытай душы. Нездарма і ў назвах першых двух зборнікаў прысутнічае гэтае слова — «Добрай раніцы, людзі!» (1966) і «Дабрэе свет» (1968).

У 1971 годзе мы з Хведарам Чэрнем па нашых заявах на імя генерала Аляксеева (так звалі дабрэйшага чалавека і цікавага рускага пісьменніка генерал-маёра Мікалая Іванавіча Аляксеева) паехалі ў канцы лета на вайсковыя зборы ў газету Далёкаўсходняй ваеннай акругі «Суворовский натиск». Туды — цягніком, назад — беспасадачным пералётам — да Масквы. Каб паглядзець на абсягі краіны і з акна поезда і з ілюмінатара самалёта: Байкал блізка, — хоць жменяй зачарпні, а Падкаменная Тунгуска з дзесяці тысяч метраў віецца быццам блякла-блакітны каснік.

У адным з вершаў Федзя пісаў:

У прасвеце на міг, нібы чайкі крыло,
Прамільгнуў Сахалін і згубіўся.
І куды нас, Валодзя, з табой занясло?
Гэты край мо ў Замошшы прысніўся?

Гэта пра тое, як мы з Хведарам Чэрнем з Хабараўска па Амуры выйшлі ў Ахоцкае мора. Там, далёка ад родных мясцін, прайшла выпрабаванне наша дружба, якой я ганаруся.

З ненадрукаванай спадчыны паэт пакінуў дзіцячы зборнік, нямала вершаў, няскончаную паэму (на 63 старонкі тэксту), не пазначыўшы нават яе назвы. Але па ўсім відаць, што ў задуме гэта быў шматпланавы эпічны твор. Увазе чытачоў «ЛіМа» прапануецца ўрывак з яго.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ.**

**Хведар ЧЭРНЯ**

## Родны бераг

Якраз на час той у павеце
Збіраў паседжанне Рэўком.
«Хто пастаяць, — было рашэнне, —
За рэвалюцыю гатоў,
Сваё сумленне і рашэнне
Трымаць на сцяг бальшавікоў».
І, не губляючы дарэмна
Ні дня, Курачык малады
Адзеў шынель, падціснуў рэмнем,
Падаўся з вечара туды.
Хоць адгаворвала Агатка
(Міколу разбірала млосць),
Напаміналa, што дзіцятка
У хаце з'явіцца вось-вось, —
Пайшоў. Ад плуга, ад сярмягі.

Не пралетарый, не герой.
Цаной штыка, цаной адвагі
Не мог ён не папоўніць строй.
Пайшоў, як тыя, хто ў бушлатах,
Хто ад машын, хто ад станка,
Стаць рэвалюцыі салдатам
Пад іменем бальшавіка.

На свет агледзеўшыся троху,
З вышынь звычайных спраў і дзіў,
Нібы на цэлую эпоху,
На год СЕМНАЦЦАТЫ глядзім.
А век жа наш яшчэ дваццаты.
Ідзе, спяшае на пакой.
І нам крыху сарамнавата
Перад дзядоўскай сівізной.
У паралонах і нейлонах,
Мы ледзь падобны з бальшака
На тых, хто ў дрогкіх эшалонах
Сцяной імчаў на Калчака.
Мы добра знаем, у шаснаццаць
Свой полк у бой вадзіў Гайдар!
Чыё зялёнае юнацтва
Хрыпіць, бурчыць пад звон гітар?
Стае нам хлеба і да хлеба,
Таксі матаем па начах.
Вось так яно: глядзім на неба
Ды ўверх расцём, што ў парніках.
І ўсё ж касцёр не патухае,
Калі ёсць іскры—толькі зруш,
Так і між намі не знікае
Адзінства поглядаў і душ.
Магу сцвярджаць (хай на паверцы
Пацвердзяць словы дактароў),
Што ў юначых нашых сэрцах
Гарыць і нашых продкаў кроў.
І розум, смеласць іх і мудрасць,
Якімі бралі гарады,
Паўтораць юныя, як мужнасць,
У грозны час, у час бяды.
Не, моцы колішняй не згубім,
А гарту, хлопцы, не займаць,
Хто рэвалюцыю на Кубе
Тварыў у дваццаць-дваццаць пяць?!
Яны, як мы, такія, можа,
Яны — у бой. На працу — мы.
І калі мы ім не паможам,
Памогуць Леніна тамы.
Тамы! Парадам і паходам
Прайшоўшы ўсе мацерыкі,
Яны стаяць перад народам,
Нібы Чырвоныя палкі.
І як жа нам не быць у крыўдзе,
Што не ад радасці, ад ран
Былых
калісь, ад нас адыдзе
Апошні самы ветэран.
Тады жыццё яго, ўспаміны
Пра подзвігі на ўзор вякам
Панесці ў даль часоў павінны,
Каб расказаць сваім сынам.
Не, мужных ленінцаў калоны
Не парадзеюць. Знаем мы,
Што ўсе іх слаўныя імёны
Ляглі старонкамі ў тамы.

Публікацыя Н. А. ЧЭРНІ.

# ПУШКІНА ГЕНІЙ НЕЎМІРУЧЫ

Літаратурна-музычны вечар «Пушкін і нацыянальная паэзія» ў гонар 190-годдзя з дня нараджэння паэта правялі ў Маскве 6 чэрвеня Маскоўскі фонд культуры, Усесаюзны цэнтр прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў СССР з удзелам Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны і іншых нацыянальных культурных суполак сталіцы. На рускай, украінскай, беларускай, армянскай, аварскай, татарскай мовах выказалі ўдзельнікі вечара — паэты, артысты, спевакі — велічнае хараство пушкінскага слова, і адначасна непаўторнасць кожнай асобнай нацыянальнай культуры, узбагачанай творчым геніем Расіі.

Прыпаў да сэрца прысутных і беларускі матыў гэтага шматгалосага, разнамоўнага хору, што прагучаў пад скляпеннямі Усесаюзнай дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна. Рыгор Барадулін гаварыў пра сувязі А. С. Пушкіна з Беларуссю, прачытаў два яго вершы ў сваім перакладзе. Творы вялікага рускага паэта выканала і Г. Рыжкова. Прагучала таксама песня «Пушкінскія бярозы», напісаная кампазітарам-беларусам з Масквы А. Санько на словы В. Сарокіна.

**А. ЛЯМЕЦ.**



Малюнак М. ВЕЦІКА.

# «МОЙ ДОБРЫ БАЦЬКА»

Яшчэ ў верасні 1824 г. ліцэйскі таварыш Пушкіна, вядомы паэт і рэдактар альманаха «Северные цветы» Антон Антонавіч Дэльвіг збіраўся наведаць свайго сябра, які знаходзіўся ў ссылцы ў сяле Міхайлаўскім. Але Дэльвігу давялося змяніць сваё рашэнне, бо да яго ў Пецярбург (паэт служыў тады на пасадзе бібліятэкара пецярбургскай публічнай бібліятэкі) нечакана прыехаў бацька і настойліва прасіў наведацца да яго ў Віцебск.

20 сакавіка 1825 г. Дэльвіг піша Пушкіну з Віцебска, што прыедзе ў Міхайлаўскае ў пачатку красавіка і перадае сардэчнае прывітанне ад бацькі.

Бацька Дэльвіга, таксама Антон Антонавіч, як вядома, быў начальнікам другой акругі і асобнага корпуса ўнутранай аховы ў Віцебску, меў чын генерал-маёра. Паводле сведчання яго нявесткі Соф'і Мацвееўны Дэльвіг (уроджанай Салтыковай), ён быў чалавекам гасцінным, абаяльным. «Мой добры бацька», — так коратка характарызуе яго сын у пісьме да Пушкіна 8 ліпеня 1828 г.

У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР знойдзены чатыры справы аб адміністратыўнай дзейнасці А. А. Дэльвіга ў Віцебску, якія даюць яскравае ўяўленне аб яго маральным абліччы.

У сваіх рапартах віцебскаму генерал-губернатару князю Н. Н. Хаванскаму А. А. Дэльвіг рэзка выступае супраць памешчыцкага ўціску ў Віцебскай губерні. Памешчыкі-прыгоннікі не лічаць сваіх прыгонных за людзей і распараджаюцца іх лёсам, як хочуць.

У рапарце ад 4 мая 1825 г. Дэльвіг піша, што «прошлого 1824 года в июне-месяце невельским исправником Реутом на сенокосе пойман беглый военный ратник Иосиф Григорьев, по прозванию Прищеп, 70 лет от роду». Прыгонны селянін памешчыка Невельскага павета Мікалая Шышкі быў здадзены ў салдаты, хоць селяніну ўжо споўнілася 50 гадоў. Прышчэп быў прызначаны салдатам унутранай аховы, «на верность присягу чинил в городе Полоцке и с командою отправлен в город Брест-Литовский. Милиционных ратников определяли в разные полки, а он по старости лет никуда не был определен и отправлен в Смоленск, а потом в город Дисну Могилевской губернии. затем пришел в вотчину помещика Шишки, явился к господину своему». Памешчык нечакана аказаў яму «міласць». Селянін «не только 17 лет проживал, он был им, Шишкой, водворен на землю, был женат на крестьянке Семеновой, имел двух сыновей Мокея, 20 лет, и Трофима, 11 лет. Помещик отпускал его на заработки в другие уезды, давал ему увольнение». Але «міласць» памешчыка працягвалася нядоўга. Аднойчы панскі ўпраўляючы Іван Осіпавіч загадаў Прышчэпу, «чтоб он не был в вотчине, а куда хотел, чтобы шел, но он не знал, где бы для себя сыскать пристанище». Тады Прышчэп прыбыў у вотчыну другога памешчыка Жукоўскага, «у крестьянки Устиньи Михайловой нанялся косить сено, и на сенокосе взят невельским земским исправником и доставлен в суд». Далей гаворыцца, што «сей военный ратник содержался в невельской градской тюрьме и терпел напрасное изнурение». Але выявілася, «что этого крестьянина не можно почитать дезертиром военным, ибо он в настоящую военную службу принят не был, а также не был причислен ни в какой полк и не мог быть принят по законоположению за старостью лет, а когда учинил отлучку, ему было более 50 лет».

Дэльвіг падкрэслівае, што ў няшчасцях гэтага беларускага селяніна вінаваты былі толькі яго памешчык і ўпраўляючы, таму ён настойліва просіць «справу пра беглага ратніка Прышчэпу даручыць ніжняму земскаму суду да даследавання», каб як мага хутчэй вызваліць невінаватага селяніна з-пад варты.

Дэльвіг таксама з глыбокім абурэннем гаворыць, што іншыя памешчыкі-прыгоннікі фанабэрацца сваім прывілеяваным становішчам, жывуць па прынцыпе «мне ўсё дазволена», учыняюць усялякія беззаконні і гвалты і ўпэўнены ў сваёй поўнай беспакаранасці.

У рапарце віцебскаму генерал-губернатару Хаванскаму ад 5 мая 1825 г. Дэльвіг піша, што яму было перададзена прашэнне радавога салдата віцебскага гарнізоннага батальёна Якіма Раманоўскага, у якім гаворыцца, што Раманоўскі і браты яго — дваранскага паходжання, «остались после родителей своих малолетними и в то время помещик Себежского повета (уезда) Эсман отобрал у них дворянские документы на право владения имением и вместо своих крепостных крестьян отдал в воинскую службу». Як бачым, Эсман сваім характарам нагадвае пушкінскага Траякурава. Дэльвіг лічыць крайне неабходным віцебскаму праўленню не марудзячы арганізаваць судовае следства, каб высветліць, па якім праве Раманоўскі і яго браты пазбаўлены дваранскіх прывілеяў і хто спрыяе самавольству Эсмана.

Мы не ведаем, як былі закончаны справы селяніна Прышчэпы і радавога Рамаоўскага, але відно шчырае імкненне Дэльвіга выкараніць дзікунскае памешчыцкае самавольства.

Дэльвіг таксама прыкладаў усе намаганні, каб навесці парадак у дaвераным яму гарнізоне, але, як відаць з рапартаў, ён не быў падтрыманы губернатарам.

У рапарце князю Хаванскаму ад 27 красавіка 1825 г. Дэльвіг з абурэннем піша, што многія афіцэры ўнутранай аховы не толькі не выконваюць сваіх абавязкаў сачыць за парадкам у горадзе, але і самі паказваюць дрэнны прыклад. Яны ўступаюць у злачынныя зносіны з крымінальнікамі, зняволенымі, дапускаюць да арыштантаў староннiх людзей. Некаторыя афіцэры нават бяруць хабар. Так паручык Грыгор'еў, хоць і затрымаў кантрабандыста, які спрабаваў пераплавіць «три половинки тонкого сукна за реку Двину», але адпусціў яго і нават не паведаміў свайму начальству. «За таковой самовольный поступок,— піша Дэльвіг,— в пример другим он был наряжен бессменно в караул на гауптвахту на пятеро суток». У той жа час Дэльвіг прадпісаў «подтвердить всем господам офицерам, что впредь за подобные самоуправства преданы будут военному суду». Генерал-губернатар князь Хаванскі, разгледзеўшы рапарт Дэльвіга, прызнаў довады яго пераканаўчымі, але ніякай дапамогі ў навядзенні парадку не аказаў.

Генерал-маёр Дэльвіг, віцебскі знаёмы Пушкіна, застаўся ў памяці тых, хто яго ведаў, як чалавек высакародны, праўдзівы і прынцыповы. Гэтыя якасці ён перадаў свайму сыну, аднаму з самых блізкіх сяброў Пушкіна.

Бацька Дэльвіга памёр у Віцебску 8 ліпеня 1828 г. У сувязі з гэтым яго сын піша Пушкіну: «Хлопочи, хлопочи обо мне, брат Пушкин, и пожалей меня. Мой добрый отец умер». Пушкін горача адклікаецца на гэтае пісьмо. Ён просіць сваю ўплывовую знаёмую Елізавету Міхайлаўну Хітраво (дачку М. І. Кутузава) памагчы яго сябру, які «ходатайствует о пенсии для своей матери, вдовы генерала Дэльвига». Уся сям'я Дэльвіга была асабліва блізкая і дарагая вялікаму паэту. «Никто на свете не был мне ближе Дельвига»,— пісаў Пушкін П. А. Плятнёву 21 студзеня 1832 года.

**І. СЦЯПУНІН,**
кандыдат філалагічных навук.

## НА блакітным ЭКРАНЕ

**З 19 ПА 25 ЧЭРВЕНЯ**

**21 чэрвеня, 19.30**

**«РОДНАЕ СЛОВА»**

У чарговым выпуску перадачы сваімі думкамі пра неабходнасць надання статуса дзяржаўнасці беларускай мове дзеляцца загадчык аддзела слоўнікаў «БелСЭ» Я. Саламевіч, загадчык рэдакцыі крытыкі выдавецтва «Мастацкая літаратура» Я. Лецка, рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе» М. Шавыркін, выкладчык БДУ імя Леніна У. Ламека.

Вы ўбачыце таксама рэпартаж з чарговага пасяджэння Пастаяннай камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР, пачуеце кароткія паведамленні міністра народнай адукацыі БССР М. Дземчука і міністра культуры БССР Я. Вайтовіча пра тыя захады, якія робяцца згаданымі ўстановамі дзеля павышэння прэстыжу беларускай мовы.

**21 чэрвеня, 21.40**

**«ЛІДЭР»**

Музычнае шоу-конкурс, у якім прымуць удзел А. Ціхановіч і Я. Паплаўская, салісты Дзяржаўнага эстраднага аркестра І. Афанасьева, В. Касенка, У. Кудрын, будучыя ўдзельнікі фестывалю эстраднай песні ў Юрмале А. Геваркян, А. Пятросава, С. Паўліашвілі, ленінградскі рок-балет пад кіраўніцтвам В. Махрына, група У. Раманава «Саюз».

**22 чэрвеня, 16.30**

Дж. Вердзі. «Рэквіем».

Выконваюць Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Армянскай ССР і Дзяржаўны сімфанічны аркестр Беларускай ССР.

**23 чэрвеня, 22.15**

**«ЧУЖАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА»**

Спектакль Беларускага тэлебачання паводле аднайменнага рамана В. Адамчыка.

**23 чэрвеня, 23.45**

**«ТЭАТР І ЧАС»**

Фестываль «Прыбалтыйская тэатральная вясна». Вільнюс-89.

**24 чэрвеня, 11.15**

**«МЕТРАНОМ»**

«Музыка вакол нас» — тэма чарговай праграмы. Дыскусію з дзеячамі навукі і тэхнікі вядзе народная артыстка СССР С. Данілюк.

**24 чэрвеня, 13.35**

**«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ»**

Вас чакае падарожжа па выставачных залах Мінска.

Вядучы У. Сцепаненка.

**24 чэрвеня, 16.10**

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

На пісьмы гледачоў адкажа У. Дамашэвіч, экспрэс-інфармацыя пазнаёміць з новымі выданнямі. На заканчэнне — працяг інтэрв'ю з М. Ермаловічам, аўтарам «Старажытнай Беларусі».

Вядучая Л. Хейдарава.

**25 чэрвеня, 15.15**

**«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»**

Э. Агароднік. В. Зуёнак. «Ты помні дзень». Выконвае У. Стамаці.

**25 чэрвеня, 18.40**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы А. Глобуса чытае артыст А. Аверкаў.

**25 чэрвеня, 23.25**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 00222 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы—33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі—23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.